АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА,
ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ ІМЯ К. КРАПІВЫ

# ПЕСНІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ



МІНСК
"БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА"
1997

УДК398.8(=826)(438)
ББК82.3(4Беи)
П 28

Серыя заснавана ў 1970 г.



Запіс, укладанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі Міколы Гайдука

Рэдактары:

Т. А. Дубкова, А. С. Ліс, А. С. Фядосік

Рэцэнзенты:

канд. філал. навук А. І. Гурскі,
канд. філал. навук І. І. Крук

Песні Беласточчыны/ Уклад. Мікола Гайдук. —
П28 Мн.: Беларуская навука, 1997. — 367 с. — (Беларус. нар. творчасць).

ISBN 985-08-0052-6.

Беларусы Беласточчыны добра захавалі традыцыйную народную культуру, пачэснае месца ў якой займаюць песні. Народная творчасць Беласточчыны зведала ўплыў польскай, украінскай і літоўскай паэзіі, але захавала сваю беларускую этнічную адметнасць. На сучасным этапе найбольшае пашырэнне маюць калядныя, валачобныя, велікодныя, восеньскія, вясельныя і хрэсьбінныя, любоўныя і сямейна-бытавыя песні. Усе яны належным чынам прадстаўлены ў томе.

Разлічаны на фалькларыстаў, этнографаў, філолагаў, студэнтаў і выкладчыкаў.

ББК82.3(4Беи)

ISBN 985-08-0052-6

*Маім Бацькам*
*святой памяці Марыі і Раману*
*гэтую працу прысвячаю.*

*Мікола Гайдук*

# ПЕСНІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Народная песня дапамагала і дапамагае да сённяшняга дня беларусам Беласточчыны на працягу доўгіх стагоддзяў захоўваць сваю нацыянальную тоеснасць. Яна гуртавала і гуртуе не толькі тых, хто спявае разам з іншымі ці ўпаасобку, але і тых, хто яе слухае, бо прабуджала і прабуджае ў іх пачуццё сваёй адметнасці, сваёй душэўнай красы, свайго гонару і нацыянальнай свядомасці.

Родная песня спадарожнічае беларусу ад нараджэння і да смерці, бо ёю вітаюць прыход чалавека на свет, зычачы яму і ягоным бацькам шчаслівае долі, з ёю ўводзяць з вялікай надзеяй на шчасце ў дарослае жыццё, адпраўляючы маладую пару ў Божы храм да шлюбу і спраўляючы вяселле, ёю, прасякнутай болем, развітваюцца ў апошні час прабывання людской істоты на зямлі.

Наша песня — гэта самы важкі доказ незвычайнай таленавітасці народа ў глыбокім, трапным і ўзрушальным выказванні музычнай і паэтычнай творчасцю пра ўсе самыя важныя падзеі ў чалавечым жыцці, пра светлыя і цёмныя яго бакі.

Беларусы Беласточчыны — найдалей на захад высунутая частка беларускага народа. Таму яна з дагістарычных часоў мяжуе з літоўскім, польскім і ўкраінскім насельніцтвам. Гэта знайшло адбітак у розных відах народнай творчасці як беларусаў, так і нашых паўночных, заходніх і паўднёвых суседзяў. Узаемасувязі і ўзаемаўплывы заўважаюцца і ў некаторых песнях зборніка. Але яны складаюць невялічкую частку твораў, якія пяяліся і пяюцца беларусамі Беласточчыны. Асновай жа з'яўляецца самабытная беларуская музычна-паэтычная творчасць з усімі ўласцівымі толькі ёй адметнымі асаблівасцямі.

Не толькі песні, але і ўся іншая беларуская народная творчасць Беласточчыны — казкі, легенды, прыказкі, выслоўі, будаўніцтва, ткацтва, даўнія строі і ўвесь побыт — складаюць неад'емную арганічную частку агульнабеларускай народнай культуры. Доказ таго — роднаснасць многіх песень з Беласточчыны, змешчаных у гэтым зборніку, з

песнямі Гродзеншчыны, Полаччыны, Міншчыны, Палесся і іншых рэгіёнаў Беларусі.

Адметнасцю народнай музычна-паэтычнай творчасці беларусаў Беласточчыны на сучасным этапе з'яўляецца тое, што тут найбольш пашыраныя з абрадавых песень каляндарнага круга творы калядныя, валачобныя, велікодныя і восеньскія, а з сямейна-абрадавых — вясельныя і хрэсьбінныя. У пазаабрадавых пераважаюць любоўныя і сямейна-бытавыя. Аднак неабходна падкрэсліць, што выступаюць тут у большай ці меншай колькасці ўсе віды беларускай народнай песні, нават, хаця і ў рэліктавай форме, хаўтурныя галашэнні. Абавязкова трэба адзначыць таксама наяўнасць у нашым рэгіёне вялікай колькасці разнастайных праваслаўных духоўных песень. Спевакі (пераважна сярэдняга ўзросту жанчыны, нярэдка і мужчыны) спісваюць іх у спецыяльныя тоўстыя сшыткі (у некаторых запісана па 100 і болей твораў) і пяюць, сабраўшыся невялікімі грамадкамі ў часе пастоў, напярэдадні вялікіх царкоўных святаў, пры нябожчыках. Сапраўдны "фестываль" праваслаўных народных духоўных спеваў адбываецца ноччу з 18 на 19 жніўня (перад Праабражэннем Гасподнім) на св. Гары Грабарцы, дзе дзесяткі такіх грамадак, рассыпаных па ўсім наваколлі Свята-Спасаўскага храма, пры дрыжачым святле свечачак з вечара і да раніцы пяюць са сваіх рукапісных зборнікаў набожныя песні.

Зборнік, які вы трымаеце ў руках, — гэта вынік больш за 12 гадоў маіх вандровак па Беласточчыне (1972 — 1985) у пошуках самых беражлівых захавальнікаў нашых песенных скарбаў. Дзеля гэтага з'ездзіў я ды схадзіў з магнітафонам увесь наш рэгіён. У адкрыванні спевакоў (пераважна жанчын, бо яны — найвярнейшыя носьбіты і захавальніцы нашай песеннай традыцыі) мне на дапамогу прыходзілі настаўнікі, перш за ўсё роднай беларускай мовы, а таксама нашы праваслаўныя святары. Нярэдка даводзілася мне чуць, што калі б я заявіўся сам, г. зн. без настаўніка ці бацюшкі, дык не пачуў бы ніводнай песні. Вядома, мяне цікавілі тыя выканаўцы, хто валодаў найбольш багатым рэпертуарам. Пераважна гэта былі жанчыны старэйшага (некаторыя з іх непісьменныя!) і сярэдняга ўзросту, хаця і здараліся маладзенькія дзяўчаткі і маладзіцы, якія ведалі шмат даўніх народных песень, як, напрыклад, Марыся Шумарская з в. Буды, што ў Белавежскай пушчы, ці Вера Папова з Беластока. Рэпертуар некаторых спявачак быў, здавалася, невычэрпны. Па некалькі дзесяткаў

твораў наспявалі мне Антаніна Лясота з Цісоўкі, Марыя Гайдук (гэта аднаго прозвішча і імя з маёй маці жанчына, але цалкам чужая нам асоба) з в. Полымя, Ганна Крупіч з в. Дабрывада і шэраг іншых. Усім ім — і тым, што наспявалі мне многа песень, і тым, што заспявалі толькі адну, — сардэчна дзякую за зразуменне і прыхільнасць да нашай агульнанацыянальнай справы ратавання скарбаў беларускай культуры.

На вялікі жаль, многія з маіх шаноўных спявачак і спевакоў ужо адышлі на вечны спачын, забраўшы з сабою назаўсёды і тыя жамчужыны роднай музычна-паэтычнай культуры, якой былі яны носьбітамі і якой мы не патрапілі ўсю запісаць ад іх. Але і за тое, чым яны падзяліліся з намі, вялікае ім дзякуй і вечную памяць падай ім, Божа.

Знаходзіў я песні не толькі ў глухіх, адлеглых мясцінах, але і адкрываў таксама ў мястэчках (Белавежа, Нараўка, Гарадок і інш.) і ў самім Беластоку. Таму не будзе перабольшаннем сказаць, што беларускай народнай песняй прасякнута жыццё ўсіх беларусаў Беласточчыны незалежна ад таго, дзе яны пражываюць. Пацвярджаюць тое не адны запісы песень, што трапілі ў гэты зборнік, але і бесперапынная на працягу больш за 40 гадоў актыўная дзейнасць народных беларускіх хораў у Гарадку, Беластоку і іншых мясцовасцях. У апошнія дзесяцігоддзі на Беласточчыне дзейнічала, часам толькі па некалькі гадоў, больш за 60 харавых калектываў.

Нярэдка здаралася так, што спявачка ці спявак, ад якіх я запісаў, а затым змясціў у "Ніве" ці гадавіку "Беларускі каляндар" песні, адважваліся выступаць на розных мясцовых урачыстасцях, нават прымаць — і па некалькі разоў — удзел у штогадовым конкурсе "Беларуская песня", які праводзіць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, і займаць у ім высокія месцы. Гэтак было з Лідзіяй Салавей з в. Лявонавічы, Клаўдзіяй Дамань з в. Новая Воля, Надзеяй Грыцук з в. Навасёлкі, Нінай Такаюк з в. Мікулічы і шэрагам іншых.

У захаванні і прадаўжэнні традыцый народнай музычна-паэтычнай творчасці выдатную ролю спаўняла і спаўняе праваслаўная Царква. Пераважна пад кіраўніцтвам мясцовых царкоўных рэгентаў "ставіліся" і "ставяцца" галасы, фармуецца выканаўчая культура і мацнее зацікаўленне, а з бегам часу — надзвычайная адданасць спевам, у тым ліку і народных песень. Таму вельмі часта, асабліва на пачатку зараджэння беларускага народнага харавога руху на Беласточчыне, аснову народных хораў складалі спевакі з

царкоўных хораў. У зборніку няшмат твораў, запісаных ад беларусаў-каталікоў. Затое вельмі ахвярна і плённа працавалі пры нарыхтоўцы нотных запісаў з маіх магнітафонных плёнак выдатныя педагогі-каталікі: Ян Бондар — заслужаны дзеяч харавога мастацтва, выкладчык Вышэйшай тэатральнай школы ў Беластоку, і святой памяці Эдвард Гойлік — шматгадовы выкладчык музыкі і дырыжор хору Педагагічнага студыюма ў Беластоку, аўтар музыкі да слоў беларускага паэта з Беласточчыны Віктара Шведа. З імі працавалася таксама прыемна, як і з праваслаўнымі беларусамі-музыказнаўцамі: Людмілай Панько — выхаванкай славутай Віленскай беларускай гімназіі, выпускніцай Варшаўскай кансерваторыі, шматгадовым дырыжорам розных беларускіх хораў, у тым ліку і беларускага хору ў Беластоку, аўтарам шэрагу песень на словы беларускіх паэтаў, а таксама з Сяргеем Лукашуком, выпускніком Варшаўскай вышэйшай музычнай школы, выдатным арганізатарам і дырыжорам беларускіх харавых і эстрадных калектываў у Бельску-Падляскім, дырэктарам Бельскага дома культуры.

У апошнія 40 гадоў найбольшы ўклад у захаванне і развіццё беларускай музычна-паэтычнай народнай культуры ўнесла Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго ахвярныя дзеячы не толькі на Беласточчыне, але і ў Варшаве і Гданьску. Імі былі створаны ўмовы для абуджэння ў беларусаў пашаны да сваёй культуры, дадзены магчымасці яе публічнага дэманстравання не толькі ў беларускім асяроддзі. Разнастайныя песенныя конкурсы для дарослых і моладзі, народныя фэсты з удзелам таксама запрошаных з Рэспублікі Беларусь калектываў, штогадовыя Свята беларускай культуры і Фестываль беларускай песні — усё гэта спрыяе прадаўжэнню песеннай традыцыі і павышэнню выканаўчага майстэрства паасобных спевакоў і вялікіх харавых калектываў.

Беларусы Беласточчыны перш за ўсё песняй духоўна ядналіся і яднаюцца са сваімі суродзічамі з усіх беларускіх зямель: і з тымі, што сёння жывуць у суверэннай Беларусі, і з тымі, якіх нядоля рассеяла па ўсім свеце.

Родная песня была спакон веку і застанецца, пэўна, яшчэ на немалы час найзванчэйшым, найяскравейшым і наймацнейшым нашым нацыянальным сцягам вось тут, на прасторах Аўгустоўскага Паазер'я да Паазер'я Уладаўскага, дзе мы спрадвечна жылі, жывём і жыць будзем у наступных пакаленнях.

*Мікола Гайдук*

## ЗІМОВЫЯ ПЕСНІ

**1**

Allegretto

До-бры ве- чар ўсім вам, шчас-лі- ва ра- дзі- на,—
па- ра- дзі- ла Дзе- ва Прад-веч-на- [redacted] Сы- на.
Хва- лу Бо- гу дай- ма, ве- се- ла спя-вай- ма—
свя- ты ве- чар на зям- лі!

1. Добры вечар усім вам, шчаслiва радзiна,
Парадзiла Дзева Прадвечнага Сына.

Хвалу Богу дайма, весела спявайма —
Святы вечар на зямлi!*

Не ў пышных палацах Хрыстос нарадзiўся,
Але ў бедных ясельцах Хрыстос упавiўся.

З Ражджаством Хрыстовым мы вас паздраўляем
І разам з вамi Хрыста праслаўляем.

Добры вечар, людзэ, хай вам радасць будзе,
Усе мы вас вiтаем i шчасця жадаем.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

2. Бог ся раждае, хто ж то можа знаці?
Ісус Му імя, Марыя Му Маці.

Тут ангелы чудзяцца,
Раджонага баяцца,
А вол стаіць, трасецца,
Асёл смутны пасецца,
Пастырыя клячуць,
У плоці Бога бачуць,
Тут жа, тут жа, тут жа,
Тут жа, тут!*

Марыя Му Маці прыгожа спявае
І хор ангельскі ёй дапамагае.

Іосіф старэнькі калыша Дзіцятка:
"Люляй жа, люляй, малое Атрачатка!"

Трые царые к вяртэпу прыйдоша,
Ліван і смірну, златы прынесоша.

А пастырые к нему прыбегаюць
І яко Цара свайго вітаюць.

І мы днесь к Небу прыбегайма,
Раджонаму Богу хвалу-чэсць аддайма!

3. Радуйся, Адама племя,
Бог радзіўся ў Віфліеме!

Вясёла навіна: радзіла нам Сына,
У вярцепе спелянала, сенам Хрыста пакрывала
Марыя!**

Радуйся, стары Адаме,
Радуйся і ты, Аўрааме!

---

* Прыпеў ад слоў "Тут ангелы..." і да слоў "...тут жа, тут!" уключна паўтараецца пасля кожнай страфы.

** Прыпеў ад слоў "Вясёла навіна..." і да слова "Марыя" ўключна паўтараецца пасля кожнай страфы.

Радуйся і ты, Давідзе,
Цар з неба на зямлю прыйдзе!

Радуйцеся, усе святыя,
Радуйцеся, людзі смутныя!

Пастухі статак пасалі,
Ангелы ім расказалі.

Ангел сказаў: "Пабяжыце,
Бога з плоці там узрыце!"

Бог плакаў, лежачы на сене,
Каб усцешыць людске племя:

Паглядзіце вы, багаты:
Бог радзіўся без хаты!

Ані хаты, ні палаты —
Хрыстос радзіўся паміж ягнятаў.

Спевам Яго пацяшайма
І слязьмі саграфайма!

Просім Цябе, Хрысце Цару,
Прыймі ад нас песні ў дары.

4. Добры вечар табе, пане гаспадару!
Радуйся, ой, радуйся, зямля,*
Сын Божы нарадзіўся!

Прыдуць да цябе тры празнікі ў госці.
А першы ж празнік — Святое Раджджаство,

А другі ж празнік — Святога Васіля,
А трэці ж празнік — Святое Вадохрышча.

5. Зязюленька прылятала,
У акенца заглядала:
Ці ёсць дома пан гаспадар,

---

* Другі і трэці радкі паўтараюцца пасля кожнай страфы.

Ці ёсць дома пані гаспадыня?
Ёсць дома пан гаспадар,
Ёсць і пані гаспадыня.
Сядзяць абое ў канцы стала,
На іх шуба дубляна,
На шубаньцы кован пояс,
На поясе калітанька,
У калітаньцы поўна грошы.
Па пяць злоты і па чатыры
Калядначкам адлічылі.




6. Ясна-красна ў лузе каліна,
Ой, дай Божа, ў лузе каліна!
Шчэ й краснейша Іванка жана,
Ой, дай Божа, Іванка жана!
Па двары ходзіць, як месяц сходзіць,
Ой, дай Божа, як месяц сходзіць!
У сені ўвайшла — зоранька зыйшла,
Ой, дай Божа, зоранька зыйшла!
У хату ўвайшла — панічы сядзяць,
Ой, дай Божа, панічы сядзяць!
Панічы сядзяць, шапанькі дзяржаць,
Ой, дай Божа, шапанькі дзяржаць!
Пытаюцца яе: "Чыя ты жана?
Ой, дай Божа, чыя ты жана?
Ці ты папова, ці каралёва?
Ой, дай Божа, ці каралёва?"
А Іванка кажа: "То мая жана,
Ой, дай Божа, то мая жана!
Мая жоначка, як паненачка,
Ой, дай Божа, як паненачка!
За ёю пасаг — пасаг не малы,

Ой, дай Божа, пасаг не малы!
Пагон ската, скрыня залата,
Ой, дай Божа, скрыня залата!
Скрыня залата, пасцель белая,
Ой, дай Божа, пасцель белая!
Пасцель белая, сама малада,
Ой, дай Божа, сама малада!
Сама малада, маладзюсенька,
Ой, дай Божа, маладзюсенька!"
За тыя прыспеўкі — гарнец гарэлкі,
Ой, дай Божа, гарнец гарэлкі!
За тыя харошы — па сорак грошы,
Ой, дай Божа, па сорак грошы!




7. Ой, ясна-красна ў лузе каліна,
Ой, дай Божа, ў лузе каліна!
Шчэ й краснейша Ванечкі жана,
Ой, дай Божа, Ванечкі жана!
Па двару ходзіць, як месяц сходзіць,
Ой, дай Божа, як месяц сходзіць!
У сені ўвайшла, як зара зышла,
Ой, дай Божа, як зара зышла!
У хату ўвайшла — панічы сядзяць,
Ой, дай Божа, панічы сядзяць!
Панічы сядзяць, шапанькі дзяржаць,
Ой, дай Божа, шапанькі дзяржаць!
Шапанькі дзяржаць па-пад ручкамі,
Ой, дай Божа, па-пад ручкамі!
І пытаюцца: "Чыя то жана?
Ой, дай Божа, чыя то жана?"
Ванечка кажа: "То мая жана,
Ой, дай Божа, то мая жана!

Мая жоначка, як паненачка,
Ой, дай Божа, як паненачка!"




8. Ой, па прызбаньцы, па залаценькай, Каляда!
Малада Анечка дочку павіла, Каляда!
А упавіўшы, урадавалася, Каляда!
Урадаваўшыся, лісты пісала, Каляда!
Лісты пісала, да Ванечкі слала, Каляда!
Паехаў Ваня на паляванне, Каляда!
Упаляваў ён тры агароды, Каляда!
У першым агародзе жыта–пшаніца, Каляда!
У другім агародзе грушкі–яблушкі, Каляда!
У трэцім агародзе вішні–чарэшні, Каляда!
Жыта–пшаніцу самі сажнема, Каляда!
Грушкі–яблушкі самі сарвема, Каляда!
Вішні–чарэшні самі сашчыкнема, Каляда!
Дочку–малечку самі згадуем, Каляда!
Выгадаваўшы, замуж самі аддамо, Каляда!




9. Па зялёным садзе паванька хадзіла,
А бадай жа, паванька хадзіла.
Паванька хадзіла, пер'ечка губіла,
А бадай жа, пер'ечка губіла.
А за ёй хадзіла малада дзяўчына,
А бадай жа, малада дзяўчына,
Пер'ечка збірала — ў падушанькі клала,

А бадай жа, у падушанькі клала.
У падушанькі клала, бела ложа слала,
А бадай жа, бела ложа слала.
Ой, ложа, ложа, хто на табе ляжа,
А бадай жа, хто на табе ляжа?
Ой, зыдзе, зыдзе месячык з зарою,
А бадай жа, месячык з зарою.
Ой, ляжа, ляжа хлопец з дзеўчыною,
А бадай жа, хлопец з дзеўчыною.

10. Як чырвона рожа, Лідачка гожа, Каляда!
Па двары ходзіць, як сонца сходзіць, Каляда!
Выйшла ў сені — сваты заселі, Каляда!
Увайшла да хаты — за ёю сваты, Каляда!
І пытаюцца: "Чыя то дочка?" Каляда!
"То мая дачка, як пацёрачка", Каляда!
Як пацёрачка, дачка Лідачка, Каляда!

Moderato

11

А ў па-на Ан- дрэ- я ста-я-ла ка- лі- на,
гэй, Ка-ля-да, ста-я-ла ка- лі- на!

11. А ў пана Андрэя стаяла каліна,
Гэй, Каляда, стаяла каліна.
Пад тою калінаю Гандзюля стаяла,
Гэй, Каляда, Гандзюля стаяла.
Гандзюля стаяла, каліну ламала,
Гэй, Каляда, каліну ламала.
Каліну ламала, у пучэчкі вязала,
Гэй, Каляда, у пучэчкі вязала.
У пучэчкі вязала, бацэнька пытала:
— Ці буду такая, як каліна тая?

Гэй, Каляда, як каліна тая.
— Будзеш, дзіця, будзеш, як у мяне будзеш,
Гэй, Каляда, як у мяне будзеш.
Як ад мяне пойдзеш, як папер збялееш,
Гэй, Каляда, як папер збялееш.
Як папер збялееш, як рута завянеш,
Гэй, Каляда, як рута завянеш.

Moderato 12

Ой, там на га- ры снягі- ма- ра- зы,
е- і, Ка- ля- да, снягі- ма- ра- зы.

12. Ой, там на гары снягі–маразы,
Еі, Каляда, снягі–маразы.
А пад гарою быстра рэчанька,
Еі, Каляда, быстра рэчанька.
А па той рэчаньцы чаўнычок плыве,
Еі, Каляда, чаўнычок плыве.
А ў тым чаўнычку красны маладзец,
Еі, Каляда, красны маладзец.
Стружа стрэланькі — усе з каліналькі,
Еі, Каляда, усе з каліналькі.
Стружа–малюе, на Дунай пускае,
Еі, Каляда, на Дунай пускае:
— Плывеце, стрэланькі, да мае дзяўчыны,
Еі, Каляда, да мае дзяўчыны.
Няхай гатуе красны падаркі,
Еі, Каляда, красны падаркі.

13. Там з–за горы, горы свяціліся зоры, грай, коню!
Грай, канічэньку, там на ражэньку за мною!*

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

А на тым коніку сядло седлавана, грай, коню!
А на тым сядзёлку красны маладзец, грай, коню!
Красны маладзец — малады Калюнё, грай, коню!
А ў яго шапанька шоўкам вышывана, грай, коню!
А ў яго сядзельца добра шыкавана, грай, коню!
А ў яго хустачка з ручкі даравана, грай, коню!
— А хто яму дараваў? — Красна панна! Грай, коню!
Красна панна — малада Манюля! Грай, коню!

14. На дварэ чорна хмара ўецца —
Пад акенцам каляднік таўчэцца.
Пусцеце яго да хаці —
Ён вам будзе співаці, харашэ!
Каляда, Калядонька, гэй!
А ў пячэ пірагі сядзелі —
Туды яго вочанькі глядзелі.
Сюды–туды пазіраў
І па адным выцягаў, наеўся!
Каляда, Калядонька, гэй!
А як пірагоў не стала,
Палез ён на гару па сала.
Сала на гары не дастаў —
З драбінаю з гары ўпаў, забіўся!
Каляда, Калядонька, гэй!

Moderato 15

Не ка- жы нам, па- ні, доў- га ста- я- ці,
на тва- ім па- дво- р'і сне- гу тап- та- ці.

15. Не кажы нам, пані, доўга стаяці,
На тваім падвор'і снегу таптаці.*

---

* Кожны другі радок паўтараецца, у апошняй страфе паўтараюцца два апошнія радкі.

Бо мы голы, бо мы босы —
Ідуць нашы галосы пад нябёсы.

Наша пані з рукі ў руку —
Ключыкамі стуку-груку.

Ключ да скрыні — і два сыры.
— Маладая пані, дай нам чатыры.

Сіта маку, сіта пастэрнаку,
Гарнец водкі для ахвоткі
Ды збан піва, каб весела была!

16. Каляд, каляд, калядніца,
Добра з медам паляніца,
А без меду не така —*
Дай, дзядзьку, пятака!

Як не дасі пятака,
Мы — карову за рага,
А кабылку — за чупрынку,
Павядзем яе ў далінку,

А ў далінцы — на тачок,
Дай, дзядзьку, пятачок!

17. Васілёва маці, Васілёва маці пайшла гагатаці,
Гагатушка!**
Не гагатаці, не гагатаці — Бога прасіці:
— Радзі, Божа, жыта, радзі, Божа, жыта на новае лета,
Зверху каласіста, зверху каласіста, сасподу караніста,
Зверху каласіста, зверху каласіста, на полі снапіста,
На полі снапіста, на полі снапіста, ў старане спорна,
У старонцы спорна, у старонцы спорна, у дзежцы падыходна,
У дзежцы падыходна, ў дзежцы падыходна, на лапаце гладка,
На лапаце гладка, на лапаце гладка, на стале скібіста,
На стале скібіста, на стале скібіста, пад сталом крышыста.

* У першай і другой страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

** "Гагатушка" паўтараецца пасля кожнага радка.

18. Васілёва маці
Пайшла гагатаці —
Пірог на лапаце:
Радзі, Божа, жыта
На новае лета.
З аднаго каласочка
Будзе жыта бочка.
Гу-гу! Дайце тое,
Што на рагу!

19. Ой, гук, гук, дзе дзеванькі п'юць,
Замяцёна тая гулічэнька, кудой яны йдуць.*
Ой, даўно-даўно я ў роду не была,
А ўжо тая, тая дарожанька дзярном зарасла.
Дарожку праб'ю, дзярно пратапчу,
Я да свае роднае матулі арлом залячу.
Ой, не так арлом, як арліцаю,
Дзе я была, дзе я пахаджвала та й дзявіцаю.

20. Ой, пад вішняю, пад чарэшняю
Стаяў стары з маладою, як і з ягадкаю.*
І прасілася, і малілася:
— Пусці мяне, стары дзеду, на вуліцу пагуляць.
— А я і сам не пайду і цябе не пушчу,
Бо ты мяне старога ды й пакінеш самога.

21. Ой, выйду я на вуліцу,
Стану на калодцы,
Гукну раз, гукну два:
— Збірайцеся, хлопцы!
Выйшаў хлопец кунджаравы,
Са мною гаворыць,
Выйшла маці з кацюбою,
За сабою гоніць:

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Дзе ж ты, доню, пабяжыш?
Вярніся дахаты:
У каморы пасцель бела —
Кладавіся спаці.
Пасцелька бяленька,
А сцяна няменька.
З кім я буду размаўляці —
То ж я маладзенька!

22. Капаў казак крынічаньку, не дакапаўся да дна,
Жыла ў бацька адна дочка, не нажылася дабра.*
Бацька добры, бацька добры, а маці ліхая —
Не пускае на вуліцу, бо вуліца смутная.
— Пусці мяне, мая мама, я й там не забаўлюся —
Першы пеўні заспяваюць, я й дадому вярнуся.
Пяюць першы, пяюць другі, шчэ й пташына шчабеча,
Кліча маці вячэраці, а дзяўчына не хоча.
— Вячэрай жа, мая мамка, калі наварыла,
А я пайду да таго, каго верна палюбіла.

23. Там у лесе каля млына вырасла каліна,
Задумала ў сад гуляці малада дзяўчына.*
Задумала ў сад гуляці межы яблынькамі,
Каб пачуці перамовы межы дзецюкамі.
Бацька добры, бацька добры, а маці ліхая —
Не пускае ў сад гуляці, кажа: "Маладая".
— Пусці, маці, ў сад гуляці — я й не забаўлюся,
Як запяюць першы пеўні — дадому вярнуся.
Пяюць першы, пяюць другі, шчэ й курка сакоча,
Кліча маці вечараці, а дочка не хоча.
— Вячэрай жа, мая маці, калі наварыла,
Бо для мяне, маладое, вячэра няміла.
Ішлі хлопцы каля саду, пачалі спяваці,
А дзяўчыне горка стала — пачала плакаці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

24. А пад вішняю, пад чарэшняю
Стаіць стары з маладой, як і з ягадай.*
І прасілася, і малілася:
— Пусці мяне, стары дзед, на гуліцу пагуляць!
— А я сам не пайду і цябе не пушчу,
Бо ты мяне старога ды пакінеш аднога.
— Ах ты, стары вашапрудзе, пусці мяне міжы людзі!
— А як я той вашапруд: сядзі ў хаце — вошы прудзь!
— Ах ты, стары нігадзяю, пусці мяне — пагуляю!
— А як я той нігадзяй: сядзі дома — не гуляй!
— Ах ты, мой мілюсенькі, пусці мяне да радзінкі!
— А як я твой мілы — ідзі да радзіны!

Allegretto 25

Ка- му воль- на, ка- му воль-на на гу- лі- цу вый- сці? Ка- му воль- на та й па- га- ва- ры- ці?

25. Каму вольна, каму вольна на гуліцу выйсці?
Каму вольна та й пагаварыці?
Дзеўкам вольна, дзеўкам вольна на гуліцу выйсці,
Дзеўкам вольна та й пагаварыці.
Маладзіцам, маладзіцам не такая воля:
Дзіця плача — калыхання хоча.
Свёкар ляжыць, свёкар ляжыць та й не пакалыша,
А што й калыхне, та й кулаком бухне:
— Ой, спі, дзіця, ой, спі, дзіця, не прачынаючы,
Мне, старому, не дакучаючы.

Moderato 26

Ой, ха- дзі- ла Ма- неч- ка, ой, па са- доч- ку,

---

*Кожны другі радок паўтараецца.




26. Ой, хадзіла Манечка, ой, па садочку, ой!
Накалола ножаньку на кусточку, ой!
Баліць, баліць ножанька, ой, ды нябольна, ой!
Любіў хлопец дзяўчынаньку, ой, ды нядоўга, ой!
Забралі хлопчыка, ой, у салдаты, ой!
Забылася дзяўчынанька, ой, запытаці, ой!
— Ой, ці замуж мне ісці, ой, ці гуляці, ой!
— Гуляй, гуляй, дзяўчынанька, ой, як гуляла, ой!
Тапчы, тапчы, чаравічкі, ой, як таптала, ой!
Сцялі, сцялі ты пасцель белу, ой, як ты слала, ой!
Не кажы ты хлопцам праўду, ой, як мне казала, ой!
Яны тваю пасцель белу, ой, перакінуць, ой!
Яны цябе любіць будуць, ой, ды пакінуць, ой!




27. Бадай запрапала*
Чужая старонка.

Як нідзе не выйдзе
Дзеўчына вясёла.

А хоць яна выйдзе —
Вочы заплаканы.

* Першы радок у кожнай страфе паўтараецца.

Чарнюсенькім шоўкам
Галоўка завязана.

Ясь каня паіў,
Кася ваду брала.

Як Ясь высвіснуў,
Кася заплакала.

28. На прыгуменні каля млына стаіць дзеўка, як каліна,
Даведаліся казакі — едуць тройкаю ў сваты.*
Ой, шырока-шырака трасцяніцка вуліца,
А па ёй ніхто не ходзіць — ні певень, ні курыца!
Адзін казак падбадрыўся, на дзяўчыну задзівіўся,
Як на дзеўку заглядаўся — яму воз паламіўся.
Ой, шырока-шырака трасцяніцка вуліца,
А па ёй ніхто не ходзіць — ні певень, ні курыца!
Другі казак аглянуўся, да дзяўчыны ўсміхнуўся.
Маці дочку путам біла, каб казака не любіла,
Маці дочцы прыказала, каб казака не кахала.

29. Як я ехаў каля млына:
Стаіць дзеўка, як маліна.
Я на яе заглядаўся,
Аж мне воз паламаўся.
Не шкада мне таго воза,
Каб дзяўчына была гожа.
А то брыдка і пагана,
І мне воза паламала.

30. Дзяўчынонька, гайду, гайду!
Дзе ж я цябе знайду, знайду?
Ой да, о-ха-ха!
Ой да, о-ха-ха!**
Дзе ж я цябе знайду, знайду?

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Прыпеў паўтараецца пасля двух радкоў кожнай страфы.

Ці ў гародзе у пятрушцы,
Ці ў каморы на падушцы?
Ці ў каморы на падушцы?

Не ў гародзе у пятрушцы,
А ў каморы на падушцы!
А ў каморы на падушцы!

Moderato 31

Ой, гук жа там, гук, дзе дзе- вань- кі п'юць,
вы-мя-цё- на- я та- я гу- лі-чэнь- ка, ку- ды я- ны і- дуць,
вы-мя-цё- на- я та- я гу- лі-чэнь- ка, ку- ды я- ны і- дуць.

31. Ой, гук жа там, гук, дзе дзеванькі п'юць,
Вымяцёная тая гулічэнька, куды яны ідуць.*
Дзярном зарасла, лісцем запала,
Да й калінаю, да й чырвонаю пазавісала.
Як [redacted] захачу, дзярно патапчу,
Да й каліначьку, да й чырвоную ў пуч'е павяжу.
У пуч'е павяжу, на рынак занясу,
За каліначьку, за чырвоную грошыкаў зараблю.

32. Як піці, то піці,**
То пітушачкі.
Прапіла маточкі
Та й вітушачкі,
Прапіла маточкі
Та й вітушачкі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

# ВЕСНАВЫЯ ПЕСНІ

Moderato 33

А ўжо сон-ца над за- хо- дам, спа- ці кла- даў- лю- ся,

да спо- ве- дзі не ду- ма- ю, Бо- гу не ма- лю- ся,

да спо- ве- дзі не ду- ма- ю, Бо гу не ма- лю- ся.

33. А ўжо сонца над заходам, спаці кладаўлюся,
Да споведзі не думаю, Богу не малюся.*
Няхай моліцца грэшны чловек за свае грэхі,
Бо як умрэ ў велькіх грэхах, загіне навекі.
Зробяць яму чорну труну і белае ложа
І засыплюць пяском вочы, ах, мой моцны Божа!
А ўжо ж званы зазванілі а першай гадзіне:
Пакланіся, грэшны чловек, усяму свету, усёй сваёй радзіне.
Астаюцца злато, шаты, дарагі палацы:
— Ой, жаль, жаль, мой моцны Божа, з сабою не ўзяці!
Узяў бы я іх з сабою, але там мне трэба:
Чатыры доскі, сажань зямлі і збавення з неба.

34. Не я б'ю — вярба б'е:
За тыдзень Вялікдзень.
Не будзь санлівы,
Да работы лянівы.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Будзь здаровы, як вада,
Будзь рослы, як вярба,
Будзь звітны, як пчала,
Будзь багаты, як зямля.
Ад року да року —
Вярбою па боку.

35. Хадзіў Хрыстос да й па зямлі,
Хрыстос васкрэс, Сын Божы!*
Шукаючы Маці Божу.
А знайшоўшы, стаў пытаці:
— Дзе ты была, прабывала?
— Я ў горадзе, у саборы,
У тым саборы тры прастолы:
Першы прастол — Іаан Багаслоў,
Другі прастол — Святы Рыгор,
Трэці Прастол — Маці Божа.
— Ах, Маці мая Прасвятая,
Чаго ж ты так слёзна плачаш?
— А як жа мне не плакаці?
Майго Сына жыды ўзялі,
Жыды ўзялі і звязалі
І да крыжа прыгваздзілі.
Воцатам, жоўцяй напаілі,
Вострым кап'ём бок прабілі.
Святыя Кірыла і Мяфодзій
Яго цела з крыжа знялі,
Плашчаніцай абгарнулі
І ва гробе палажылі.
Ляжаў Хрыстос два дні ў гробе,
На трэці дзень Хрыстос васкрэс!




---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.




36. Тонка–тонка канапелька,
Даўно віно зеляно!*
Яшчэ тонша панна Манька,
Хусты мыла, бель бяліла,
Злоты персцень ізгубіла.
Злоты персцень ізгубіла,
Шчука–рыба ухапіла.
— Ах вы, хлопцы–рыбалоўцы,
Закідайце шоўкаў невад,
Шоўкаў невад па той бераг,
І злапайце шчуку–рыбу.
І злапалі, расплаталі,
Злоты персцень адабралі.
Злоты персцень адабралі,
Той паненцы даравалі.
— Просім панны на двор выйсці,
На двор выйсці, дар вынесці:
Копу яек на паўмісак,
Каўбасою акружыці.
Каўбасою акружыці,
Белым сырам завяршыці.

37. Тонка, велька канапелька,
Ой, віно, віно зеляно!*
Пашла панна беллё мыці,
Беллё мыла, бель бяліла,
З ручкі персцень ураніла,
Шчука–рыба ўхапіла.
Шлі тры хлопцы–рыбалоўцы.
— Ах вы, хлопцы–рыбалоўцы,
Вы злапайце шчуку-рыбу,
Вы злапайце, расплатайце,
Злоты персцень з яе дастаньце.

---

* Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— А чым, панна, нам заплаціш?
— Аднаму дам шчуку-рыбу,
А другому — персцень злоты,
А трэцяму — сама млода.
Сама млода, як ягода,
Як вішанька садавая,
Як ягадка баравая!

38. Добры вечар, панна, ці ўдому, кахана?
Ой, віно, віно зеляно!*
Калі спіш, прачніся, да нас адазвіся!
Пані, паненэчка, ладне ўмывайся!
Ладне ўмывайся, цодня спадзявайся.
Бо сватове ядон з велікон парадон.
Ядон, ядон гойне на коніках стройне!
Едэн на каштане, другі на булане,
Тшэці на гнядым, а чварты на бялым.

39. Ходзіць пава па гуланьцы, гэй, віно!
Ходзіць пава па гуланьцы, віно!
Роніць пер'е па мураўцы, гэй, віно!
Роніць пер'е па мураўцы, віно!
А за ею трох малойцаў, гэй, віно!
А за ею трох малойцаў, віно!
Трох малойцаў-рыбалоўцаў, гэй, віно!
Трох малойцаў-рыбалоўцаў, віно!
Пер'е бралі, у хусту клалі, гэй, віно!
Пер'е бралі, у хусту клалі, віно!
З хусты бралі, вянок вілі, гэй, віно!
З хусты бралі, вянок вілі, віно!
Звіўшы венец, пайшлі ў танец, гэй, віно!
Звіўшы венец, пайшлі ў танец, віно!

40. Ходзіць пава па гуланьцы, гэй, віно!**
Губіць пер'е па мураўцы.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

** Кожны радок паўтараецца, пры паўторы ў рэфрэне апускаецца вокліч "гэй".

За ёй ходзіць слічна панна,
Збера пер'е, у хусту кладзе,
З хусткі бежэ, венец віе.
Звіўшы венец, пайшла ў танец,
Як надэйдзе сільны вецер,
Як не зэрве павін венец,
І панёс на быстры Дунай.
Плыне вянэк Дунаечкем —
Бяжыць панна беражэчкем.
Напоткала тшэй рыбацы:
— Вы, рыбацы, вшысцы братцы,
Вы злапайце павін венец.
— А цо пані за дар даш нам?
— А еднэму персцень злоты,
А другему павін венец,
А тшэцему — сама млода!
Сама млода, як ягода,
Як ягода баравая,
Як вішэнька садавая!

Moderato 41

Эй, дзень доб-ры, па- ня- нэч- ка, гэй, ві- но, ві- но зе- ля- но!

Чом не ста- іш ў а- ке- нэч- ку, гэй, ві- но, ві- но зе- ля- но!

41. Эй, дзень добры, панянэчка,
Гэй, віно, віно зеляно!*
Чом не стаіш ў акенэчку,
Чом не стаіш, не выглёндаш,
Бэндзе ехаць, каго жондаш,
Які пенкны, які слічны,
Не тутэйшы — загранічны.
Кракавянкі жыта жалі,

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Усім дарожку заступалі.
— Кракавянкі, кракавянкі,
Дзе дарожка да каханкі?
А там у доле, на прыдоле,
Стаіць хата муравана,
Там паненкі начавалі
І на ганачку стаялі,
Салавейчык на ляшчынцы,
Мы ў паненкі на дзядзінцы,
А што ж ты нам за дар даш,
Белым сырам налажыўшы,
Кілбасою акруціўшы,
Бутэлькаю завяршыўшы.

42. За новаю камораю, гэй, лолам!
За новаю камораю, лолам!
Цвіла рожа чырвоная, гэй, лолам!
Цвіла рожа чырвоная, лолам!
Гануль, Гануль, Гануленька, гэй, лолам!
Гануль, Гануль, Гануленька, лолам!
Выйдзі да нас на гуланьку, гэй, лолам!
Выйдзі да нас на гуланьку, лолам!
У нас дружына невялічка, гэй, лолам!
У нас дружына невялічка, лолам!
Паўтараста чалавечка, гэй, лолам!
Паўтараста чалавечка, лолам!
Ваша курачка чубата, гэй, лолам!
Ваша курачка чубата, лолам!
Нанясла яец багата, гэй, лолам!
Нанясла яец багата, лолам!
Цэбар, ражку і дайніцу, гэй, лолам!
Цэбар, ражку і дайніцу, лолам!
Дайце нам хоць палавіцу, гэй, лолам!
Дайце нам хоць палавіцу, лолам!

43. Едзе вясна, едзе
На залатым кані
У зялёным кафтане,
У брычцы седзячы,
На поле гледзячы,

Валы з сахою ведзячы.
Вязе вясна, вязе
Ясныя дзянёчкі,
Частыя дажджочкі,
Зялёныя травы,
Гожанькія квяточкі
Нам на вяночкі.




44. Там за лесам, за борам,*
За сіненькім езёрам,

Там сонечка іграла,
З месяцам размаўляла.

Пытаецца месяца:
— Ой, чом рана зыходзіш?

Ой, чом рана зыходзіш,
Ой, чом позна заходзіш?

— А што ж табе да тога,
Да зыходу маёга?

Я і percenька зыду,
Неба, зямлю асвячу.

Неба, зямлю асвячу
І сяло Гарэшкава.

* У кожнай страфе першы радок паўтараецца.

I сяло Гарэшкава —
Прыгожага малайца.

Прыгожага малайца,
Прыгожую дзявіцу.

45. Ой, ясна, ясна на дварэ,*
Бо ясны месяц засвяціў,
Каля сябе зорак насадзіў:
— Ідзеце, зораньki, стараною,
А светавая** — за мною.
Будзе свяціці ўсю ночку,
Слаўнае сяло Дабрывада.
Яшчэ слаўнейшы Валодзя,
Каля сябе дзевак насадзіў:
— Ідзеце, дзеванькі, стараною,
А ты, Манечка, — за мною:
Будзем мы жыці з табою,
Як ясны месяц з зарою,
Так мы, Манечка, з табою.

46. Хлопец дзеўку ўпадабаў —
Пярсцёначак ёй дараваў.
Дзеўка хлопца ўпадабала —
Хустаньку яму даравала.

47. Ой, дуброва ты, дуброва,
Ты зялёная была.***
Па табе жа ж я хадзіла,
Заблудзілася была.
Я думала, што дуброва —
То лясок невысок.
Не даходзіць, не даносіць
Да матулі галасок.

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Зорка "светавая" — планета Венера.

*** Кожны другі радок паўтараецца.

48. Там пад лесам кругла поле,
Там малада Марыся лён поле.
Ой, поле, поле, перабірае,
За ёю Коля зелле збірае.
— Ой, зелле, зелле, плыві з вадою,
А ты, Марыся, ідзі са мною.




49. Цёмна ночка, невідная, даражэнька далекая,
Даражэнька далекая.*
Дзе ж мы будзем начаваці, вечароньку вечараці,
Вечароньку вечараці?
У цёмным лесе пры арэсе, пад сасною галасною,
Пад сасною галасною.
Пад сасною галасною з дзеўчыною маладою,
З дзеўчыною маладою.

50. — Ой ты, яблынька, ты садовая,
Ой, рана, рана, ты садовая.
Чаго ў саду ты так доўга стаіш?
Ой, рана, рана, так доўга стаіш?
— Я ў саду стаю, голле папушчу,
Ой, рана, рана, голле папушчу.
Голле папушчу, лістком зацвіту,
Ой, рана, рана, лістком зацвіту.
Лістком зацвіту — яблычак зраджу,
Ой, рана, рана, яблычак зраджу.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Lento 51

Свя- ці, свя- ці, ме- ся-чэнь-ку, свя- ці, яс- на- я за- ра.

Свя- ці то- ю ву- лі- цо- ю да дзяў-чы- ны да два- ра.

51. Свяці, свяці, месячэньку, свяці, ясная зара.
Свяці тою вуліцою да дзяўчыны да двара.
Ой, да двара не да двара вадзіў каня да вады —
Да дзяўчыны патрымаці за шаўковы павады.
Хібнулася крайня кладка — пайшоў мілы аж на дно.
— Ой вы, хлопцы–рыбалоўцы, закідайце невады.
Закідайце, выцягайце майго мілага з вады.
— Мы не будзем закідаці, мы не будзем выцягаці,
Бо ўжо тая быстра рэчка гушчарою зарасла,
Бо ўжо твайго міленькага ў край далёкі занясла.

52. Не ведала маці, дзе дочку аддаці,
Ой, рана, рана, дзе дочку аддаці.
Выпраўляла па рынках таргаваці,
Ой, рана, рана, па рынках таргаваці.
Выбрала зяця — на каня не сядзе,
Ой, рана, рана, на каня не сядзе.
Стаіць пры возе, як слуп пры дарозе,
Ой, рана, рана, як слуп пры дарозе.

Lento 53

Ой, гы- ля, гы- ля, гу- сі, на во- ду —

лю- дзі га- во- раць пра ма- ю у- ро- ду.

53. Ой, гыля, гыля, гусі, на воду —
Людзі гавораць пра маю уроду.
Няхай гавораць — Бог ім заплаціць,
Не буду свайго вяночка траціць,
Бо мой вяночак не па такому —
Кожная кветачка па залатому,
Бо мой вяночак едвабам віты —
Не аддам яго за таляр біты.

Andante 54

Ой, гы- ля, гы- ля,
гу- сі, на во- ду — га- во- рацъ
лю- дзі на ма- ю ўро- ду.

54. Ой, гыля, гыля, гусі, на воду —
Гавораць людзі на маю ўроду.
Няхай гавораць — Бог ім заплаціць,
А мае ўроды ніхто не страціць.

55. Гыля, гыля, гусі, на воду,*
Гавораць людзі на нашу ўроду,
А наша ўрода, як быстра вада.
Няхай гавораць — Бог ім заплаціць,
А наша ўрода вянка не страціць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

56. У полі ў даліне расцвіла каліна,
Млода дзяўчына падаркі бяліла.
Бяліла яна, горам* вышывала,
Свайго мілага штодзень ажыдала:
— Прыедзь, міленькі, не баўся, не баўся,
Ужо мой баценька прыбраўся, прыбраўся,
Цісовы сталы засцілае, засцілае,
Цябе, міленькі, дажыдае, дажыдае.

57. Ой, сяду я, сяду ў акянэчка прасць,
А мой мілы чарнабрывы жане валы пасць.**
Ой, кіну я, кіну вераценца ў акно,
Сама выйду проці ёга, як яснае сонца.
Каб ■ мела крыла, то я й паляцела б,
Я сваёму міленькаму волікі запыніла б.

58. Пад ялінаю, пад зялёнаю сівы конь над вадою,
Шчэ й горша журба — дзяўчына мая не гаворыць са мною.**
У места пайду, чаравічкі куплю — стану яе прасіці:
Ой, ці не стане сэрца-дзяўчына са мною гаварыці.
Чаравічкі бярэ, мне не дзякуе, са мною не гаворыць,
Ой, знаю, знаю: тую дзяўчыну ўжо іншы падмовіў.
— Іншы не іншы — Ясё наймільшы, ён мяне падмаўляе,
Ой, дала б ёму падаруначак, з дробнай руткі звіўшы.

59. Што вам, дзеванькі, за ліха,
Што ў нашым сяле так ціха, так ціха?
Па чужых сёлах граюць і спяваюць,***
А наша сяло нямым называюць.

---

* Тып народнага ўзору вышыўкі.

** Кожны другі радок паўтараецца.

*** Трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Allegro 60

Кла- дзі- це клад- кі вяр- бо- вы, вяр-

бо- вы — час вам, дзе-вань- кі, да - до- му, да- до- му.

60. Кладзіце кладкі вярбовы, вярбовы —
Час вам, дзеванькі, дадому, дадому.
Сасінскі* хлопцы гукалі, гукалі —
Бялкоўскіх дзяўчат шукалі, шукалі.

Andante 61

Ка- ці- ла- ся чор-на га- лань-ка па ба- ру,

а за ё- ю мло- ды па- ні- чык на ка- ню.

61. Кацілася чорна галанька па бару,
А за ёю млоды панічык на каню:
— Пастой, пастой, чорна галачка, штось скажу!
— Я не пастаю, я не хачу, бо ты пан.
Шукай сабе такое пані, як ты сам!
— Я праехаў чатыры мілі, пяць вёрст —
Не знайшоў такое пані, як ты ёсць!

Allegro 62

Ад- на- го ка- ня ма- ю, ад- на- го ка-

---

* Сасіны і Бялкі — суседнія вёскі, адна ў гм. Боцькі, другая — у гм. Мілейчычы.




62. Аднаго каня маю*
І таго не спаймаю —

Дзесь пабег да крыніцы,
Да зімнае вадзіцы,

Там я яго спаймаю
І на ім паіграю.

Выйграю падарачак —
Чаравічкі-панчошкі,

Чаравічкі-панчошкі
На Надзенькіны ножкі,

Каб здарова хадзіла,
Другіх папрасіла.

63. Ой, каля млына расцвіла каліна,
Млода Гандзюля падаркі бяліла.
Яна бяліла, горам вышывала —
Свайго Колечкі штодзень выглядала:
— Мой ты Колечка, не баўся, не баўся —
Ужо ў маім саду вінаград разаслаўся.
Ужо ў маім саду вінаград разаслаўся —
Ужо мой баценька пад цябе падабраўся:
Наварыў піва, піва саладкога
Пад цябе, зяця, пад цябе, маладога.

64. Там у гародзе расцвілі гваздзікі,
Купіў Васечка Ніначцы чаравікі.
Ой, купіў, купіў на высокіх падкоўках,
Каб пахаджала па новых падворках.
— Бадай, Ніначка, здарова хадзіла,
На другі гадок мне сарочку вышыла.

---

* У кожнай страфе першы радок паўтараецца.

Ходзіць Васечка — вышыта сарочка.
А хто вышываў? — Аляксандрава дочка!

65. Ой, там у Івана вішнёў сад, вішнёў сад,
Там разаслаўся вінаград, вінаград,
Там складаліся на піва, на піва,
На салодкае мёд-віно, мёд-віно.
А там Ванечка найбольш даў, найбольш даў —
Сабе Верачку ўпадабаў, упадабаў:
— Будзь ты, Верачка, маёю жаною,
Маёй матанькі вернаю слугою.
Маёй матаньцы ты будзеш служыці —
Залаты ключы ты будзеш насіці.

66. Пакладу кладку вярбову, вярбову,
Час вам, дзеванькі, дадому, дадому.
А ты, Манечка, тут застань, тут застань —
Прыйдзе Ванечка, ручку дасць, ручку дасць.
Прывёз ён вянок з-за мора, з-за мора.
Сама не схочаш — сястры дай, сястры дай,
Бывай, Манечка, здарова, бывай!




67. Сярод рэчанькі грудочак, грудочак —
Звіла Касенька вяночак, вяночак.
Звіўшы, вяночак злажыла, злажыла
І да таночку схадзіла, схадзіла.
Прыйшла з таночку — заснула, заснула,
Прыехаў Ясенька — не чула, не чула.

— Уставай, Касенька, доўга спіш, доўга спіш —
Чым сваю свякруху падарыш, падарыш?
— Што ж табе, Ясенька, да таго, да таго,
Да падаруначка да майго, да майго?

68. Е і ў Дабрывадзе грудочак, грудочак,
Пляла Гандзюлька вяночак, вяночак,
А ўючы, заснула, заснула,
Прыехаў Валодзя — не чула, не чула.
— Спі, спі, Гандзюля, здарова, здарова,
Прывязу вяночак з Вільбова, з Вільбова,
Прывязу другога з Хадзіла, з Хадзіла,
Каб ты здарова схадзіла, схадзіла.
А як не выходзіш — дзеўкам дай, дзеўкам дай,
Сама, маладая, чапца дбай, чапца дбай.
— Я ўжо чэпчыка прыдбала, прыдбала,
У залатую скрыню схавала, схавала.

69. Пад бор гусанькі ляцелі, ляцелі,
З–пад каліванькі выплылі, выплылі.
Тры кавалеры ехалі, ехалі,
Сабе Надзечку ўкохалі, ўкохалі.
А яна з імі згардзіла, згардзіла —
Сабе Колечку ўлюбіла, ўлюбіла.



70. Вішні–чарэшні як з ветрам гавораць,
Рана нам, рана, як з ветрам гавораць.
— Маладая Марыся, хто ж цябе намовіў,
Рана нам, рана, хто ж цябе намовіў?

— Ой, не намовяць падляшскія хлопцы,
Рана нам, рана, падляшскія хлопцы.
Ано намовяць панічэ тахвілоўскі,*
Рана нам, рана, панічэ тахвілоўскі.

71. Разляцелася чорна галанька па полі, па полі,
А за ёю чорны саколік, за ёю, за ёю:
— Зажджы, пажджы, чорна галанька, ты мая, ты мая!
Яна адказала, лісты адпісала: "Не твая, не твая!
Палець сабе, пашукай сабе чарнейшае, як я е, як я е".
— Пераляцеў я ўжо чатыры бары, пяты лес, пяты лес —
Не знайшоў я чарнейшай, як ты е, як ты е.
Расхадзілася малада Манечка па двары, па двары,
А за ёю малады Іванка, за ёю, за ёю:
— Зажджы, пажджы, малада Манечка, ты мая, ты мая!
Яна адказала, лісты адпісала: "Не твая, не твая!
Паедзь сабе, пашукай сабе краснейшае, як я е, як я е".
— Пераехаў ўжо я чатыры сёлы, пяты двор, пяты двор —
Не знайшоў я краснейшае, як ты е, як ты е.

Allegretto 72

Ой, па- се- ю лён, ой, па- се- ю лён —
вы- рас- туць ка- на- пель- кі. Ўна-дзяц- ца
пташ-кі, ўна-дзяц-ца пташ-кі — шчэ й ты- я ве- ра- б'і,
ўна-дзяц-ца пташ-кі, ўна-дзяц-ца пташ-кі — шчэ й ты- я ве- ра- б'і.

---

* З вёскі Тахвілаўцы, у якой жыла спявачка.

72. Ой, пасею лён, ой, пасею лён — вырастуць канапелькі.
Ўнадзяцца пташкі, ўнадзяцца пташкі — шчэ й тыя вераб'і.*
— Пайду, матулю, пайду, матулю, верабейкі ганяці.
— Маё дзіцятка, маё родна, адкуль цябе выглядаці?
Ой, ці ў таночку, ой, ці ў вяночку, ці між дзеванькамі?
Ўсе дзеванькі ідуць, вяночкі нясуць — ты сядзіш з бабанькамі.

73. Ой, там на гары, на белай камяніцы,
Там танцавалі дзеванькі, маладзіцы.
Усё папярэдзе малады Ванечка ходзіць,
Сваю Манюлю за белу ручку водзіць:
— Манюля, душка, ці не пагрэбуеш мною?
Будзем жыці сто гадоў з табою.
Ой, сто гадоў, сто гадоў, шчэ й да таго чатыры —
Пасівеем, як галубанькі тыя.
Галубок сівы, галубка шчэ й сівейша —
Ванечка мілы, Манечка шчэ й мільнейша!




74. — Чаго куеш, чаго куеш, сівая зязюля,
Чаго куеш, рабая зязюля?
— Ой, як жа ж мне, ой, як жа ж мне, сівой, не каваці,
Ой, як жа ж мне, рабой, не каваці —
Салавей мяне, салавей мяне з гнязда выганяе,
Ой, салавей мяне з гнязда выганяе.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Нідзе мне стаці, нідзе сесці — гняздзечка ўвіці,
Нідзе сесці — яечка ізнесці.
— Ой, у лузе, ой, у лузе, сівая зязюля,
Ой, у лузе, рабая зязюля,
Там ты станеш, там ты станеш, гняздзечка ўвіеш,
Там ты сядзеш — яечка ізнясеш.




75. Святы Юры–Рыгора,*
Пайдзі да Бога па ключы,
Ой, адамкні зямліцу,
Ой, выпусць, выпусць травіцу,
Прыкрый зямліцу травою,
А дзерава лісточкам,
Нас, маладзенькіх, вяночкам.
Як настане месяц май,
Пажанем валы пасці ў гай,
Там зеллечка нарвема,
Сабе вяночкі паўема.
І на галоўкі ўзложыма
І ў таночак пойдзема!

76. Ой, Юр, Юр, Юр'яша, жэнь валы на пашу —
Напасі дасыта, прыжані дасвета.**
Напасі кругленька — прыжані раненька.

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Другі і трэці радкі паўтараюцца.

77. Ідзём да Бога па ключы,*
Адамкнема мы зямліцу:

— Ой, выпусць, выпусць травіцу!
Травіца зямлю прыкрые.

А як настане месяц май,
То мы пажанем валы ў гай.

Там мы вяночкі саўема,
Сабе на галоўкі ўскладзема.

Там мы зеллечка нарвема
І ў таночак пойдзема.

78. — Траўка-мураўка, чом ты не зялёна,
Ой, рана, рана, чом ты не зялёна?
— Як жа ж я маю зялёнаю быці,
Ой, рана, рана, зялёнаю быці?
Трэба на мяне цёпленькага лета,
Ой, рана, рана, цёпленькага лета.
Цёпленькага лета, цёпленькага дажджу,
Ой, рана, рана, цёпленькага дажджу.
А тут на мяне — снягі-марозы,
Ой, рана, рана, снягі-марозы.
Снягі-марозы, шчэ й буйныя ветры,
Ой, рана, рана, шчэ й буйныя ветры.

79. Выйдзі, выйдзі, пастушок,
І затрубі ў свой ражок.
Выйшаў, выйшаў пастушок
І затрубіў у свой ражок:
— Выганяйце вы быдліну
На шырокую даліну,
На зялёную травіну.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

80. Вясна мая да й вясёлая,
Развесяліла ўсе горачкі,
Усе горачкі, усе далінаачкі.
Далінаачкі, дзе збіраліся парубачкі,
Збіраліся, на мёд-гарэлачку складаліся,
Складаліся — дагадзіць пану змаўляліся.

81. Каля цёмнага бору
Сасна з ветрам гаворыць:
— Ой ты, ветра, ветраньку,
Не шыбай жа ты мною,
Тонкаю сасною,
Не ламі голля майго
Такога зялёнага.
Як выламіш голлечка —
Не аднось ты далёка,
Палажы пада мною,
Тонкаю сасною.

82. Ой ты, бяроза кудравая,
Спусціла голле дадолу.
Не так дадолу, як да зямлі,
Як да зялёнай дубровы.
Ціхі салавей гняздо ўе,
Перагарулька пераб'е.
Перагарулька — дзяўчына,
Перагарнула хлапчыну,
Цёмнай ночы седзячы,
Шоўкам кашулю шыючы.
Шоўкам кашулю вышыла,
На хлапчыну ўзлажыла.
Ой, бела–бела, так, як бель,
Ой, тонка–тонка, як папер.

Allegretto

83

Ой, хто, хто па са- ду хо-дзіць? Ой, хто, хто ка-лі- ну ло-міць?




83. Ой, хто, хто па саду ходзіць?
Ой, хто, хто каліну ломіць?
Каліна зялёная — ягада чырвоная,
Каліна!
Ганулька па саду ходзіць,
Ганулька каліну ломіць.
Каліна зялёная — ягада чырвоная,
Каліна!
А хто ж ёй да й памагае?
А хто ж ёй кветкі румняе?
Каліна зялёная — ягада чырвоная,
Каліна!
Ясенька дапамагае,
Ясенька кветкі румняе.
Каліна зялёная — ягада чырвоная,
Каліна!




84. Там на выгане хадзілі кане —
Ўсе ў жалезных путах.
Ой, каб жа не ты, сэрца–дзяўчына,
То й не быў бы я й тута.
Бяжыць конічак і з Украіны,
Шчэ й капытамі крэша,

За ім дзяўчына чарнабрывая
Русу касаньку чэша.*

85. За лесам–борам сонца ёсць,**
Там Ванечка лён сее.
Лён сеючы, гаворыць:
— Хто ж мой ляночак аполе?
Адазвалася Манечка:
— Я твой ляночак апалю,
Тваёю мілай застанусь.
Тваёю мілаю жаною,
Тваёю вернай слугою.

Allegretto 86

Там каля проса стаяла зімна роса.
Ой, выйдзі, выйдзі, красна дзяўчына, боса!

86. Там каля проса стаяла зімна роса.
— Ой, выйдзі, выйдзі, красна дзяўчына, боса!
— Чаго я маю да цябе выходзіці,
Зімнай расою ножкі марозіці?
— Не бойся, дзяўчына, я цябе не змарожу —
Твае ножанькі ў сваю шапаньку ўложу.

87. — Ой, зыдзі, зыдзі, ясны месяцу,
І ты, зоранька ясна,
Ой, выйдзі, выйдзі, сэрца–дзяўчына,***
Твая доля няшчасна.
— Ой, як я маю, ой, як я маю
Да цябе выхадзіці —

---

* Апошні радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

*** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Людзі гавораць, людзі сачуюць:
Мне з табою не жыці.
— Няхай гавораць, няхай сачуюць
Хоць па ўсяму свету —
Цябе любіў, любіці буду,
Як ружовую квету.

88. — Ой, зыдзі, зыдзі, ясны месячык, як млыновае кола,
Ой, выйдзі, выйдзі, сэрца-дзяўчына, прамоў да мяне слова.*
— Ой, як я маю, ой, як я маю да цябе выхадзіці:
Людзі гавораць, людзі сачуюць — мне цябе не любіці.
— Няхай гавораць, няхай сачуюць хоць па ўсім свеце —
Я цябе любіў, любіці буду, ружовы мой цвеце.
Ой, шуміць жа мне, як вада ў млыне, то й у маёй галавоньцы,
Нікуды выйсці, пагаварыці — я ў чужой старанoньцы.

Lento 89

Па- се- я- ла а- гу- роч- кі бліз-ка над ва- до- ю,
са- ма бу- ду па- лі- ва- ці дроб-на- ю сля- зо- ю,
са- ма бу- ду па- лі- ва- ці дроб-на- ю сля- зо- ю.

89. Пасеяла агурочкі блізка над вадою,
Сама буду паліваці дробнаю слязою.*
Раслі, раслі агурочкі — чатыры лісточкі,
Не бачыла міленькага чатыры гадочкі.
Не бачыла міленькага чатыры гадочкі,
А на пяты пабачыла, як чараду гнала.

* Кожны другі радок паўтараецца.

"Добры вечар" не сказала, бо маці стаяла,
Бо маці стаяла, а бацька дзівіўся.
Не пускалі на гуліцу, казалі: "Маладая".
— Пусці, пусці мяне, маці, я не забаўлюся,
Першы певень праспявае — дадому вярнуся.
Пяе першы, пяе другі, трэці пачынае,
А жа ж наша Марысенька з хлопцамі гуляе,
А жа ж наша Марысенька з хлопцамі гуляе.

Allegro 90

Ой, у по- лі тры ду- бы,
ой, у по- лі тры ду- бы, тры ду- бы
схі- лі- лі- ся да ку- пы,
схі- лі- лі- ся да ку- пы.

90. Ой, у полі тры дубы,
Ой, у полі тры дубы, тры дубы
Схіліліся да купы.*

Там у полі крыніца,
Там у полі крыніца, крыніца,
У ёй студзёна вадзіца.

Там малойчык ваду браў,
Там малойчык ваду браў, ваду браў —
Красну дзеўку спадабаў.

---

* У кожнай страфе трэці радок паўтараецца.

— Дзяўчынанька, чыя ты?
Дзяўчынанька, чыя ты, чыя ты,
Бо прыеду ў сваты.

— Не пытайся, чыя я,
Не пытайся, чыя я,
Прыязджай — буду твая!

— Я й у бацькі адзін сын,
Я й у бацькі адзін сын, адзін сын —
Ажанюся абы з кім.

— Я й у маці адная,
Я й у маці адная, адная —
Прыязджай — буду твая!

Lento 91

Там на ма- ё- вай ра- се,
там на ма- ё- вай ра- се Ясь ко- ні- чань- ка па- се.

91. Там на маёвай расе,*
Ясь конічанька пасе.

Ой, пасе ён, пасучы,
Весела спяваючы:

— Ешце, конікі, траўку,
Зялёну мураўку.

Здраёву воду п'еце
І ў дарожаньку ідзеце.

Паедзем да бору,
Нарумняем явору,

Паставім святліцу —
Для Ясенька цямніцу.

---

* У кожнай страфе першы радок паўтараецца.

Пасадзім Ясенька
На гадок, на чатыры,

Шчэ й на нядзелек чатыры.
Сядзіць Ясенька гадок,

На другі наступае,
Ясь Касюні пытае:

— За што, Касюлю, за што?
За якую прычыну?

За якую прычыну?
— За малую дзіціну.

Затні, Ясеньку, ліпку
Дзіцяці на калібку.

— Не буду ліпы цяці —
Не прывінён дзіцяці.

— Тваё, Ясеньку, тваё,
Бо лічэнька такаё.

Пры табе радзілося,
Пры табе кумы бралі —
Ясенькам называлі.

Andante 92

Не шу-мі, ду-бе, не ла- мі гол- ля, бо як схі- ліш-ся,
то й па-ло- міш- ся, бо як схі- ліш-ся, то й па-ло- міш- ся.

92. Не шумі, дубе, не ламі голля,
Бо як схілішся, то й паломішся.*
Аддай, брат, сястру, дзе ёй хочацца,
Аддай, брат, сястру, дзе ёй хочацца.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— За старым была б нядоля мая,
А за роўняю — то й краса мая.
Ой, пайду ж бо я то й да стаенкі:
Напаю каня нелукавага.
Конь вады не п'е — на Дунай глядзіць,
Бо ён думае, што агонь гарыць.
Не агонь гарыць, а страла ляціць:
— Упадзі, страла, то й у бацькоўскі двор.
Я ў баценька ўсё гасцінаю,
А ў свекарка гаспадыняю.
Я ў баценька веку не буду,
А ў свекарка гараваць буду.

Moderato 93



93. — Ой, пайдзі, пайдзі, дождзычак, стараною,
Ой, пасею я, я рутаньку над вадою.
Малады хлопец, я цябе даўно знаю,
Хочаш мяне браць, а я пасагу не маю.
— Як я схачу ўзяць, то й без пасагу вазьму,
Я пра твой пасаг нічога не скажу.
— Ой, не скажаш ты, то скажа твая маці:
— Было, сыночку, без пасагу не браці.
Уставай, нявестка, бадай ты не ўстала —
Выганяй пасаг, што й ад бацькі нагнала.
— Ляжы, свякруха, бадай ты адубела —
Сама бачыла, што я пасагу не мела.

94. Зязюленька куе — цэлы свет радуе,
Дзяўчынанька плача — млодых год жалуе.*
Зязюленька: "Ку-ку!", а мне сэрца: "Стуку!"

* Кожны другі радок паўтараецца.

Бадай шчасця не меў, хто багатых шукаў.
Бадай шчасця не меў, ніякае долі,
Хто едзе далёка, не бярэ з любові.
Бадай шчасця не меў ніякага зыску,
Хто едзе далёка, не бярэ зблізку.

95. Плыве човен вады повен, на хвалі хібнуўся,
Дзесь паехаў мой міленькі — бадай не вярнуўся.*
Глыбокія калодцы, кароткія ключы,
Не раз, не два заплакала, ад маманькі ідучы.
Няма цвету найлепшага ад макаўчынага —
Няма роду найлепшага ад матаньчынага.
Няма цвету найгоршага ад асатовага —
Няма роду найгоршага ад свякорчынага.

Lento 96

Е й у са- ко- ла за- ла- ты пё- ры,
а у па- вань- кі - ко- сы.
Ой, не ўжы- ла жад- на ня- вес-
та у свя- кёр- ка рас- ко- шы

96. Е й у сакола залаты пёры, а у паванькі — косы.
Ой, не ўжыла жадна нявеста у свякёрка раскошы.
Ой, як я пайшла то й да свякерка, да баценькі чужога —

* Кожны другі радок паўтараецца.

Пеўні пачула, зоры падняла, а работа не зроблена.
Ой, як я была ў свайго баценька, у баценька роднага —
Пеўняў не чула, зары не знала, а работа ўся пароблена.

Moderato 97

Чом, ра- та- ю, не а- рэш? Чом, ра- та- ю, не а- рэш? Ча- му ра- на ў по- ле не йдзеш?

97. Чом, ратаю, не арэш?*
Чаму рана ў поле не йдзеш?

Лепша ралля ранняя,
Як тая позняя.

А на ранняй — пшаніца,
А на позняй — мятліца.

Лепша жонка першая,
Як тая другая.

А па першай — дзетанькі,
Як на небе зораньκі.

А па другой — дзяцішчы,
Як у бару савішчы.

Moderato 98

Ой, не йдзі, дож-джы- ку, чу- жо- ю ста- ра- но- ю: ой, па- се- ю я ру- тань-кі над

---

* У кожнай страфе першы радок паўтараецца.




98. Ой, не йдзі, дожджыку, чужою стараною.
Ой, пасею я рутанькі над вадою.*
Расці, рутанька, дробная, зялёная,
Цябе сеяла дзяўчына маладая.
Цябе сеяла і Бога прасіла,
Каб з цябе, рута, вяночак увіла.

Малады хлопец, я тое добра знаю:
Ты мяне любіш, я й пасагу не маю.
Ты й мяне любіш і хочаш браці,
А бацька не мае пасагу выдаваці.

Чужыя нявесты жануць валы ў дубровы,
А мая нявестка спіць у новай каморы.
— Ой, спі, нявестка, бадай ты не ўстала —
Выгані той пасаг, што й ад бацька нагнала.

Дзяўчына ўстала, з пасцелькі схапілася
І без вадзіцы слёзкамі ўмылася.
Без вадзіцы слёзкамі ўмылася,
Без ручнічка хвартушком уцярлася.

99. — Шэрая гуска, дзе ты бывала?
— За морам, морам жыр жыравала.
Жыр жыравала, дзеці гадавала.
Ляціце, дзеці, аж на Украіну,
Я, ваша маці, вас не пакіну.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Andante 100

Вы- со- ка - вы- со- ка а- рэх на- ляш- чы- не —

да- лё- ка - да- лё- ка хло-пец ад дзяў- чы- ны,

да- лё- ка - да- лё- ка хло-пец ад дзяў- чы- ны.

100. Высока–высока арэх на ляшчыне —
Далёка–далёка хлопец ад дзяўчыны.*
Арэха з ляшчыны то можна дастаці,
Хлопец да дзяўчыны мусіць прыехаці.
Арэха з ляшчыны можна раскусіці,
Хлопец без дзяўчыны век не можа жыці.

Largo 101

Ой, зы-шоў ме- сяц май, май у кру- гі

на ву- лі- цу. Май у кру- гі

на ву- лі- цу: на жы- та й на пша- ні- цу.

101. Ой, зышоў месяц май,
Май у кругі на вуліцу.
Май у кругі на вуліцу:
На жыта й на пшаніцу.
На жыта й на пшаніцу,

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

У чыста поле рожкамі,
А да сяла ножкамі.
Ой, выехаў Іванка
На вараным коніку,
На вараным коніку,
У зялёным жупаніку.
Выйшла яго дзеванька,
Маладая Касюлька,
Пытаецца Іванка:
— Хто на кашулю напраў?
— Старша сястра напрала,
А сярэдня ўбяліла,
Найменшая ж пашыла,
У аконцы седзячы,
У аконцы седзячы,
На зораньці гледзячы.
Збор на збор выкладала —
Кашулю вышывала.

102. Ходзіць бусел па балоце, галубка па хаце.
Пытаецца сын у маці: "Каторую браці:*
Ой, ці тую багатую, што хораша ходзіць,
Ой, ці тую сіротаньку, што работаньку робіць?"
— Ой, не зважай, мой сынаньку, што хораша ходзіць,
А сам зважай, людзей пытай, ці работаньку робіць.
Ой, не зважай, мой сынаньку, што тонка ў станочку,
А сам зважай, людзей пытай, ці вытча сарочку.
Ой, не зважай, мой сынаньку, што ручанькі тлусты,
А сам зважай, людзей пытай, ці памые хусты.
Ой, не зважай, мой сынаньку, што галоўка гладка,
А сам зважай, людзей пытай, ці мяцёна хатка.
Ой, не зважай, мой сынаньку, што высокая ростам,
А сам зважай, людзей пытай, ці вырабіць кросны.

103. Пасею я рутку да й пад вярбой,
Расці, расці, рутанька, роўненька са мной.
Стала рутка, стала, стала падрастаць,
А я, малада дзяўчына, та й з хлопцам гуляць.

* Кожны другі радок паўтараецца.

104. Ой, долам, долам, то йшчэ даліною
Ўсю краіну схадзіла.
Ой, няма, няма, падобна не будзе,*
Каго верна любіла.

Разбіваецца, раскраяецца
Маё сардэнька бедна.
— Ой, прыйдзі, прыйдзі, мілы кавалеру,
Да мяне хоць на часок.

— Рад бы прыехаці — няма каня ўзяці.
— Ой, па-за садам, мілы кавалеру,
Па-за садам зялёным.

Andante 105

Ты зя- зюль- ка, ма- я род- на, не- праў-
дзі- ва- я птуш- ка.

105. Ты зязюлька, мая родна,
Непраўдзівая птушка.
А як я ў лесе была,
То ты мне накавала:
Сем год дзеўкаю быці,
З руты вяночка насіці.
А як я дадому прыйшла,
То сваткі дома знайшла:
Каснікі па падвор'ю,
Сватачкі па застоллю.

---

* У першай і другой страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Andante 106

Плы-ве чо- лан ва- ды по- вен, то й на-крыў-ся ліс-там,

то й на-крыў-ся ліс-там, то й на- крыў- ся ліс- там.

106. Плыве чолан вады повен, то й накрыўся лістам,
То й накрыўся лістам, то й накрыўся лістам.
Не хваліся, дзеўчынонька, чырвоным маністам,
Чырвоным маністам, чырвоным маністам.
Бо прыдзецца — не мінецца: маніста збываці,
Маніста збываці, тытунь купаваці.
Не хваліся, казачэньку, кучаравым чубам,
Кучаравым чубам, кучаравым чубам.
Бо прыдзецца — не мінецца: твой чуб разаўецца,
Твой чуб разаўецца, твой чуб разаўецца.

107. Каліна-каліначка рана расцвіла —
Ў злую пору маманька мяне радзіла,*
І не навучыла, і не навяла —
У чужую сторану замуж аддала,
У чужую сторану да й старонaчку —
Да ліхога свёкера да й свякровачкі.
Тры лет я ў маманькі свае не была,
А на чварты разок пташкай залячу.
Залячу я, сяду ў вішнёвым саду —
Беленькімі плечкамі ў яблыньку ўпру.
Беленькімі плечкамі ў яблыньку ўпру —
Дробненькімі слёзкамі ўвесь садок залью:
Ці не ўчуе маманька, рана ўстаючы,
Да й свае нявестанькі пабуджаючы?
— Устаньце вы, нявестанькі, устаньце вы мае,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Устаньце вы мае, паслухайце, хто ў нашым садзе,
Хто гэта за пташачка, за зязюленька —
Ці не мая дочанька з чужой стараны?
Калі ты, дачуленька, — просім це да нас,
А калі зязюленька, — ляці ў цёмны ляс.

108. — Ой, лета надходзіць, а я не жанаты,
Пасеяў я жыта — няма каму жаці.
Пасеяў я жыта — няма каму жаці,
А мне, маладому, не з кім размаўляці.
— Ой, на табе, сынку, рубля залатога —
Паедзь купі, сынку, каня варанога.
Паедзь купі, сынку, каня варанога,
Пастаў у стаенцы — размаўляй да ёга.
— Ой, каб табе, маці, цяжка было ўміраці,
Як мне, маладому, з канём размаўляці.
Конь вады нап'ецца, на саломе ляжа,
А мне, маладому, славечка не скажа.
— Ой, на табе, сынку, рубля залатога —
Паедзь на Украіну выбіраць дзяўчыну.
— А нашто мне, маці, чужая краіна,
Калі ў суседа па душы дзяўчына?
— Не глядзі ты, сынку, на чорныя бровы,
А глядзі ты, сынку, на сівыя волы.
— Ой, сівыя волы возьмуць паздыхаюць,
А чорныя бровы ніколі не зліняюць.

Andante

109

—Чом ты, ко- ню, ва-ды не п'еш, ці да- рож-ку чу- еш?
Чом ты, Я- сю - Я-сю-лень- ку, ўдо- ма не на- чу- еш?
Чом ты, Я- сю - Я-сю-лень- ку, ўдо- ма не на- чу- еш?

109. — Чом ты, коню, вады не п'еш, ці дарожку чуеш?
Чом ты, Ясю-Ясюленьку, ўдома не начуеш?*
— Ой, як жа ж, мая маці, удому начаваці —
Прыйдзе вечар, ночка цёмна — не з кім размаўляці.
— Маеш, сынку Ясюленьку, каня варанога —
Пайдзі, пайдзі да стаенкі — гавары да ёга.
— Я гавару, я гавару, а ён не гаворыць,
Як уздумаю пра дзяўчыну — душа-сэрца баліць.

110. — Чом ты, коню, вады не п'еш? Ці дарожку чуеш?
Чом ты, сынку Ясюленьку, дома не начуеш?*
— А як жа мне, мая маці, дома начаваці —
Пасцель бела, сцяна нема — не з кім размаўляці.
— Купі, сынку Ясюленьку, каня варанога,
А як пойдзеш да стаенкі — гавары да ёга.
— Як я вайду да стаенкі — гавару, а ён не гаворыць,
Як успомню аб дзяўчыне — сэрца-душа баліць.

111. Ой, я ўстану раненька
Да й ўмыюся беленька,*
Ой, я стану пад акном
Да й вытруся палатном.
Ой, я гляну ў садочак:
А ў садочку — вішанькі,
Вішня з вішняй хіліцца,
Лісток з лістком ліпнецца,
А мне, беднай сіраце,
Прыхіліцца няма дзе:
Сонца-месяц высако,
Ойцец-маці далеко,
А сястронка ў няволі
І не прыйдзе ніколі.
А браточак на вайне,
Ён не ўспомніць аба мне.
Вырву зелля з травою —
Застануся ўдавою.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Вырву зелля з кветкамі —
Застануся з дзеткамі.
На каліне белы цвет —
Будзе мяне поўны свет.

Moderato 112

Ой, і тут га- ра, і там га- ра, мі- жы ты- мі
кру-ты-мі га- ра- мі там зы- шла за- ра, мі- жы
ты- мі кру-ты-мі га- ра- мі там зы- шла за- ра.

112. Ой, і тут гара, і там гара,
Міжы тымі крутымі гарамі там зышла зара.*
Ой, то не зара — дзяўчына мая,
Яна рана, ранюсенька па ваду ішла.
Набрала вады, пачала ісці,
Перад ёю малады хлапец: "Дай каню вады!"
— Хлопча жа ты мой, калі я была б твая,
Узяла б каня за новы павады і напаіла бы.
— Дзяўчына мая, сядай на каня,
Мы паедзем цераз чыста поле да майго двара.
— У цябе ні двара, у цябе ні кала,
Расце толькі корч каліны, і тая не расцвіла.

113. Там за гаем, гаем, гаем зеляненькім,
Там гарала дзяўчынанька волікам чарненькім.*
Гарала, гарала і не ўмела гукаці,
Та й наняла казачэнька на скрыпаньцы граці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Казачэнька грае — вочкамі маргае,
Чорт яго бацька знае, чаго ён маргае:
Ці на мае волы, а ці на каровы,
Ці на мае бела лічка ды на чорны бровы.
Ой, не на коні і не на каровы,
А на мае бела лічка ды на чорны бровы.
Бо чорныя бровы вавек не зліняюць,
А сівыя волы возьмуць паздыхаюць.

114. За гародам курна, дымна,
За гародам, гародам та й курна, дымна,
За туманам, туманам та й ніц не відна.

Там Раманцё сена косіць,
Там Раманцё, Раманцё та й сена косіць,
А дзяўчына, дзяўчына та й ваду носіць.

Стаў Раманцё жартаваці,
Стаў Раманцё, Раманцё та й жартаваці —
З вёдзер ваду та й ваду та й выліваці.

— Ой, Раманцю, Раманэчку,
Ой, Раманцю, Раманцю та й Раманэчку,
Пусці мяне та й пусці, ой, дадамэчку.

Бо няродну маці маю,
Бо няродну, няродну та й маці маю —
Будзе біці та й біці, ой, добра знаю.

Будзе біці шчэ й лаяці,
Будзе біці та й біці, та й шчэ лаяці,
Шчэ й шэльмаю, шэльмаю та й называці:

— Дзе ж ты, шэльма, прахадзіла,
Дзе ж ты, шэльма, та й шэльма, та й прахадзіла,
Што вячэраць, вячэраць не прыхадзіла?

Дзе ж ты, шэльма, прастаяла,
Дзе ж ты, шэльма, та й шэльма, та й прастаяла,
Што вячэра, вячэра та й кісла стала?

— Я вам, маці, прызнаюся,
Я вам, маці, ой, маці, та й прызнаюся,
Што з Раманцём, Раманцём та й кахаюся.

Ён чарнявы, я бялява,
Ён чарнявы, чарнявы, а я бялява —
Будзе з нас, будзе ладна пара.

Allegretto 115

Ой, не ха- дзі ка- ля ва- ды, лю- бы сэр- цу
сы- не, ой, не лю- бі ба- га- та- е — ня-
хай я- на згі- не, ой, не лю- бі ба-
га- та- е — ня- хай я- на згі- не.

115. Ой, не хадзі каля вады, любы сэрцу сыне,
Ой, не любі багатае — няхай яна згіне.*
Багата — рагата, шчэ й да таго пышна,
Убогая — харошая, як у садзе вішня.
Як у садзе вішаньку трэба паліваці —
Так убогую дзяўчынаньку трэба шанаваці.

116. Зязюля куе — лецейка чуе,
Ой, рана-рана, лецейка чуе.
Дзяўчына плача — замуж не хоча,
Ой, рана-рана, замуж не хоча.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Яе матуля цешыць — не ўцешыць,
Ой, рана-рана, цешыць — не ўцешыць:
— Не плач, дзіцятка мае роднае,
Ой, рана-рана, мае роднае,
Не аддам цябе далёка ад сябе,
Ой, рана-рана, далёка ад сябе.
Аддам блізенька, цераз поле вузенька,
Ой, рана-рана, цераз поле вузенька.
Будзеш хадзіці штодзень да мяне,
Ой, рана-рана, штодзень да мяне.
Будзеш часаці косаньку у мяне,
Ой, рана-рана, косаньку у мяне.

## ЛЕТНІЯ ПЕСНІ

117. Ой, рана на Йвана,*
Проці Йвана ночка мала.
— Дзе, Купалка, начавала?
— Начавала ў чыстым полі,
У чыстым полі сярод жыта.
— Чым, Купалка, вечарала?
— Варэнічкі ўсё ядала.
— Чым, Купалка, запівала?
— Гарэлачкай запівала,
Ой, рана на Йвана.

118. Ой, купальна ночка невялічка
Ды й не выспалася дзявічка.
Ягадкі рвала — дрымала,
Як перабірала — заснула.
— Устань, мая дзеўка, будзе спаць,
Ужо твае свацікі на дварэ стаяць:
Пара табе парадак даваць.
— Няхай жа стаяць здаровы —
Ужо мае парадачкі гатовы!

---

* Першы і апошні радкі паўтараюцца.

119. Цёмна ночка — купалочка,
У рэчцы гусі купаліся,
На бярэжку сушыліся.
Наша Марыся зажурылася,
Што яе дары не прадзеныя.
Хоць прадзеныя — не звіваныя,
Хоць звіваныя — не снаваныя,
Хоць снаваныя — не вытканыя,
Хоць вытканыя — не беленыя,
Хоць беленыя — не дзеленыя,
Таму–сяму па локціку.

120. Памажыце, хлопцы, нам вяночак звіці,
Над Дунаем горад гарадзіці.
Горад гарадзіці,
Каб не вылецела раба перапёлка,
Каб не вынасіла хлапцоўскае красы.
А хлапцоўская краса — канчук каля паяса,
А хлапцоўская краса — канчук каля паяса.
Памажыце, хлопцы, нам вяночак звіці,
Нам вяночак звіці — горад гарадзіці,
Каб не вылецела сівая зязюля,
Каб не вынасіла дзявоцкае красы,
Бо дзявоцкая краса — каса да паяса,
Бо дзявоцкая краса — каса да паяса.

Andante 121

Бы- ла ў бацько-ка доч- ка, бы- ла ў баць-ка доч-ка, доч-ка а-
дзі- на. І та- я ў бор па- йшла, і та- я ў бор па-
йшла, а ў бор па я- гад-кі, а ў лес па га- рэш- кі.

121. Была ў бацька дочка,
Была ў бацька дочка,
Дочка адзіна.
І тая ў бор пайшла,
І тая ў бор пайшла,
А ў бор па ягадкі,
А ў лес па гарэшкі.
Судосілі яе,
Судосілі яе
Трое дзеваснубаў*,(2)
А ўсе добрыя людзі.
Пытаюцца яе,
Пытаюцца яе:
— Ці рада ты людзям, (2)
Нам, тром дзеваснубам? (2)
— Ой, не так я рада, (2)
Як рад мой баценька.
— Ой, дзева-дзевулю,
Ой, дзева-дзевулю,
Дзе скажаш нам сесці, (3)
Што нам дасі есці?
— Ой, скажу вам сесці,
Ой, скажу вам сесці
У бары на пянёчку,
У бары на пянёчку,
У бары на пянёчку,
У лесе на яры. (2)
Ой, дам вам есці (2)
З бору ягадак,
А з лесу гарэшкаў.
Няма каму даці,
Няма каму даці
Баценьку знаці.
Няхай не надзіцца (2)
З бору ягадкамі, (3)
З лесу гарэшкамі. (2)
А няхай надзіцца,
А няхай надзіцца
Пра паўтара года,
Пра паўтара года

* Дзеваснубы — сваты.

З маладзенькім зяцем,
З маладзенькім зяцем,
З маленькім дзіцяцем.

122. Ой, ў лесе, ў лесе на дубку,
Вісіць калыска на шнурку.
А ў той калысцы Іванка,
Калышуць яго высока.
Калышуць яго высока,
Каб было відаць далёка.
Каб было відаць аж пад бор —
Да яго Манечкі на падвор.

Allegretto 123

Ў са- доч- ку гу- ля- ла, кве- тач- кі рва- ла-
ма- ла- да дзяў- чы- на хлоп- ца лю- бі- ла,
ма- ла- да дзяў- чы- на хлоп- ца лю- бі- ла.

123. Ў садочку гуляла, кветачкі рвала —
Малада дзяўчына хлопца любіла.*
Малада дзяўчына хлопца любіла,
Узяла за ручаньку — ў садок павяла.
Узяла за ручаньку — ў садок павяла:
— Не смейся, хлопча, што я й сірата,
Не смейся, хлопча, што я й сірата —

* Кожны другі радок паўтараецца.

Прыйшоў мяне сватаць, а я й не пайшла,
Прыйшоў мяне сватаць, а я й не пайшла.
Каліну ламала, вяночак віла.

124. Там пад гаем, гаем палатно бяліла,
Ой, там жа я, маладая, вяночак згубіла.*
Ой, дай Божа, ой, дай Божа нядзелькі даждаці,
То пойдзем мы з тым хлопцам вяночка шукаці.

125. — Мама, мама, што рабіць?
Не схацеў казак любіць!
Гэй, гэй, уха-ха!
Не схацеў казак любіць!

— Ідзі, доню, да гаю —
Шукай зелля-размаю.
Гэй, гэй, уха-ха!
Шукай зелля-размаю.

Шчэ й да гаю не дайшла,
Размай-зеллечка знайшла.
Гэй, гэй, уха-ха!
Размай-зеллечка знайшла.

Яшчэ й размай не скіпеў,
А ўжо казак прыляцеў.
Гэй, гэй, уха-ха!
А ўжо казак прыляцеў.

— А што ж цябе прынясло:
Ці чарэсла, ці вясло?
Гэй, гэй, уха-ха!
Ці чарэсла, ці вясло!

А чаго ж ты прыляцеў —
То ж любіці не хацеў?
Гэй, гэй, уха-ха!
То ж любіці не хацеў!

*Кожны другі радок паўтараецца.

— Прынёс мяне сівы конь
Да дзяўчыны на пасцель.
Гэй, гэй, уха–ха!
Да дзяўчыны на пасцель.

126. Ой, свет ні світае, ні на зоры займае,
А мой міленькі чарнабрывенькі коніка сядлае.*
Сядлай, мілы, коніка, каня вараненькага,
Прыязджай, мілы, не кідай, мілы, мяне, маладзенькую.
Ой, ці я не такая, як тая другая:
Я й харошая, я й прыгожая — доля няшчасная!
Там у полі азерца, там плывала вядзерца,
Ты прыедзь, мілы, мы параімся, маё мілае сэрца.

127

Allegretto

Ой, там на ган- ку, там на му- ран- ку ку- е зя- зю- ля
без пе-рас-тан- ку, ку- е зя- зю- ля без пе-рас-тан- ку.

127. Ой, там на ганку, там на муранку
Куе зязюля без перастанку.*
Пайшла дзяўчына зелля капаці,
Стала з расою сабе гукаці.
— Чаго, дзяўчына, так рана ўстала —
Я йшчэ не кавала, ты ўжо гукала.
— Цераз рачэньку, цераз балота
Падай ручэньку, маё залота.
— Ручкі не подам, сэрца не згублю,
Праўды не скажу, каго я люблю.
Многа любіла — усіх пазабыла,
Каго не знала — з тым жыці стала.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

128. Ой, ішоў я да дзяўчыны цёмненькае ночы —
Сядзіць гуска над вадою, вырачыўшы вочы,*
Я на яе: "Гыля–гыля!", аж яна прысела,
Каб не тая дзеўчынонька, была б мяне з'ела!
А я й, маладзенькі, мігам дагадаўся:
Чапу–чапу па–за хлеўем — ў крапіву схаваўся.
Вылезшы з крапівы, узяўся пад бокі:
— Дзівяцеся, маладзіцы, які я высокі!
І высокі, і харошы, і ладнага стану:
Дзе схілюся, дзе звярнуся — усюды я прыстану!

Andante

129



129. Касцы косяць, Бога просяць:**
Ой, дай, Божа, пагоданьку.
Ой, дай, Божа, пагоданьку
На нашую работаньку.
Каб мы сена пасушылі
І ў копачкі палажылі.
І ў копачкі палажылі,
І да стагоў панасілі.

130. Іду я ні сяк, ні так,
Ой жа, знайду я ніток маток
І, ой, буду ніці віці,
У Бога долі прасіці:

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Першы радок паўтараецца.

— Дай, Божа, пагоданьку
На нашу работаньку,
Каб мы сена парабілі
І сухое павазілі.

131. Зажурылася бедная ўдованька,
Што й не кошана зялёна дуброванька.*

Найму касары семдзесят чатыры,
Каб выкасілі ўсе горы і даліны.

Касары косяць, а ветрык павявае,
Шоўкава трава з-пад касы палягае —
Бедна ўдованька са шчасця ўмлявае.

132. Зажурылася маладая ўдованька,
Што някошана зялёна дуброванька.
— Ой, дай Божа нядзелькі прыждаці,
Ой, то я пайду касяроў наймаці.
Найму касяроў сто дваццаць чатыры,
Каб выкасілі тыя лугі-даліны.
Касяры косяць, а вецер павявае —
На маладу ўдаву кожны пaглядае.

133

Moderato



---

* У першых двух строфах другі радок паўтараецца.

133. Ой, за лугам зялёненькім*
Брала ўдава лён дробненькі.
Яна брала, выбірала,
Тонкі голас падавала.
Там Васілька сена косіў —
Тонкі голас пераносіў.
Кінуў косу на далоньку,
А сам пайшоў дадамоньку.
Выйшла маці з камнаці,
Стала Васілька пытаці:
— Што ж ты, Вася, ніц не робіш
І нічога не гаворыш?
— Пазволь, маці, удаву браці,
То я буду пець, гуляці.
— Не дазволю ўдаву браці —
Удава ўмее чараваці.
— А я чараў не баюся
Ды на ўдаве ажанюся!

134. Бел малодзец сена косіць,
Бела ўдава есці носіць.
Нясла, нясла, не данясла,
Край Дунаю паставіла.
Край Дунаю паставіла,
Бела сына нарадзіла.
Нарадзіўшы, гаварыла:
— Ці мне цябе гадаваці?
Ці мне цябе гадаваці,
Ці мне цябе ўтапіці?
Гадаваці — ад людзей смех,
Утапіці — ад Бога грэх.
Бел малодзец тое чуе —
Кінуў косу на пакосу.
Кінуў косу на пакосу,
Сам прыскочыў да ўдавонькі:
— Ці ты, ўдава, ашалела!
Як нас маці гадавала —

* Кожны радок паўтараецца.

Цёмнай ночкі не даспала,
Яснай свечы не згашала.
Так мы будзем гадаваці —
Пацяшэнькі дажыдаці.

135. — Ягаданькі-жураўліны,*
Бадай ветэ** зрадзілі,
Куды ветэ мяне ўвялі?
— Не мы цябе сюды ўвялі,
Увяла цябе цёмна ночка
І медзвяна гарэлачка,
Ясенькава бела ручка.

136. Пажаніліся абое маладыя,
Пажаніўшыся, абое пахварэлі.***
Манечка ляжыць у айца, ў матанькі ў каморы,
А Ясенька ляжыць пры зялёнай дуброве.
А па Манечцы айцец і маці плача,
А па Ясеньку чорны воран крача.
— Ой, не крач, не крач ты, чорны воран,
Не будзеш майго есці цела белага.
Ой, ёсць у мяне два брацейкі родныя —
Пахаваюць мяне пры зялёнай дуброве.

137. Ой, як я была малою дзеўчыною,
Дзівіліся хлопцы скрозь сцену шчылінаю.***
Ой, як стала такая, як і людзі,
Не адзін мовіў: "Маёю мілай будзеш".
Ой, як я пайшла за ліхога чалавека,
Людзі кажуць: "Дзяўчына — хваравека".
Ой, як я пайшла за ліхога гараба,
За годзік, за два стала старая баба.

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Ветэ — па-мясцоваму: вы.

*** Кожны другі радок паўтараецца.

138. Бел малодзец сена косіць,
Бела ўдова есці носіць.
Несла, несла й не данесла,
Край Дунаю паставіла.
Край Дунаю паставіла
І з Дунаём гаварыла:
— Мой Дунаю быструсенькі,
Мой сыночку мілюсенькі,
Ці мне цябе ўтапіці,
Ці мне цябе гадаваці?
Утапіўшы, ад Бога грэх,
Гадаваўшы, ад людзей смех.
Бел малодзец тое чуе,
Кінуў косу на пакосу.
Кінуў косу на пакосу,
Сам прыскочыў да ўдавонькі:
— Ці ты, ўдова, й ашалела,
Ці ты, ўдова, й адурэла?
А нас маці гадавала,
Семсот ночак не даспала.
Семсот ночак не даспала —
З калыбкі ножкі не вымала.

139. — Чом ты, мая мама, у царкву не ходзіш,
Чом для мяне, маладзенькай, доленькі не просіш?*
— Я й у царкву хадзіла, шчыра малілася —
Відаць, табе такая доля, доню, судзілася.
— Павязу я сваю долю на рынак прадаваці:
Людзі знаюць ліху долю — не хочуць купляці.
— Ой, ідзі жа, ліха доля, у Дунай тапіся,
Больш за мною, маладою, то й не валачыся!

140. Пасею я канапелек каля дарожанькі,
Загневаўся мой міленькі цераз варожанькі.*
А я тыя канапелькі касою іскашу,
А я свайго міленькага людзьмі перапрашу.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Прасіў айцец, прасіла маці, прасіла радзіна,
Няхай яго перапросіць ліхая гадзіна.
— Дзяўчынанька, дзяўчынанька, якая ты міла,
Чатыры волы, як саколы, ад вады ганіла.
Чатыры волы, як саколы, усё рагамі чэшуць:
— Аддай, аддай, маці, дочку, хай людзі не брэшуць.
— Ой, хоць брэшуць, хоць не брэшуць — забяры іх ліха,
Мы абое, сэрца мое, кахаемся ціха.
Кахаліся–любіліся, як галубы ў пары,
А цяпер разлучыліся, як чорныя хмары.
Чорныя хмары, чорныя хмары вецер разганяе,
А нас двое, сэрца мое, ніхто і не знае.

Andantino 141

Ой, гук-ну, гук- ну, ня-хай ма-ту- ля ўчу- е —
ня-хай для мя- не вя- чэ- рань-ку га- ту- е.

141. Ой, гукну, гукну, няхай матуля ўчуе —
Няхай для мяне вячэраньку гатуе.
Няхай гатуе вячэру саладзеньку,
Няхай пасцеле пасцельку белюсеньку.

142. А ў сокала залаты пёры, а ў паванькі — косы,
Ой, не зажыла жадна нявеста ў свёкарка раскошы.*
Ходзіць свёкарка па новых сенях, нявесту абуджае:
— Устань, нявеста, устань, маладая, ужо другі кур спявае.
Нявеста ўстала, нявеста ўстала, слёзанькамі ўмылася:
— У баценька была, у баценька была, то я зораў не знала,
Зораў не знала, кураў не чула і ўсю работаньку зрабіла.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Lento

143

Ой, ці ўсе ты- я са-ды рас-цві- лі, ка- то- ры раз-ві- лі- ся?

Ой, ці ўсе ты- я па-жа- ні- лі- ся, ка- то- ры лю- бі- лі- ся?

Ой, ці ўсе ты- я па-жа- ні- лі- ся, ка- то- ры лю- бі- лі- ся?

143. Ой, ці ўсе тыя сады расцвілі, каторы развіліся?
Ой, ці ўсе тыя пажаніліся, каторы любіліся?*
Палавінанька саду расцвіла, палавіна пустуе,
Палавінанька пажанілася, палавіна жартуе.
Мала пташанька, невялічанька, па дарожаньцы скача,
Дурна дзеўчына, неразумная, па кавалеры плача:
— Ой, я не плачу, ой, я не плачу — самі слёзанькі льюцца:
Ад мілага лістаньку няма, ад нялюбага шлюцца.
Ой, прышлі, прышлі, мілы, лісточак хоць праз трое людзей,
Ой, няхай жа мне ад матуленькі даганонькі не будзе.

Moderato

144

Ой, ці ўсе ты- я са- донь- кі цві- лі,

што й па- раз- ві- ва- лі- ся?

Ой, ці ўсе ты- я па-жа- ні- лі- ся, што [illegible] вер-на лю- бі- лісь?

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

144. Ой, ці ўсе тыя садонькі цвілі, што й паразвіваліся?
Ой, ці ўсе тыя пажаніліся, што й верна любілісь?
Палавінанька садоньку цвіла, палавіна павяла —
Палавінанька пажанілася, палавіна застала.

145. Медавая чарачка, гэй, медавая!
З кім я буду піць-гуляць маладая?*
Ой, паехаў міленькі, гэй, у дарогу,
І пакінуў міленьку нездарову.
Ой, прыехаў міленькі, гэй, пад варота:
— Выйдзі, выйдзі, мілая, даражэй злота!
Ой, не выйшла мілая, гэй, выйшла маці:
— Годзе, годзе, зяценьку, жартаваці,
Бо ўжо твая мілая, гэй, наражона,
На сасновай лаваньцы палажона.
На сасновай лаваньцы, гэй, палажона,
Васкавая свечанька запалёна.
Васкавая свечанька, гэй, запалёна,
Глыбока магілачка выкапана.
Глыбока магілачка, гэй, выкапана,
Чырвона каліначка пасажона.
Ой, паехаў міленькі, гэй, да магілы,
Прывязаў ён коніка да каліны.
Прывязаў ён коніка, гэй, да каліны,
Прытуліў ён сэрданька да магілы.

146. Каліна-маліна рана расцвіла,
Не за роўню маманька замуж аддала.*
Зазлую на маманьку — у госці не пайду,
Аж на трэці годзічак пташкай залячу.
У садочку сяду — жаласна спяю,
Ці не ўчуе татачка, каня поячы,
Ці не ўчуе маманька, ваду беручы?
Ці не ўчуе сястра, кароўку пасучы?
Не ўчуў баценька, каня поячы,
Не ўчула маманька, ваду беручы,
Не ўчула сястра, кароўку пасучы,
Ано ўчуў браточак, ад дзяўчыны ідучы.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Ох, маманька-мама, што нам Бог дае —
У нашым садочку зязюлька куе!
— Гыля, гыля, зязюлька, перастань каваць:
Як дзіця ты маё міла, то хадзі дахат.
То не зязюленька, то наша дзіця
Адбілася ад роду, як галубеня.

Andante 147

О- лень па ба- ры хо- дзіць, о- лень па ба- ры хо-

дзіць, за ім Я- сень- ка ез- дзіць.

147. Олень па бары ходзіць,*
За ім Ясенька ездзіць.
Стрэльбаньку набівае —
У оленя пападае.
Не папаў у оленя,
А ў белага каменя.

Moderato 148

Ой, ха-дзі- ла дзяў- чы- на, ой, па ля- соч- ку,

эй, на- ка- ло- ла но- жань-ку на тра- соч- ку,

эй, на- ка- ло- ла но- жань-ку на тра- соч- ку.

* Першы, трэці, пяты радкі паўтараюцца.

148. Ой, хадзіла дзяўчына, ой, па лясочку,*
Эй, накалола ножаньку на трасочку.
— Баліць жа мне ножанька, эй, больна-больна.
Эй, любіў мяне мой міленькі, та й нядоўга.
Ой, забылася я яго, эй, папытаці:
Эй, ці мне замуж выходзіці, ці гуляці?
— Гуляй, гуляй, дзяўчынанька, эй, як гуляла,
Эй, тапчы, тапчы чаравічкі, як таптала!
Тапчы, тапчы чаравічкі, эй, як таптала,
Эй, не кажы ты хлопцам праўды, як казала!
Не кажы ты хлопцам праўды, эй, як казала,
Эй, не сцялі ты пасцель белу, як ты слала.
Яны тваю пасцель белу, эй, перакінуць,
Эй, яны цябе любіць будуць да й спакінуць!

149. Ой, за лес сонца закацілася,
Мне да матулі захацелася**
Свайго горачка прызабыціся.**
Дзе мяне мама суцяшаць будзе?
Чым мяне мама частаваць будзе?**
Суцяшаць будзе пад новым дваром,
Частаваць будзе мядовым віном.**
Частаваць будзе і долі пытаць:
— Ці добра, дзіця, у старане чужой?**
— Ці ела, мама, ты рэдзьку з палыном?
Так мне, маладой, у старане чужой.**
У канцы століка настаялася,
Лічаных кускоў накусалася,**
Ліхіх слоўцаў наслухалася.**

Allegretto — 150

Ой, за га- ро- ю за ка-мян-но- ю, там ся-дзеў го- луб
і з га- луб- ко- ю, там ся- дзеў го- луб і з га- луб- ко- ю.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Радкі, пазначаныя зоркамі, паўтараюцца.

150. Ой, за гарою за камянною,
Там сядзеў голуб і з галубкою,*
Цылаваліся, мілаваліся,
Правым крылечкам абымаліся.
Ой, прышоў стралец з-за сіня мора,
Забіў голуба, галубка — удова.
— Забіў голуба, забі шчэ й мяне —
Няхай не буду ў няволі ў цябе.
Сыпле пшаніцу, ставіць вадзіцу,
Каб спаймаці бедну ўдавіцу.
Галубка не есць, галубка не п'е,
А ў сад-вінаград плакаці ідзе.

151. Ой, у полі тры крынічанькі,
Любіў хлопец тры дзяўчынанькі:
Чарнявую да й бялявую,**
Трэццю руду шчэ й паганую.

— Я чарняву ад душы люблю,
А з бяляваю абвянчаюся,
А з той рудой шчэ й паганаю
Да й навекі распрашчаюся.

Не ўсе тыя да й сады цвітуць,
Што вясною развіваюцца,
Не ўсе тыя да й вянчаюцца,
Што любяцца да й кахаюцца.

Палавіна саду расцвітае,
Палавіна асыпаецца,
Палавіна да й вянчаецца,
Палавіна разлучаецца.

Ах, Божа жа ж мой да й Збавіцелю,
Зрабі мяне маладзіцаю —
Мне дзявіцай надакучыла,
Маё сэрца перамучыла.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

152. Лотацю, лотацю, чом ты не развіўся?*
Любіў я дзяўчыну та й не ажаніўся.
Любіў я дзяўчыну — узялі яе людзі,
А мне, маладому, параньki не будзе.
Будзе пара, будзе, адно не такая —
Будзе маладая шчэ й чарнабрывая.

Andantino 153

– Не шум, ду- бе, не шум, ду-бе, зя- ле- ны бай- ра- ча,

не здрадзь мя- не, не здрадзь мя-не, ма- ла- ды ка- за- ча.

153. — Не шум, дубе, не шум, дубе, зялёны байрача,
Не здрадзь мяне, не здрадзь мяне, малады казача.
— Ой, як жа ж мне не шумеці, быўшы зеляному,
Ой, як жа ж мне не здрадзіці, быўшы маладому?
Цячэ рэчка ад мельнічка, у яе вада льецца —
Любіў казак дзяўчынаньку, а цяпер смяецца.
— Ой, хоч смейся, хоч не смейся, я не твая буду —
Хадзіць будзеш, любіць будзеш — за цябе не пайду.

154. Ой, з гары, з гары едуць мазуры,*
Вязуць сабе паненачку-мазурачку.
А яна плача, а яна плача —
Харошая мазурачка замуж не хоча.
— Не плач, дзяўчына, замуж ідучы,
Наплачашся ў той час досыць, за ім жывучы.
У яго хаце — айцец, маці,
Будуць табе даганяці — у той час плакаці.
— Я не плакала, ані думала —
Сама сабе, маладая, жалю задала.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ой, дбай, бацьку, дбай: дочку замуж дай!
Не аддай яе за ляда якога, бо яе ўроды жаль,
Бо яе ўрода, як ціхая вада:
Яе лічка бела-румяное, сама малода!

155. Там млоды конь стаяў,
У яго сіва грыва.
Спадабалася мне*
Малада дзяўчына.

Не так та дзяўчына,
Як яе лічанька.
— Падай мне, дзяўчына,
На каня ручаньку.

Я ручкі не дала,
Тры словы сказала:
— О, бадай, о, бадай,
Кахання не знала!

Бо то каханечка
Зранку да вечара —
Пакуль сонца зыйдзе,
Кахання не будзе.

156. Ой, чыя то капуста галовістая,
Ой, чыя то дзяўчынанька размовістая?**
Якавава капуста галовістая,
Якавава дзяўчынанька размовістая.
Якавава капуста, Якававы качаны —
Якававу дзяўчынаньку ўжо да шлюбу павялі.




---

* Кожны трэці радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.




157. Папярэдзе лебедзі,*
А пазадзе мядзведзі.

Папярэдзе віно п'юць,
А пазадзе кіем б'юць.

158

Adagio




158. Ой, валока, валока,*
Доўгая і шырока.

На ёй жэнчыкі жалі,
Голасна, тонка спявалі:

— Жэнчыкі маладыя,
Серпікі залатыя.

Наша пані дамуе —
Нам вячэру гатуе.

Нам вячэра не міла —
Пастацянка ўтаміла.

---

* У кожнай страфе першы радок паўтараецца.

159. Ой, у полі дуб, дуб, а пад дубам елка,
Там дзяўчына, сама маладая, сама жыта жала.*
Ехаў казак з Украіны: "Бог дапамаж, дзеўка!"
Дзеўка стала, стала, адказала, сэрдэнькам назвала.
— Бадай тваё слова па ўсім свеце стала,
Як ты ж мяне, мяне, маладога, сэрдэнькам назвала.
Бадай тваё слова па ўсім гарадочку.
Вышывала тая дзяўчынанька міламу сарочку.
Шыла ж яна, шыла рознымі ніткамі,
Каб пазнаці свайго міленькога паміж парынькамі.

160. Ой, у полі дуб, дуб, а пад дубам ёлка,
То там дзеўка, дзеўка жыта жала, сама чарнаброўка.*
Ехаў казак з Украіны: "Памагай Бог, дзеўка!"
Дзеўка стала, стала й адказала, сардэнькам назвала.
— А бадай жа тое слова па ўсім свеце стала,
Як ты мяне, мяне, маладога, сардэнькам назвала.

161. Наша пані дамуе,**
Нам вячэру гатуе.
Нам вячэра не міла —
Пастацянка ўтаміла.

162. Чалядонькі, чалядонькі, да конца,
То пойдземо дадоманьку за сонца.*
Чалядонькі, чалядонькі, да сценкі,
То наварыць наша пані зацеркі.

163. Касіў Ясь канюшыну,***
Паглядаў на дзяўчыну.
А дзяўчына жыта жала
І на Яся спаглядала.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Першы радок паўтараецца.

*** Першы радок паўтараецца тройчы.

— Ці ты Ясь, ці ты не,
Спадабаўся ты мне!
Кінуў Ясь тут касіць,
Пайшоў маменьку прасіць:
— Ох ты, мамка мая,
Ажані ты мяне!
— То й бяры Станіславу,
Што сядае на ўсю лаву.
— Station Станіславы не хачу,
Бо на лаву не ўсаджу.
— То й бяры ты Яніну —
Працавітую дзяўчыну.
— Я Яніны не хачу,
А я тую вазьму,*
Што цалую і люблю.

164. Ой, у лесе клён-дзерава нізка,
Ходзіць Ясё край Ганулі блізка.
— Ой, не хадзі край мяне блізенька,
Бо няслава праз цябе на мяне!
— Я няславы ніколі не баюся —
З кім зыдуся, з тым разгаваруся.
А ў шынкаркі мёд, віно, гарэлка,
А ў шынкаркі маладая дзеўка.
А шынкарка сваю дочку біла:
— Дзе ж ты, дочка, вяночка згубіла?
— Я пад гаем пшанічэньку жала,
Там я свайго вяночка сцярала:
Ехаў Ясё та й баравіною —
Паплыў, паплыў вяночак з вадою.
Дай та Божа нядзелькі прыждаці —
Та й пайду я на воду лапаці!

Moderato 165

— Зя- лё- на- я ча-рам-цы- на, чом не га-рыш, а- но ку-

* Перадапошні і апошні радкі паўтараюцца.




165. — Зялёная чарамшына, чом не гарыш, ано курыш?
Маладая сэрца-дзяўчынанька, чом не робішь, ано тужыш?*
— Калі б мяне падпалілі, я гарэла б, не курыла б,
Прынясі, Божа, каго верна люблю, я й рабіла б, не тужыла б.
Вылецелі белы гусі, з мора вады напіўшыся.
Вандравалі аж два кавалеры з Дашоў, не ажаніўшыся.
Адзін ідзе — каня вядзе, хустанькай уціраецца.
Ой, не адна сэрца-дзяўчынанька слёзанькамі абліваецца.

166. Адно сонца сходзіць, другое заходзіць,
А там багач да дзяўчыны кожны вечар ходзіць.*
— Багачу, багачу, не хадзі да мяне,
Ты багаты, а я бедна — ты не возьмеш мяне.
— Не вазьму, не вазьму, але нахаджуся,
А з табою, сэрца маё, хоць нагаваруся.
Вазьму я крэселца, сяду край акенца,
Шчэ й вочы не спалі, а ўжо сходзіць сонца.
— Вочы ж мае, вочы, што вы думаеце —
Усю ноч на размовы, а ўдзень дрымаеце.
Дрымайце не дрымайце, не будзеце спаці,
Дзесь паехаў мой міленькі другое шукаці.
А ў зялёным лесе зязюля кувае:
— Ой, дурны той хлопец, што багату шукае.
Багата-рагата на мяжы ляжала,

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Бедна ды хароша тры капы нажала.
Вазьмі сабе жону з беднага дому,
То наробіць хлеба, шчэ й пазычыць кому.




167. Каля цёмнага бору,*
Каля быстрае рэчкі,

Каля быстрае рэчкі
Ехалі разбойнічкі.

Пыталіся да сяла,
Да Гандзюлі да двара.

А Гандзюля не пышна —
Да разбойнічка выйшла.

— Ой, разбою, разбою,
Сівы конь пад табою,

Сівы конь пад табою,
Востры меч пад рукою.

— Па чым, Гандзю, пазнала
I разбойнічкам назвала?

Ці па кані вараным,
Ці па сядле зеляным?

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Ні па кані вараным,
Ні па сядле зеляным,

А па табе маладым,
Па лічаньку румяным.

168. Явар над вадою нізка пахіліўся,
З Украіны да дзяўчыны казак прыхіліўся.*
Казак прыхіліўся, на каня сядае —
Маладая дзеўчынонька слязьмі аблівае.
Слязьмі аблівае, так жаласна плача:
— Вазьмі мяне і з сабою, малады казача.
— Дзеўчынонька міла, што будзеш рабіці?
— Над ракою шыракою каліну садзіці.
Прыляталі пташкі з каліны цвет есці,
А для мяне, маладое, прыносілі весці.
Казака й забіла — прыйшла тэлеграма,
Я й, дзяўчына маладая, асталася сама.
Не сама асталась да й не самюсенька —
Асталася ў дзяўчыны дзяціна малюсенька.

169. Ой, паслала мяне маці**
Да й у поле жыта жаці,
Ой, паслала мяне маці,
Да й у поле жыта жаці.
А я жыта не жала,**
У баразёнцы ляжала,
А я жыта не жала,
У баразёнцы ляжала.
Прыйшлі жанцы ў поле жаці,**
А я лежу ў баразёнцы,
Прыйшлі жанцы ў поле жаці,
А я лежу ў баразёнцы.
А я з тае ахвоты**
Да й нажала чтэры снопы,
А я з тае ахвоты

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Радкі, пазначаныя зоркамі, спяваюцца тройчы.

Да й нажала чтэры снопы.
Чтэры снопы нажала,*
Палічыці не змагла,
Чтэры снопы нажала,
Палічыці не змагла.
Трэба хлопцаў прасіці*
Гэты снапы палічыці,
Трэба хлопцаў прасіці
Гэты снапы палічыці.

170. Выпраўляла мяне маці**
Зеляное жыта жаці.

А я жытка не жала,
У баразёнцы ляжала.

Баразёнка вузенька —
Не памесцімася.

А я з тае ахвоты
Да й нажала штыры снопы.

Штыры снопы нажала,
Палічыць як не знала.

Трэба людзей папрасіці
Тыя снопы палічыці.

Прыйшлі бедны і багаты —
Было з кога выбіраці.

Я ж выбрала хлопца-зуха
Без чаботаў, без кажуха.

171. Па садочку хаджу,
Каня ў руках ваджу,
Цераз родну маму***
Нежанаты хаджу.

---

* Радкі, пазначаныя зоркай, спяваюцца тройчы.

** Першы радок кожнай страфы паўтарасцца тройчы.

*** Трэці і чацвёрты радкі кожнай страфы паўтараюцца.

А я маму перапрашу,
А я маму перапрашу,
А сваю Марысю
Дадому запрашу.

Прывёз я Марысю,
Стала ў куточку:
— Прымі, прымі, мама,
За родную дочку.

— Дам табе, Марысю,
Каня воранога —
Адвяжыся, адчапіся
Ты ад сына мога.

— А я каня вазьму,
Сяду і паеду,
Твайго сына не люблю,
Той за ёга не пайду.

— Ні адну я ночку,
Ні адну нядзелю,
На цябе, Марысю,
Меў я ўсю надзею.

172. Олень па бары ходзіць,*
За ім Ясь каня водзіць,
Стрэльбаньку набівае,
У оленя пападае.
Не патрапіў у оленя,
А ў белага каменя:
— Ой, матулю, матулю,
Чом я долі не маю?
У оленя не трапляю?
— Не любі, сынку, ўдавы,
Не будзеш мецi долі.
Любі, сынку, дзеваньку,
Будзеш мецi доленьку.

---

* Кожны радок паўтараецца.

173. Пайду я туды, куды летам не хадзіла,
Ой, ці не знайду, каго верна любіла?
Ой, як жа не яго, то таварышча яго,
Запытаюся, як здароўечка яго.

174. Дажынайся, мой загонцу маленькі,
Хто цябе араў? — Юлечка маладзенькі.
Ой, араў, араў па чатыры баразёнкі,
Каторы вужшы — то для свае жонкі.
Араў, араў і не ведаў, калі стаці,
Бо не ўмеў, як на коніка гукаці.
Ой, паджынайся, мой загонцу маленькі,
Хто цябе араў? — Ратайка маладзенькі.

Lento 175

Не жа-луй, па- не, боч- ку мя- доч- ку:
на- жа- лі жы- та, я- ко ля- доч- ку.
Збор, Я- сю, збор, на- ша- му гас- па- да- ру ў дом.

175. Не жалуй, пане, бочку мядочку:
Нажалі жыта, яко лядочку.
Збор, Ясю, збор*
Нашаму гаспадару ў дом.

176. На нашым полі ўдалы малайцы ячмень жнуць.
— Ой, Божа, Божа, хто нам паможа? — Не выжнем!

* Трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Дзяўчына мала нам памагала. — Дажалі!
Судзі нам, Божа, тую дзяўчыну ўзяці!

177. Пашлі дзеванькі ў лес калінаньку ламаці,
А маладзіцы перапёланьку лапаці.*
Пакуль дзеванькі ў лесе калінанькі наламалі,
Маладзіцы перапёланьку злапалі.

178. Ой, вылець, вылець, перапёлачка,
Бо ўжо ў нас жыта 'но столечка.
Клён, Ясю, клён, нашаму пану ў двор!**

Ой, выедзь, пане, на сівым кані,
Палічы копы па ўсім палі.

А ўжо ў нас жыта дажынаецца,
Пан з паняю абдымаюцца.

Не шкадуй, пане, бочку мядочку —
Нажалі жыта так, як лядочку.

Не шкадуй, пане, белага сыра —
Дасць табе Пан Бог мілага сына.

Дажалі жыта — выгналі ліса,
А ў нашага пана галоўка лыса.

Andante 179

Там на аб- ло- зе ска- ка- лі жа- бы— да- жа- лі жы- та
ста- ры- я ба- бы. Плён ня- сём, плён,

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.




179. Там на аблозе скакалі жабы —
Дажалі жыта старыя бабы.
Плён нясём, плён, нашаму пану ў двор.*

Там на аблозе скакалі козы —
Дажалі жыта паненкі гожы.

Дажалі жыта аж да аблогу —
Пойдзем дадому, то й слава Богу!

Дажалі жыта і з пшаніцаю —
Частуй нас, пане, гарэліцаю.

Не жалуй, пане, сіўца-жарабца —
Едзь па гарэлку аж да Крулеўца.

180. Дажалі жытка — пажнём і авёс,
Не пойдзем у поле — будзе мароз.
Плён нясём, плён!*

Дажалі жытка аж да граніцы,
Не шкадуйце, пане, віна шкляніцы.

Дажалі жытка, выгналі воўка,
У пана старосты мондра галоўка.

У пана старосты поўна абора,
Пані старасціха — гаспадыня ўзарова.**

А па нашым полі скакалі жабы —
Дажалі жытка старыя бабы.

А ў нашым полі скакалі цяляткі —
Дажалі жытка спраўныя дзяўчаткі.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

** Узарова — польск., па-беларуску — прыкладная, перадавая.

А ў нашым полі скакалі агеры —
Дажалі жытка малады кавалеры.

А ў нашым полі выраслі ажыны —
Дажалі жытка старыя мужчыны.

181. Прасілася жытка ў дзявочак:
— Сажнеце мяне ў снапочак,
Занясеце мяне ў клуньку,
Палажыце мяне ў старонку —
Няхай я ў клуньцы пагашчу,
Пакуль на поле зноў пайду.
У мяне ў клуньцы гасціна,
А на полі — радзіна,
Бо мяне ў клуньцы цапамі б'юць,
А на полі дажджы льюць.

182. Прасілася жыта, прасілася жыта
Ў пана гаспадара:
— Пане гаспадару, пане гаспадару,
Сажні мяне ўпару.
Сажні мяне, сажні, сажні мяне, сажні
І ў стадоланьку звязі.
Бо я ўжо настаялася, бо я ўжо настаялася
З дожджыкам драбнюсенькім, з дожджыкам драбнюсенькім,
З вецярком драбнюсенькім.
А цяпер хачу спакою, а цяпер хачу спакою —
Ляжаці ў стадоле, як у пакою.

183. Ой, дзіва мне, дзіва,
Што пры месяцы жніва,
Пры зорах снапы зносяць,
У Пана Бога просяць:
— Каб на нашага пана
Хвароба напала,
Каб ён не нагрэўся на печы,
Над духам, пад новым кажухам.

184. Ці я ў полі не жнеечка?
Ці за мною не жменечка?
Дайце мне павязнога:
Не старога, не малога —
Харошага, маладога.
Ён за мною снапкі звяжа,
Усю праўду ён мне скажа.
Снапкі звяжа і падыме,
Спаці ляжа і абыме.
Снапкі звяжа і змацуе,
Спаці ляжа і пацалуе.

185. У нашага пана дзіва,
Што за месяца жніва.
За зорамі снапы носяць
І Пана Бога просяць:
— Дай, Божа, пану жонку,
Як арлянску жыдоўку.
Дай, Божа, пану дзеці,
Каб не меў іх дзе падзеці.
Каб пана громы ўбілі,
Каб мы больш сюды не хадзілі.

## ВОСЕНЬСКІЯ ПЕСНІ

Lento 186

Ой, ва- лы ма- е па- ла- вень- кі- я, чом жа
вы не а- рэ- це? Ой, ле- та ма- е ма- ла-
дзень- кі- я, чом вы мар- на так і- дзе- це?

186. Ой, валы мае палавенькія, чом жа вы не арэце?
Ой, лета мае маладзенькія, чом вы марна так ідзеце?
Ой, пайду туды, ой, пайду туды, куды летам хадзіла,
Ой, ці не знайду, ой, ці не знайду, каго верна любіла?
Ой, як не яго, ой, як не яго, то таварыша ёга,
Запытаюся, запытаюся пра здароўечка ёга.
— Ты не пытайся, ты не пытайся пра здароўечка ёга,
А запытайся, а запытайся, якое жыццё ёга.
— Не буду лгаці, не буду лгаці, але праўду казаці:
Як Бог назначыў, як Бог назначыў, так мушу гараваці.

187. Пажану волікі ў Папяле* раненька,
Напасу волікі, як бочкі, кругленькі.**
Валы, мае валы, не рана я ўстала —
Вы не пад'елі, а я недаспала.
Валы не пад'елі — камары кусалі,
А я недаспала — хлопцы дакучалі.
Валы не пад'елі, бо трава малая,
А я недаспала, бо йшчэ маладая.

188. Ой, іду я, ой, іду я па-над лугам,
Там арэ мой мілы плугам.**
А ён арэ, а ён арэ, а я плачу —
Маладыя лета трачу.
Панясу я, панясу я яму есці,
Ці не скажа ён мне сесці.
Ён наеўся, ён наеўся і напіўся
І на раллю паваліўся.
— Чаго ляжыш, чаго ляжыш, чом не арэш,
Чом да мяне не гаворыш?
— Ой, я ляжу, ой, я ляжу і думаю:
Не па мыслі жонку маю.
— Чаго ж ехаў, чаго ж ехаў цёмнай ночы?
Каб табе вылезлі вочы!
Было ехаць, было ехаць світаючы,

---

* Папяле — выган, паша каля Трасцянкі.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Добрых людзей пытаючы.
Нашы людзі, нашы людзі не татары —
Праўду ўсю табе сказалі б.

189. Па даліне, па даліне галубы лятаюць —
Не паспела замуж выйсці, ўжо леты мінаюць.*
Прайшлі мае леты цветам за дубовы горы,
Цяпер жа мне, маладзенькай, што рачок, то й горай.
— Запрагайце, хлопцы, коні, коні вараныя,
Даганеце, павярнеце леты маладыя.
Даганілі хлопцы леты, леты маладыя:
— Верняцеся, мае леты, да мяне ў госці.
— Мы не будзем варачацца, было не спяшаці,
Было замуж не спяшаці — мужа выбіраці.
— А я мужа выбірала, якога хацела,
А цяпер мне, маладзенькай, галоўка няцэла.

Adagio 190

Па са-донь- ку ха- дзі-ла, ка- лі- нонь- ку ла-мі-ла,
ка- лі-нонь- ку ла- мі- ла і ў пу- чэч- кі вя- за-ла.

190. Па садоньку хадзіла, каліноньку ламіла,
Каліноньку ламіла і ў пучэчкі вязала.
У пучэчкі вязала, да лічэнька раўняла,
Да лічэнька раўняла і матулі пытала:
— Ой, матуль, мая матуль, ці я буду такая,
Ці я буду такая, як каліналька румяная.
— Ой, будзеш, доню, будзеш, як у мяне пабудзеш,
Як пойдзеш да свякарка — завянеш, як рутанька.
Упадзе краса з лічка, а як раса ад сонечка,
Упадзе з румянага, як раса ад яснага.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

191. Ой, даўно, даўно ў матулі была,
А ўжо ж тая дарожанька травой зарасла.*
А як я захачу — траву патапчу,
А да сваё матуленькі ў гасціну прыйду.
Ой, іду, іду, ідучы, драмлю,
Палажу я галаваньку на зялёну мураваньку —
хай я дасплю.
Маманька ідзе — не будзіць мяне:
— Мае дзіця мілюсенька пайшло замуж младзюсенька —
хай падаспіць.
Свякруха бяжыць, аж зямля дрыжыць:
— Уставай, уставай, заваліна, пашто хату заваліла —
уставай рабіць!

Andante 192

Зя- лё- ны ду- бо- чак на яр па- хі- ліў- ся.
-Ма- ла- ды ма- лой- чык, ча- му за- сму- ціў- ся?
Ма- ла- ды ма- лой- чык, ча- му за- сму- ціў- ся?

192. Зялёны дубочак на яр пахіліўся.
— Малады малойчык, чаму засмуціўся?*
— Цяжка мне, малойцу, жыці адзінока —
Адышла дзяўчына мая чарнавока.
— Зялёны дубочак, чом не зелянееш?
Ці сушы баішся, ці лісця жалееш?
— Сушы не баюся, лісця не жалею,
Дзе я не прысяду — мілую спамяну.

193. Летам каля рэкі, летам каля бору,
Гэй, гэй! зазываў казачак дзеўку ў камору.*
— Не пайду, казача, не пайду ў камору,
Гэй, гэй! бо я маладая — баюсь абгавору.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Не бойся, дзяўчына, не бойся ты, міла,
Гэй, гэй! не здрадзіў нікому — не здраджу і тобе.
Пакінуў казачак тры рублі на мыла,
Гэй, гэй! тры рублі на мыла, а дваццаць на піва.
— Мылам намывайся, півам напівайся,
Гэй, гэй! каб маці не знала і людзям не сказала:
"Цяпер мая донька ў лузе не каліна,
Гэй, гэй! цяпер мая донька хлопцам не дзяўчына".

194. А ў гародзе калінанька чырвона, як жар, —
Любіў хлопец дзяўчынаньку, любіў, ды не ўзяў.
— Ой, жаль, жаль, жаль!*

Яе возьмуць людзі — яна мая не будзе.
Яе возьмуць людзі — яна мая не будзе!

Капаў, капаў крынічэньку ў сваім саду:
Можа, зайдзе мая міла сюды па ваду.

Капаў, капаў крынічэньку нядзельку ці дзве,
Высватаў я дзяўчынаньку людзям, не сабе.

А ўжо з тае крынічэнькі людзі воду п'юць,
А ўжо ж маю дзяўчынаньку пад вянец вядуць.

Адзін вядзе за ручаньку, другі — за рукаў,
А я стаю, сэрца баліць: любіў, ды не ўзяў.

195. Па гарэ, па даліне галубы лятаюць,
Я раскошы не ўжыла — ужо лета мінаюць.**
Я раскошы не ўжыла, гора не забуду —
Па чым жа маладыя лета ўспамінаці буду?
Ой, вырву я з ружы кветку і пушчу на воду:
— Плыві, плыві, з ружы кветка, аж да майго роду.
Плыла, плыла з ружы кветка, пры беразе стала.
Прыйшла маці воду браці — з ружы цвет пазнала:
— Ой, чаго ж ты, з ружы кветка, так хутка збляднела?
Ой, мусіць, ты, з ружы кветка, тры леці хварэла?
— Не хварэла, не ляжала ні дня, ні гадзіны —

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Папалася злому мужу да ліхой дружыны.
Намачыўшы канапелькі, трэба іх цягаці,
Папаўшыся злому мужу, трэба гараваці.

Andante 196

Ма-ла пта-шы- на, не- вя- лі- ка- я па да-ро-жань-цы ска- ча—
дур- на дзяў-чы-на, ро- зу- му ня-ма, што й па ка-ва-ле- ру пла- ча,
дур- на дзяў-чы-на, ро- зу- му ня-ма, што й па ка-ва-ле- ру пла- ча.

196. Мала пташына, невялікая па дарожаньцы скача —
Дурна дзяўчына, розуму няма, што й па кавалеру плача.*
— Ой, не я плачу, ой, не я тужу — самі слёзанькі льюцца:
Ад міленькога лісточку няма, ад нялюбага шлюцца.
Ой, прышлі, прышлі, мой мілы, лісток хоць цераз трое людзей,
Ой, няхай жа мне ад матуленькі дагανонькі не будзе.

197. Сядзеў голуб на дубочку, галубка на вішні.
— Скажы, скажы, мой міленькі, што маеш на мыслі?
А я цябе верна люблю, як і сваю душу,
А ты мяне пакідаеш — я плакаці мушу.
Ой, не хочаш, мой міленькі, маім мілым быці,
То дай жа мне таго зелля, каб цябе забыці.
— Расце, расце тое зелле блізка пералазу,
Як нап'ешся, мая міла, забудзеш адразу.
— Не хачу піць таго зелля, кропелькі не пушчу,
Тады я цябе забуду, як вочанькі сплюшчу.

Andante 198

-Дзе ж ты, вяр- ба, та- ка- я рас- ла, што тва-

* Кожны другі радок паўтараецца.




198. — Дзе ж ты, вярба, такая расла,
Што твае лісце вада знясла?*
— Знясла вада, ціха вада —
Не пайду замуж за год, за два.
Ды пайду замуж аж пятага
За тую п'яніцу праклятага.
Людзі кажуць, што ён не п'е,
А ён кожны дзень з карчмы ідзе.
Прапіў коніка вароняга —
Ідзе да стаенкі па другага.
Ой, не раз, не два выкупляла —
У вішнёвым садочку начавала.

199. Ой, гараў Сямён край дарогі,**
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
Край дарогі.

А ў яго валы крутарогі,
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
Крутарогі.

Ён павесіў торбу на бярозе,
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
На бярозе.

Ой, там дзяўчаты грыку рвалі,
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
Грыку рвалі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожнай страфе першы радок паўтараецца.

Яны ў таго дзядзька торбу ўкралі,
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
Торбу ўкралі.

Ой, пайшоў Сямён гукаючы,
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
Гукаючы.

Ён свае торбы шукаючы,
Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!
Шукаючы.

200. Ой, пайду я па-над лугам,*
Дзе мой мілы гарэ плугам.
Занясу я яму есці —
Ці скажа мне прысесці,
Занясу я яму піці —
Ці не будзе гаварыці.
Ён наеўся і напіўся,
Сеў на плузе, засмуціўся.
— Чом, мой міленькі, не гарэш,
Чом са мною не гаворыш?
— А сяджу да й думаю,
Што ліхую жонку маю.
— Трэба было не сватаці —
Было ў людзей папытаці.
Нашы людзі не татары,
Усю бы праўду расказалі.

201. Там пад гаем, гаем зеляненькім,
Там арала дзеўчынонька волікам чарненькім.**
Арала, арала, не ўмела гукаці,
Та й наняла казачэнька на скрыпоньцы граці.
Казачэнька грае — вочкамі міргае,
А хто ж яго душу знае: на каго міргае?
Ці на мае коні, ці на мае волы,
Ці на мае бела лічка, ці на чорны бровы?
Чорны бровы маю, то й не весялюся,
Лепей пайду да Дунаю — з жалю ўтаплюся.
— Не тапіся, дзеўка, бо душу загубіш,

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Скажы, скажы лепей праўду: каго верна любіш?
— Ой, люблю я тога Яся маладога,
Ой, куды ні павярнуся — нудна мне без ёга.
Пайду ў камору пасцель белу слаці,
Пасцель бела, сцяна нема — не з кім размаўляці.
Пасцелька бяленька, а сцяна няменька,
А я бедна, бяднюсенька, сама адзіненька.

202. Пад лесам хадзіла,
Цвет–каліну ламала.
Цвет–каліну ламала,
Да лічэнька прыкладала.
Да лічэнька прыкладала
І матуленькі пытала:
— Ці я буду такая,
Як калінанька сяя?
— Ой, будзеш, донечка, будзеш,
Покі ў мяне будзеш.
Як пойдзеш да свекаронька —
Спадзе з цябе ўся красонька.
Спадзе з цябе ўся красонька,
Як ад сонечка расонька.

203. Ой, Божа, мой Божа, што ж то мне рабіці?
Як мне, маладзенькай, ворагам гадзіці?*
Выйду я ў чарненькім — кажуць, што дурная,
Выйду ў белюсенькім — кажуць, што нямудра.
Як я заспяваю — кажуць, што я п'яна.
Як іду ціхенька — кажуць: "Апантана".
Я ж на тое сама не буду тужыці,
Бо ўсім завідна, што мне добра жыці.

204. Ой, патапіла мяне матанька, як канапельку ў воду,
Ой, не так мяне ж, маладзенькую, як маю слічну ўроду.*
Канапля мокне, канапля мокне — ідуць людзі выцягаці.
За ліхім мужам, за нядбайніцай я мушу прападаці.
Пажыву рачок, пажыву другі, на трэці патаўкуся,

* Кожны другі радок паўтараецца.

А як ён жа мне не направіцца — пайду і ўтаплюся.
— Не тапіся, донька, не тапіся, родна, бо ты душу загубіш.
Людзі гавораць, я й сама знаю, што ты ёга не любіш.
— Не люблю, мама, не люблю, родна, я й любіці не буду,
А як ён жа мне не направіцца, я з ім жыці не буду.
Жыву я й рачок, жыву я й другі, а і трэці наступае:
Ой, няма шчасця, ой, няма долі — дзяўчына прападае.

205. Чырвона каліна ўсе лугі акрасіла,
Маладая маладзіца свае лета патраціла.
Я і лісце спускаю, бо марозы чую,
Слёзанькамі абліваю, бо ліхога мужа маю.
Пашла-вандравала — увесь свет павідала,
За табою, ліхі мужу, свае лета пастрадала.
Не казаў мне бацька, ані родная маці,
Сама яго палюбіла — не на каго наракаці.

206. Паехаў мой мілы — нідзе не відаці,
На рыжым пясочку два слядочкі знаці.*
Ой, адзін слядочак каня варанога,
А другі слядочак майго міленькога.
Ой, скочу я, скочу ў вішнёвы садочак,
Вышчыкну, выламлю кляновы лісточак.
Вышчыкну, выламлю кляновы лісточак —
Прыкрыю, накрыю мілага слядочак.
Каб па тым слядочку людзі не хадзілі,
Каб майго мілога другія не любілі.
Каб па тым слядочку птушкі не лятали,
Каб майго мілога іншы не кахалі.




* Кожны другі радок паўтараецца.




207. Пад калінаю, та й пад чырвонаю казачэнька ляжыць,
Ой, зажурыўся млоды казачэнька, аж галоўка баліць.
— Ой, баліць жа мне, баліць жа мне галованька,
сам не знаю чаго,
Ой, палюбіў я красну дзяўчынаньку, сам не знаю каго.
Ой, гляну, гляну я ў аконца: дробны дожджык імжыць,
Як жа ж мая красна дзяўчынанька па воданьку бяжыць?
Ой, гляну я, гляну ў другое: галубы ваду п'юць,
А ўжо ж маю красну дзяўчынаньку та й да шлюбу вядуць.
Ой, адзін вядзе за белую ручку, а другому жаль, жаль,
А трэці стаіць, белы ручкі ломіць, што любіў, а не ўзяў.*




208. Ой, журба мая, то й не малая — сівы конь над вадою.**
Шчэ й горша журба — мілая мая не гаворыць са мною.
Ой, заржы-паржы, сівы коніку, рана на пашу йдучы:
Можа, ўчуе мая дзяўчына, дробны вяночкі ўючы.

---

* Апошні радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Скора й учула, скора й узнала — голасна заплакала:
— То таго хлопца сівы конь іржэ, што ■ верна кахала.
Ой, чом не прыйшоў, чом не прыехаў, як я табе казала,
Ці каня не меў, дарогі не знаў, ці маці не пускала?
— Я коніка меў, я дарогу знаў, мне маці казала,
Меншая сястра, бодай вырасла, ехаці не дала:
— Не едзь, браціку, не едзь, родненькі, да тае
дзяўчынанькі —
Не ўмее жаці, ні вышываці, но косаньку часаці.
Ой, расці, каса, то й да пояса, я буду часаці,
Як ты любіш, мой мілы, мяне, то й схочаш забраці.

209. Сасновы лясочак, дубовы лісточак,
Не бачыла міленькага ўжо трэці дзянёчак.*
Адзін панядзелак, ■ другі аўторак —
Мне, маладой, здалося, што дзянёчкаў сорак.
— Перастань хадзіці, перастань любіці,
Як дазнае маці ў хаце, будзе мяне біці.
— Хадзіць не пакіну, любіць не забуду,
Покуль цябе, маладую, сабе не прыбуду.

Moderato 210

Пры- ля- це- лі гу- сі та й з-пад Бе- ла- ру- сі,
се- лі на дуб- ро- ву, па- му- ці- лі во- ду.
Ба- дай ты- я гу- сі та й да- бра не зна- лі,
як мы ка- ха- лі- ся, ця- пер пе- ра- ста- лі.

* Кожны другі радок паўтараецца.

210. Прыляцелі гусі та й з–пад Беларусі,
Селі на дуброву, памуцілі воду.
Бадай тыя гусі та й дабра не званалі,
Як мы кахаліся, цяпер перасталі.
Як мы кахаліся — нас бяда не знала,
Цяпер разышліся, як цёмная хмара.
А з той цёмнай хмары дробны дожджык будзе —
З нашага кахання нічога не будзе.*

Moderato 211

Пес- ні ма- е пес- ні, дзе я вас па- дзе- ну?

Са- бя- ру ў фар- ту- шак – па по- лі рас- се- ю!

Са- бя- ру ў фар- ту- шак – па по- лі рас- се- ю!

211. Песні, мае песні, дзе я вас падзену?
Сабяру ў фартушак — па полі рассею!**
Як мне будзе добра, то я пазбіраю,
Як мне будзе кепска, то пазабываю.
Куколю, куколю, не сейся па полю,
Сейся па балоце — не трэба палоці.
Як я была малада, пшаніца радзіла —
Мяне, маладзеньку, радзіна любіла.
Цяпер у мяне, старое, куколь узяў завёўся,
Мяне, старое, увесь род узяў адрокся.
Куколю, куколю, не сейся па полю,
Сейся па балоце — не трэба палоці.
Ой вы, братцы, братцы маладыя,
Запрагайце коні, коні вараныя,

---

* Апошні радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Запрагайце коні, коні вараныя —
Даганеце леты, леты маладыя.
Даганялі леты, леты маладыя,
Даганялі леты, леты маладыя.
Даганілі леты на ліповым мосце:
— Верняцеся, леты, да мяне ў госці!
— Ой, мы не вярнемся — былі ў тваёй хаце,
Было замуж не йсці — леты шанаваці.
Ой, ты выйшла замуж, за каго хацела,
А цяпер галоўка твая да няцэла.

212. Там па гары, па далінах галубы лятаюць,
Шчэ й раскошы не зажыла — ужо лета мінаюць.*
— Лета мае маладыя, вярнецеся ў госці,
Хоць я сама не багата — хата на памосце.
— Не вярнемся, не вярнемся, бо няма да чога:
Было змалку шанаваці здароўечка свога.

Moderato 213

Ой, па га- ры, па да- лі- не га- лу- бы ля-
та- юць. Шчэ й рас- ко- шы не за- жы- ла — ўжо ле-
ты мі- на- юць, шчэ й рас- ко- шы не за-
жы- ла — ўжо ле- ты мі- на- юць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

213. Ой, па гары, па даліне галубы лятаюць.
Шчэ й і раскошы не зажыла — ўжо леты мінаюць.*
Шчэ й і раскошы не зажыла — гора не забуду,
Па чым жа я сваe леты ўспамінаці буду?
Запрагайце, хлопцы, коні, коні вараныя —
Паедзем даганяці леты маладыя.
Ой, дагналі ж мае леты на ліповым мосце:
— Вярніцеся, мае леты, хоць да мяне ў госці!
— Ой, рады ж мы вернуціся ды няма да чога —
Пастрадала шчасце і долю, здароўя сваёга.

214. Ля зялёнага гаю, на канічэньку йграю,**
Дзе ж мая мілая, дзе ж чарнабрывая
З сокаламі лятае?

Ой, лятае, лятае, да бруку прыпадае:
— Ой, стуку, мой бруку, падай, міла, руку,
Ой, падай, міла праву.

— Не падам я ручэнькі, не падам беленькое,
Сядлай свайго коня ды з'язджай з майго двора:
Ты не мой, я не твоя!

Ясь коніка сядлае, да коніка прамаўляе:
— Нясі мяне, коню, нясі мяне, вараны,
Аж да ціхага Дунаю.

Ой, Дунаю, Дунаю, сам я й малады, не знаю:
Ці мне жаніціся, ці мне тапіціся —
Сам я малады, не згадаю.

— Не тапіся, хлопча, бо ты душу загубіш:
Едзьма, звянчаймася, едзьма, звянчаймася,
Калі так верна любіш.

Заехалі вянчаціся — не засталі папа дома.
— Ці тваё няшчасце, ці маё няшчасце,
Ці такая наша доля?

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Другі і трэці радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Пайшоў хлопец гарою, а дзяўчына даліною.
Зацвіў хлопец рожай, зацвіў хлопец рожай,
А дзяўчына каліною.

Andante 215

Там у ле- се, на ка- лі- не,
ка- лы- ха- ла дзяў- чы- нань-ка дзве дзя- ці- не,
ка- лы- ха- ла дзяў- чы- нань-ка дзве дзя- ці- не.

215. Там у лесе, на каліне,
Калыхала дзяўчынанька дзве дзяціне.*
Калыхала і плакала:
— Ой, чаго ж я, маладзенька, дачакала!
Лепей было маці слухаць,
Як вось тыя калысачкі ўночы рухаць.
Хлопец стаіць, нічога не мовіць,
Абярнуўся да яе плячыма — смешачкі строіць.
Там у лесе, на каліне,
Калыхала дзяўчынанька дзве дзяціне.

216. Ой, ішлі хмаранькі да грамаданькі,
А вы, зораныкі, розна.
Не сварыся, мая матулю,
Што я іду з карчмы позна.
Ой, ці сварыся, ці не сварыся,
То я вас не баюся:
Хто мне даў праву ручаньку,
То з тым я й ажанюся.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

217. Ў сынавым садочку яра рутка сходзіць,*
Ой, там маці сына па садочку водзіць.*
Па садочку водзіць і яго пытае:*
— Скажы, сынку мілы, хто табе мілейшы:
Ці мілая жонка, ці родна сястронка?*
— А мне жонка міла, бо мая радзіна,
А сястра мілейша, бо мяне гасціла.*
— Скажы, сынку родны, хто табе мілейшы:
Ці мілая сёстра, ці родна матуля?*
— А мне сёстра міла, бо мяне гасціла,
Матуля мілейша, бо мяне радзіла.*
Як мяне радзіла, усю ночку хадзіла,
Усю ночку хадзіла, усю ночку не спала.*
Васкавая свечка ўсю ночку палала,
Васкавая свечка ўсю ночку палала,
Маці кашуленьку на смерць гатавала.*

Andante 218

Ой, чый то са- до- чак ты-нам ты- на- ва- ны,
ты- нам ты- на- ва- ны, ды- лем ды- ля- ва- ны?

218. Ой, чый то садочак
Тынам тынаваны,**
Дылем дыляваны?
То Мішаў садочак
Тынам тынаваны,

---

* Радкі, назначаныя зоркай, паўтараюцца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Дылем дыляваны.
А па тым садочку
Галенька хадзіла,
Бабулькі прасіла:
— Бабулька-рыбулька,
Прыйдзі дзісь да мяне.
Да майго дзіцяці,
На ручкі прыняці.
Дам табе заплату
Падарак, як карту,
Тонсенькі, бялсенькі,
Тоненькі, бяленькі,
З бабулькай раўненькі.

219. — Паложнічка міла, дзе ты даселе была?
— Ой, у гародзечку зімная раса,*
Там я ручанькі мыла.
Там я ручанькі мыла, Пана Бога прасіла:
Ой, каб да мяне Прачыстая Маці*
З помаччу прыбыла.
— Палажнічка міла, дзе ты даселе была?
— Ой, у гародзечку зімная раса,*
Там [redacted] лічанька мыла.
Там я лічанька мыла, Пана Бога прасіла:
Ой, каб да мяне Прачыстая Маці*
З помаччу прыбыла.
— Паложнічка міла, дзе ты даселе была?
— Ой, у гародзечку зімная раса,*
Там я ножанькі мыла.
Там я ножанькі мыла, Пана Бога прасіла:
Ой, каб да мяне Прачыстая Маці*
З помаччу прыбыла.




* Радкі, пазначаныя зоркай, паўтараюцца.




220. — Ой, Міхалку мой, адчыняй новы двор —
Едзе твая мілюсенька, яна вельмі п'янюсенька.
Ой, ці ею рад? Ой, ці ею рад?
— Як жа ж я не рад — то мой вінаград,
Яна дочанькаў нарадзіла, як сонейкаў насадзіла,
Як жа ж я не рад — то мой вінаград.

Або:

Яна сыночкаў нарадзіла, як месячыкаў насадзіла,
Як жа ж я не рад — то мой вінаград.

221. У нашым сяле стала навіна:
Маладая Гандзюленька сына ўпавіла,
Сына ўпавіла!
Сына ўпавіла, сама ледзь жыва,
Яна да свае матуленькі голуба ўслала,
Голуба ўслала,
Ляціць галубок і голасна грача:
— Міла матуленька, кліча дачуленька,
Кліча дачуленька!
У твае дачкі стала навіна:
Твая дачка наймілейша сына ўпавіла,
Сына ўпавіла!
Матуля едзе, пялёнкі вязе,
Лістам, лістам дарожаньку сцяле,
Матуля сцяле.
У нашым сяле стала навіна:
Маладая Гандзюленька сына ўпавіла,
Сына ўпавіла.

Сына ўпавіла, сама ледзь жыва,
Да свайго баценька яна галубка ўслала,
Галубка ўслала.
Галубок ляціць і моцна грача:
— Мілы баценьку, кліча дачуленька,
Кліча дачуленька!
У тваё дачкі стала навіна:
Твая дачка наймілейша сына ўпавіла,
Сына ўпавіла.
Баценька едзе, мёд–віно вязе,
Лістам, лістам дарожаньку баценька сцяле,
Баценька сцяле.

222. Пылам, пылам даражэнька прыпала,
Там Манюлька па радзіну паслала:*
— Прыбудзь, прыбудзь, радзінанька, да мяне,
Ёсць у мяне мёд–гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд–гарэлка — нап'емся,
Ёсць у мяне сад вішнёвы — выспімся.

Andante 223

Лі- стам, лі- стам да- ра- жэнь- ка пры- па- ла,
на- ша Ма- ня па ба- бу- лю па- сла- ла,
на- ша Ма- ня па ба- бу- лю па- сла- ла.

223. Лістам, лістам даражэнька прыпала,
Наша Маня па бабулю паслала:*
— Ой, да мяне, бабуленьку, да мяне,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ёсць у мяне мёд-гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд-гарэлка — нап'ешся,
Ёсць у мяне бела пасцель — выспішся.
Лістам, лістам даражэнька прыпала,
Наша Маня па радзіну паслала:
— Ой, да мяне, радзінонька, да мяне,
Ёсць у мяне мёд-гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд-гарэлка — нап'ешся,
Ёсць у мяне бела пасцель — выспішся.
Лістам, лістам даражэнька прыпала,
Наша Маня па баценька паслала:
— Ой, да мяне, мой баценьку, да мяне,
Ёсць у мяне мёд-гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд-гарэлка — нап'ешся,
Ёсць у мяне бела пасцель — выспішся.
Лістам, лістам даражэнька прыпала,
Наша Маня па матаньку паслала:
— Ой, да мяне, матуленьку, да мяне,
Ёсць у мяне мёд-гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд-гарэлка — нап'ешся,
Ёсць у мяне бела пасцель — выспішся.
Лістам, лістам даражэнька прыпала,
Наша Маня па браціка паслала:
— Ой, да мяне, мой браціку, да мяне,
Ёсць у мяне мёд-гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд-гарэлка — нап'ешся,
Ёсць у мяне бела пасцель — выспішся.
Лістам, лістам даражэнька прыпала,
Наша Маня па сястронку паслала:
— Ой, да мяне, сяструленьку, да мяне,
Ёсць у мяне мёд-гарэлка для цябе.
Ёсць у мяне мёд-гарэлка — нап'ешся,
Ёсць у мяне бела пасцель — выспішся.






224. А наша Марыся сыночка павіла,
Яна сыноў навадзіла,
Як месяцаў, насадзіла,
Ой, сэрданька маё.*

А Васілька малады,
Па свяцёлцы ходзіць:
— Ой, вы пайдзеце, прывядзеце,
Каля мяне пасадзеце, ой, сэрданька маё!

225. — Ой, чыя то чарамшынка,
Ой, чыя то вішня?
Ой, чыя то радзінанька
На гулянне выйшла?
— То Мішова чарамшынка,
То Мішова вішня,
То Мішова радзінанька
На гулянне выйшла!

226. — Ой, чый то гарод негароджаны?
Негароджаны, нетынованы?
— Пецін то гарод негароджаны,
Негароджаны, нетынованы.
Пойдзем, Надзечка, агародзіма,
Агародзіма, атынуема.
Паб'ема колле ўсё дубовае,
А пасярэдзіне — усё залатое.

227. Ой, будзь жа там, будзь,
Дзе жоначкі п'юць.

---

* У кожнай страфе чацвёрты радок паўтараецца.

Вясёлая дарожанька,
Шчаслівая гадзінанька,
Куды ж яны ідуць?[*]

228. — Ой, доню мая, чаму тоўста стала?
— Ой, мамка мая, наелася сала.
Ой, мамка мая, я гароху хачу.
— Пачакай, доню, да восені, пакуль намалачу.
— Ой, паслала мяне мамка ў лес па маліну,
А я ёй прынясла ў пялёнцы дзяціну.

Moderato 229

- Ўстань, па-лаж-ніч- ка, ўстань, нам вя- чэ- ра- ці дай!

- Шчэ я ў пе- чы не па- лі- ла, вя- чэ- ра-ці не ва- ры- ла.

- Ўстань, па-лаж-ніч- ка, ўстань, нам вя- чэ- ра- ці дай!

229. — Ўстань, палажнічка, ўстань, нам вячэраці дай!
— Шчэ я ў печы не паліла, вячэраці не варыла.
— Ўстань, палажнічка, ўстань, нам вячэраці дай!

230. Ой, выпіла, выхіліла, сама сябе пахваліла:
— А [illegible] добрага роду — п'ю гарэлку, як воду.[**]
Захіліўшыся ў куток — па дзве чарачкі ў раток,
Па дзве чарачкі ў раток, каб не балеў жыватокю
Жывот баліць, жывот баліць — гарэліцы дайце,
Гарэліца не паможа — мілага шукайце.

[*] Апошні радок паўтараецца.

[**] Кожны другі радок паўтараецца.

231. Выпіла б дужа — баюся мужа,
Муж мяне наб'е — не буду дужа.
Муж мяне наб'е саламінкаю,
Паладзімася пад пярынкаю.
Пад пярынаю з Кацярынаю,
А пад раданцом — з мілым сардэньцом!

232. — Ой, хмелю мой, хмелю, не па дзераве ходзіш,
Ой, чом жа ж ты, хмелю, з галоўкі не выходзіш?
— Ой, як я маю з галоўкі выходзіці,
Не па поўнай чараньцы мёд-гарэланьку піці!
Мёд-гарэланька — чужая старонанька,
Маладая дзяўчына — чужая намованька.
Дзівуюцца людзі: "А то што за такое?"
А то нарабіла мёд-гарэланька тое:
Іду да карчомкі, як паньская дзяціна,
Іду з карчомкі, як маці нарадзіла!

233. Ой, кумачкі-галубачкі, падпаілі мяне, падпаілі мяне,*
Пад вішняю-чарэшняю палажылі мяне.
Ой, вішанька-чарэшанька, не шумі на мяне, не шумі на мяне,
Ты, мой мілы, сэрца мае, не свары на мяне.
Бо як будзеш сварыціся, то я буду журыціся
І старая буду, і старая буду.
Як не будзеш сварыціся, то не буду журыціся —
Маладая буду, маладая буду.
Як паедзеш на ярмарак і паглянеш на мой станак —
Найспраўнейша буду, найспраўнейша буду.

234. Ой, куме, куме, добра гарэлка,*
Будзема піці да панядзелка.
Прадайма, куме, та й снапоў сорак,
Будзема піці шчэ й ва ўторак.
Прадайма, куме, свінсй чарэду,
Будзема піці яшчэ і ў сярэду.
Прадайма, куме, талеркі, ложкі,
Вып'емо, куме, шчэ й у чацвер трошкі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Прадайма, куме, рабу цяліцу,
Вып'емо, куме, шчэ й у пятніцу.
Пакіньма, куме, усеньку работу,
Вып'емо, куме, шчэ й у суботу.
Ой, кіньма, куме, усютку надзею,
Вып'емо, куме, шчэ й у нядзелю.

Ад нядзелі да нядзелі —
Рукавы адляцелі.
А я піла, гуляла —*
Рукавоў не палатала.
Сухое лета было —
Канапель не ўрасло.
Рубашына па калена —*
Рукавоў не было.

235. Як гуляла, то гуляла, бо мне мама пазваляла,
А цяперка: "Люлі, люлі!" — мінуліся мае гулі.**
І цяперка бы я шчэ й рада сабе пагуляці,
Адно ліха: мне мой мілы кажа ісці спаці,
Цэлу ночаньку дзяціну мушу калыхаці.
Ён гуляці не пускае і не магу спаці,
Я дзяціну калыхала, ён на ложачку ляжаў,
Калыханку я спявала, ён памалу засынаў.
І дзяціну і мілога я нараз прыспала,
А сама я паціхеньку, пайшла й пагуляла.

236. Іківала, і маргала суседка на мяне:
— Кідай жыта малаціці — прыхадзі да мяне.**
Ой, прыдзі ты, красны хлопча, ой, хоць на гадзінку,
Я свайго старэнькага вышлю па калінку.
— Ідзі, стары, барадаты, каліны ламаці,
Бо напаў жа мяне кашаль — не пярэйду хаты.
Пайшоў стары, барадаты, каліны ламаці,
А я свайго міленькага ўпусціла дахаты.
Ідзе стары, барадаты — уваходзіць у хату:
Як стаяла, так і ўпала — пачала стагнаці:

---

* Пазначаная пара радкоў паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

— Ідзі, стары, барадаты, мёду калупаці,
Бо напаў жа мяне кашаль — не пярэйду хаты.
Пайшоў стары, барадаты, мёду калупаці,
А я свайго міленькага выпусціла з хаты.

237. Пеце, людзі, гарэліцу, а вы, гусі, воду,
Заляціце, белы гусі, аж да майго роду.
Не кажыце, белы гусі, што я тут гарую,
А скажыце, белы гусі, што [redacted] тут паную.

238. Цераз сад сцяжэнька — шла міла п'яненька:
— Ой, адчыні, мілы мужу, іду п'яна, нядужа.*
Мілы адчыняе і мілую лае:
— Худу-худу, міла, робіш, што па начах ходзіш:
Ці ты па карчомках, ці ты па малойцах,
Ой, як пойдзеш змяркаючы, то прыйдзеш на сход сонца.
— Умру, мілы, умру, я не буду жыці,
Будзеш, будзеш, мой міленькі, ты па мне тужыці.
Мілы зажурыўся, сеўшы, падгаліўся:
— Сам не знаю, не ўгадаю: з кім [redacted] ажанюся?
Прыйшлі тры дзяўчыны цела праваджаці.
— Сам не знаю, не ўгадаю, каторую ўзяці?
А ўзяў бы ж я тую з чорнымі вачыма,
Людзі кажуць, сам я знаю: яна зла дзяўчына.
А ўзяў бы ж я тую з чорнымі брывамі,
Людзі кажуць, сам я знаю: яна з варагамі.
А ўзяў бы ж я тую з рыжымі косамі,
Людзі кажуць, сам я знаю: яна зла дзяўчына.
Дзеткі маленькія да й сталі плакаці:
— А дзе ж бо нам, сіротанькам, свае маці ўзяці?
Ані нам купіці, ані зарабіці,
Пабярэмся за ручэнькі ды пойдзем служыці.
— Дзеткі ж, мае дзеткі, не йдзеце служыці,
Вы думалі, што я ўмерла, а я буду жыці.
— Міла мая, міла, яка непраўдзіва:
Ты ж казала, што ты ўмерла, а ты яшчэ жыва!

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Allegretto 239

Як у на-шай ды кра-і- не дай зда-ры-ла- ся на-ві- на —
пра-мо- ві- ла Ка- ця-ры-на да ха-зяй-ска-га сы- на,
пра-мо- ві- ла Ка- ця-ры-на да ха-зяй-ска-га сы- на.

239. Як у нашай ды краіне дай здарылася навіна —
Прамовіла Кацярына да хазяйскага сына:*
— Кідай бацьку, кідай матку, [illegible] пакіну дробны дзеці,
Паедзем на Украіну мёд–гарэлку піці.
Пайшоў Сямён да й пайшоў у поле гараці,
Ён забыўся да й з сабою хлеба з салам узяці.
Гарэ Сямён да й гарэ, да й на слонка паглядае:
"Чужыя жонкі абед нясуць, а маю ліха трымае".
Пусціў валы на дуброву, а сам пайшоў дахаты,
Пытаецца дробныя дзеці: "А дзе ж вашая маці?"
— Ой, татулю, наша маці ў белы кажух убралася,
Заклялася, забажылася: "Я не вашая маці".
Трапнуў Сямён да й трапнуў, да й аб полы рукавамі:
— Прападайце, дробныя дзеці, — прападаю я з вамі!

240. Хлопец пожаньку пахае, ой, о–е–ёй!
У яго сошанька крывая, ой, Божа мой!
Прыйшла дзеўка–чарнабрыўка, ой, о–е–ёй!
— Ажаніся, хлопча, з гора, ой, Божа мой!
Хлопец, дурань, ажаніўся, ой, о–е–ёй!
Навек жонкай удавіўся, ой, Божа мой!
Ані лыжкі, ані міскі, ой, о–е–ёй!
Павесілі тры калыскі, ой, Божа мой!
Даў для жонкі тры капейкі, ой, о–е–ёй!
— Купі, жонка, хлеба–солі, ой, Божа мой!
Жонка хлеба не купіла, ой, о–е–ёй!

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

На рыночку заблудзіла, ой, Божа мой!
Хлопец пожаньку пахае, ой, о–е–ёй!
У яго сошанька крывая, ой, Божа мой!

241. Ой вы, куманькі да й галубанькі,
Падпаілі мяне.*
Пад соснаю, пад галоснаю
Палажылі мяне.
Ой ты, сосенька, ты, галосненька,
Не шумі на мяне.
Ой ты, міленькі, чарнабрывенькі,
Не сварысь на мяне.
Як будзеш сварыціся, то [illegible] буду журыціся,
Я старая буду,
Я нядужа буду.**

242. Ой, прапала мая доля, прапала,
За п'яніцу мяне маці аддала.*
А п'яніца–гультаіца ў карчме п'е,
А як прыйдзе дадоманьку, жонку б'е.
— Ой, не біся, п'янічэньку, не біся,
Пайдзі лепей да каморы, праспіся.
Ой, прыехаў мой баценька з Турова,
Пытаецца: "П'янічэнька ці дома?"
— Ой, паціху, мой баценьку, гавары,
Бо спіць мой п'янічэнька ў каморы.
Як ты таго п'янічэньку разбудзіш,
То ты маю галованьку загубіш.
— Ой, прывыкай, маё дзіця, прывыкай,
Да суседа акеначкам уцякай.
— Ой, я рада, мой баценьку, уцячы,
Трымаецца п'янічэнька за плечы.
— Ой, што ж ты, роднае дзіця, думала,
Як на тую гібку кладку ступала.
— Я думала, мой баценьку, тануці,
Як з такою п'яніцаю век жыці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Апошні радок паўтараецца двойчы.

— Ой, не думай, маё дзіця, не думай:
Завязем п'янічэньку за Дунай,
Завязем п'янічэньку за рэкі,
Утопім п'янічэньку навекі.

243. Дай Божа нядзелькі прыждаці,*
Та я пайду да роду гуляці.
Як мне скажуць да дна выпіваці,
Я й не буду да дна выпіваці.
Я й не буду да дна выпіваці —
Ёсць у мяне дзве беданькі ў хаце:
Адна бяда — дзяціна малая,
Другая бяда — свякруха ліхая.
Хоць ліхая, вячэраньку варыць,
А свёкерка дубіначку парыць.
А хоць парыць, то й не будзе біці,
Сядзіць мілы — будзе бараніці.
Сядзіць мілы, дробны лісты піша,
Ён малую дзяціну ціхенька калыша:
— Люляй, люляй, дзяціна малая,
Гуляй, гуляй, жонка маладая!
Гуляй, гуляй, жонка маладая,
Пакуль мая галоўка жывая.
Бо як мая галоўка хібнецца,
Тады тваё гулянне мінецца.

244. Ой, паслала мяне маці на гару па глінку,*
А ■ ёй прынясла ў заполе дзяцінку.
А то ж табе, мая мама, першая навука:
Сядзі сабе на пячы — калышы ўнука.

245. — Дзяўчынанька-кветка, чаму радно рэдка?
— Не хацела прыбіваць, каб не было душно спаць.
— Дзяўчынанька-сэрца, адчыні акенца,
Пусці мяне пад радно, бо мне ў ножкі халадно.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

246. Ох я, малада, вольху я ламала,
Вольху я, вольху я, вольху я ламала!*
Ох я, малада, з вольхі я ўпала,
З вольхі я, з вольхі я, з вольхі я ўпала!
Ох я, малада, у рэчку я папала,
У рэчку я, у рэчку я, у рэчку я папала!
Ох я, малада, вокуня спаймала,
Вокуня, вокуня, вокуня спаймала!
Ох я, малада, на рынак хадзіла,
На рынак, на рынак, на рынак хадзіла!
Ох я, малада, гаршчэчка купіла,
Гаршчэчка, гаршчэчка, гаршчэчка купіла!
Ох я, малада, вокуня зварыла,
Вокуня, вокуня, вокуня зварыла!

Allegro 247

На пры-печ- ку, на кра- еч- ку шы- ла ба- ба нейк са- роч- ку,
прый-шоў чорт — ні- ці ўкраў і бо- жыц- ца, што не браў,
прый-шоў чорт — ні- ці ўкраў і бо- жыц- ца, што не браў.

247. На прыпечку, на краечку
Шыла баба нейк сарочку,
Прыйшоў чорт — ніці ўкраў**
І божыцца, што не браў.

І божыцца і клянецца,
Улез на запечча і смяецца.
І божыцца і клянецца,
Улез на запечча і смяецца.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

5-1826

Баба губы тут надула
І да старасты падула,
А стараста прыказаў,
Бабе ніці каб аддаў.

Чорт бабе ніці падае
Ды й за цыцкі бярэ.
Пакаціліся ў куток —
Прапароў бабу гурок.

Стала баба азірацца,
Што жывот стаў падымацца:
— Што такое, чорце ў пекле,
Што са мною вось дзяецца?

Стала баба плакаці —
Пачало ўжо і кувякаці.
Люлі, люлі, люлясікі,
Што зрабілі гулясікі!

248. — Парынёчак, бабуленькі трэба!*
— Ёсць у мяне стара матка —
Будзе табе добра бабка, дзяўчына мая.
— Парынёчак, кума і кумы трэба!
— У цябе сястра, у мяне брат —
Будзе кумаў цэлы рад, дзяўчына мая.
— Парынёчак, палюшачкі трэба!
— У цябе ёсць два фартушкі —
Адзін падрэш на пялюшкі, дзяўчына мая.
— Парынёчак, спавівача трэба!
— У мяне ёсць пас ядвабны —
Будзе то павівач ладны, дзяўчына мая.
— Парынёчак, калысачкі трэба!
— Паедзем да Кракова —
Там калысачка гатова, дзяўчына мая.
— Парынёчак, вывучыці трэба!
— Мы заедзем да Кракова —
Будзе з хлопца мондра глова, дзяўчына мая.
— Парынёчак, жаніціся трэба!
— Каб ты, шэльма, не прычакала —
Як будзеш са мною шлюб браці, дзяўчына чужая!

---

* Кожны радок паўтараецца, акрамя двух апошніх.

249. Ці я табе не казала, ці не гаварыла:
— Не лягай ты каля боку, бо будзе Гаўрыла.*
А ты мяне не паслухаў — каля боку клаўся,
А цяпер пытаешся: "Скуль Гаўрыла ўзяўся?"
Не пытай ты мяне, а ідзі за кумамі —
Наш Гаўрыла на пячэ совае нагамі.

250. Як у нашай Кацярынушкі
То вяселле, то радзінушкі:
На вяселлі каравай месяць,
На радзінах дзяціну цешаць:
— Цішай, цішай ты, дзяцінушка,
Твая маці — Кацярынушка.
Цішай, цішай ты, маленькая,
Твая маці маладзенькая.

251. І дождж ідзе, і вада плюшчыць,
А кум да кумы гусака ташчыць:*
— Ой, кумачка, ты, галубачка,
Ты спячы гусака, каб і юшка была,
І юшачка, і пятрушачка.
Кума люба, кума да, кума — душачка!

252

Andante

Ой, мой жа ж ты, ку-му- сень- ку, вя-дзі мя-не па-ма-лю- сень- ку.
Хоць ты мя-не на мя-жы па-ла- жы, а ма- ё- му му-жы-ку не ска-жы,
хоць ты мя-не на мя-жы па-ла- жы, а ма- ё- му му-жы-ку не ска-жы.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

252. Ой, мой жа ж ты, кумусеньку, вядзі мяне памалюсеньку.
Хоць ты мяне на мяжы палажы, а маёму мужыку не скажы.
Яшчэ й мяне на мяжы не клалі, ўжо й маёму мужыку сказалі,
Бяруць яго думкі хваткі, што чужыя жонкі гладкі.

253. Гэй, кум да кумы заляцаўся —
Канапелькі сеяць абяцаўся.
Ён сеяў, сеяў, высяваючы, казаў:
— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.
Гэй, кум да кумы заляцаўся —
Канапелькі вырваць абяцаўся.
Ён рваў, вырываў, вырываючы, казаў:
— Ты кума, ты душа, ты кругом хараша.
Гэй, кум да кумы заляцаўся —
Канапелькі церці абяцаўся.
Ён цёр, выціраў, выціраючы, казаў:
— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.
Гэй, кум да кумы заляцаўся —
На сарочку наткаць абяцаўся.
Ён ткаў, утыкаў, затыкаючы, казаў:
— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.
Гэй, кум да кумы заляцаўся —
І сарочку пашыць абяцаўся.
Ён шыў, зашываў, зашываючы, казаў:
— Ты кума, ты душа, за ўсе кумы хараша.
Гэй, кум да кумы заляцаўся —
І сарочку надзець абяцаўся.
Ён клаў, накладаў, надзяваючы, казаў:
— Ах, ах, кума, душа, ты кругом хараша!

254. Прыйшоў кум да кумы
Пазычаці бараны.
Кума нагу падняла:*
— О то табе барана!

255. Пасадзіла я квасоленьку, сама йду дадому,
А мой мілы чарнабрывы п'е ў карчме з кумою.**

* Трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

— Ой, нядобра, нехарашэ, мой міленькі, робіш —
Як дзень, як ноч п'янюсенькі і з кумою ходзіш.
Годзе, мілы чарнабрывы, і з кумою піці,
Ой, хадземо дадоманьку вячэру варыці.
— Мая міла чарнабрыва, яшчэ вазьму кварту —
Кума мая харошая яшчэ болей варта.
Пад вішняю-чарэшняю палягалі спаці:
— Мая ж міла чарнабрыва, не дай нікому знаці.
Я ж, маладая, як ягада, тады не ўтрывала
І, выйшаўшы на вуліцу, усім людзям сказала:
— Там за садам, за гародам, шчэ й за пералазам
Палягалі кум з кумою ды й абое разам.
— Ой, за што ж цябе, мой міленькі, разам іскавалі?
— То за тое, мая міла, што з кумою спалі.

256. Каб такога мужа меў: табаку не нюхаў,
Чужых жонак не любіў, ано сваю слухаў.
Бо чужая жонка, як цыбуля горка,
Свая маладзенька, як мёд, саладзенька.

257. Чом, чом пад карчом траўка зелянее?
За харошым мужыком жонка маладзее.
Чом, чом пад карчом траўка палягае?
За ліхім мужыком жонка пасыхае.

258. Ці я ў цябе не жана, ці не гаспадыня?
Тры дні хаты не мяла, смецця не насіла.*
Купі, купі, мой міленькі, сівую кабылу:
Будзем смецце вывозіці з гары на даліну.

259. І ты тут, і я тут, нашы дзеці гаршчкі б'юць —
Не сварэмся за тое, бо мы тута абое.
Гоп, чык! Баранчык — шапка на калочку,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Прапіў бацька сто рублёў, а маці — сарочку.
А сын — нагавіцы, частуючы маладзіцы,
А дачка — саянца, частуючы маладца.

260. Гуляла б душа — баюся мужа,
Муж мяне наб'е — не буду дужа.*
Муж мяне наб'е саламінкаю —
Пагодзімся пад пярынкаю.
Пад пярынкаю — з Кацярынкаю,
А пад радзянцом — з мілым сардэньцом.

Allegretto 261

Я ў ня- дзе- лю п'ю, п'ю, ў па- ня- дзе- лак сплю, сплю,
а ў аў- то- рак сна- поў со- рак пша- ні- чэнь- кі жну, жну,
а ў аў- то- рак сна- поў со- рак пша- ні- чэнь- кі жну, жну.

261. Я ў нядзелю п'ю, п'ю,
Ў панядзелак сплю, сплю,
А ў аўторак снапоў сорак**
Пшанічэнькі жну, жну.

У сераду вазіла,
У чацвер малаціла,
У пятніцу веяла,
А ў суботу мерала.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

У нядзелю прадала
І з хлопцамі прапіла.
Слава табе, Госпадзе,
Што да ладу давяла.

І да ладу не я,
Да работы не я.
З хлопцамі пагуляці —
То й ахвота мая.

262. Ой, п'яначка–п'яначка
Іванава жоначка,
Ой, прапіла андарак,*
А ён кажа: "Добра і так".

Allegro 263

Ой, што ж то за шум у- чы- ніў- ся?

Ой, ка- мар та й на му- се а- жа- ніў- ся!

Ой, ка- мар та й на му- се а- жа- ніў- ся!

263. Ой, што ж то за шум учыніўся?
Ой, камар та й на мусе ажаніўся!**
Ой, узяў сабе жонку невялічку,
Што не ўмее шыці–прасці чалавечку.
Што не ўмее шыці–прасці, ні рабіці,
Ні да мужа–камарыка гаварыці.

---

* Трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Паляцеў той камар у чыста поле,
У чыста поле, у зялёную дуброву.
Ой, і сеў той камар на дубочку,
Звесіў свае тонкі ножкі на лісточку.
Узнялася тут шура–бура,
А ўжо таго камарыка з дуба здула.
Ой, упаў той камар з высакосці —
Паламаў-пакруціў рэбра і косці.
Ой, што ж то ляжыць за пакойнік?
Ці то пан генерал, ці палкоўнік?
То й не пан генерал, не палкоўнік —
Старой мухі–трапятухі палюбоўнік.

Allegre 264

Е- хаў му-жык з У-кра- і- ны—згу- біў жон-ку ў ка-ля- і- не.

А- гля-нуў- ся за тры мі- лі—ля-жыць жон-ка ў ка- ля- і- не.

264. Ехаў мужык з Украіны —
Згубіў жонку ў каляіне.
Аглянуўся за тры мілі —
Ляжыць жонка ў каляіне.
— Чом ты, жонка, не крычала,
Як ты з воза выпадала?
— А каб ты быў мужык добры,
То зрабіў бы возік доўгі —
Сяку–таку каламажку
Вазіць жонку па кірмашку.

265. — Матулю мая родна, што мне дзісь за сон сніўся:
Галубкі па падвор'ю чорны шнюр папушчалі,
Чорны шнюр папушчоны, срэбрам–злотам абтачоны.
— Маладая Манечка, маладый розум маеш,
Маладый розум маеш — свайго сну не згадаеш:
Галубкі — твае сваткі, чорны шнюр — твае косы,
Чорны шнюр — твае коскі, срэбра–злота — твае слёзкі.

266. Па садочку пахаджаю
І сам сабе разважаю.
Тарыра, тарыра, тарарара.*
— Ці мне лісцік ёй пісаці,
Ці самому паехаці?
Лісцік слаці — не так будзе,
Сам паеду — лепей будзе.
— Братцы, коні запрагайце
І да мілай выпраўляйце.
Свяці, месяц, прасвячайся,
Бяжы, конік, пасяшайся.
Каб мілая не заснула
І варотаў не замкнула.
Пад'язджаю пад варота —
Стаіць міла лепей злота.
Пад'язджаю да ганачка —
Стаіць міла каханачка.
Узяла каня за вуздэчку,
А мілога за ручэчку.
Каню аўса-сена дала,
Мілога сесці запрашала.
Сама села ў вугал стола
І да мілога ані слова.
— Чаму міла зажурылась,
Ці аўсу-сена табе шкада?
— Аўсу-сена не жалую —
Мёду-віна патрабую.
Як мы з табой кахаліся,
Сухі лясы развіліся.
Як кахацца перасталі —
Зялёны дубы сохнуць сталі.

267. Ў суботу, па вячэры, мыла Антоля сені,
Ой, мыла, мыла сабе сакола,
Сакола-чыстакрылца — Іванка-чарнабрыўца.

268. Стаіць бяроза нахіленая,
Ёсць у мяне дзяўчына дамоўленая.

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Як я дамаўляўся, бацейка аддаваў,
А прыйшлося яе браці — у камору схаваў.

269. — Не лятай, матылю, па-над белым сцелем,
Не рабі пароху на маю пасцелю.*
На маёй пасцелі падушкі бялыя,
Ой, цешацца мною варагі цяжкія.
Варагі, варагі, не цешцеся мною —
Плыве маё шчасце з быстраю вадою.
Плыве маё шчасце — я йду лапаці,
Як яго злапаю — буду панаваці.
Альбо панаваці, альбо гараваці —
Горкаю слязою лічка ўмываці.
Шумела ляшчына, як развівалася,
Плакала дзяўчына, як выдавалася.
— Як мне не шумеці, калі ж зеляная?
— Як мне не плакаці, калі ж маладая?

270

Andante

І- дзі, дож-джы-ку, чу- жо- ю ста- ра- но- ю,
а я па- се- ю ру-тань-ку над ва- до- ю.

270. Ідзі, дожджыку, чужою стараною,
А я пасею рутаньку над вадою.
Расці, рутанька, дробная, зялёная,
Цябе сеяла дзяўчына малодая.
— Малады хлапец, я цябе даўно знаю:
Ты — багаты сын, а я пасагу не маю.
Ты — багаты сын, а я — бедна сіротанька,
Ты — кавалер, а я — красна дзеванька.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— А як я схачу цябе, сірату, ўзяці,
Не буду табе пасагам даганяці.
— Не дажанеш ты — дажане твая маці:
"Было, сынку, без пасагу не браці.
Чужы нявесткі жануць валы, каровы,
Мая ж нявестка спіць у новай каморы".
— Уставай, нявестка, бадай ты не ўстала,
Выганяй пасаг, што ад бацькі нагнала.
Нявестка ўстала, з ложачка схапілась,
І без вадзіцы слёзкамі ўмылась,
І без ручнічка ручкамі ўцерлась.
— А што, мой мілы, я табе не казала:
Ужо твая маці мне пасагам дагнала.
— А я матулі не вельмі баюся:
Здыму шапаньку, нізенька пакланюся.

Allegretto 271

Раз- ля-це-ла- ся чор- на га-лань-ка па не- бе, па не- бе,
а за е- ю яс- ны са-ко- лік, за е- ю, за е- ю.

271. Разляцелася чорна галанька па небе, па небе,
А за ею ясны саколік, за ею, за ею:
— Зажджы-пажджы, малада галанька, ты мая, ты мая.
Яна стала, лісты адпісала: "Не твая, не твая.
Паедзь сабе, пашукай сабе такое, такое,
Краснейшай, яснейшай, як я е, як я е".
— Ой, праехаў чатыры губерні, трэці верст, трэці верст,
Не знайшоў я харошчае, як ты е, як ты е.

Lento 272

Жа ж ты, Я- сень- ку, бя- рэш я- е,




272. Жа ж ты, Ясеньку, бярэш яе,
Жа ж ты, Ясеньку, глядзі яе.
Каб яна боса не хадзіла,
Каб яна цяжка не рабіла.
Каб яна вады не насіла,
Каб яна хлеба не мясіла.
— Ой, у нас не па–вашаму:
Край вокан рэчка цячэ,
Сама печ хлябы пячэ,
Сам таўкач куццю таўчэ,
Сам дзяркач хату мяце.

273. Сею рэдзьку, сею рэдзьку, сею, пасяваю:
— Расці, рэдзька, зялёная — на зіму схаваю.*
Не з кім сесці рэдзьку есці — людзі кажуць: горка.
Ой, не буду жаніціся — кажуць: б'ецца жонка.
— Ой ты, хлопча дурнаваты, выбірай такую,
Каб не біла, а любіла, та й шчэ маладую.
— Запрагай ты, бацька, пеўня і курку чубату:
Я паеду на Украіну па дзеўку багату.
На Украіне хаты густа — вецер не правее,
Сама маці лыжкі мые, бо дачка не ўмее.
Як заехаў я у сваты — папрасілі сесці,
Паставілі бараболю нялуплену есці.
Я на тую бараболю скоса паглядаю,
Ля печы сядзіць дзяўчына — да яе міргаю.

274. За гарамі валы равуць — час выпрагаці,
Наварыла цёшча піва зяця частаваці.*
— Ой, хоч вары, хоч не вары, я не буду піці,
Харошую дочку маеш — я й буду любіці.

* Кожны другі радок паўтараецца.

275. На каменю сіненькім, на каменю сіненькім,
Сіненькім
Мы сядзелі з міленькім, мы сядзелі з міленькім,
Гаварылі пра любоў, гаварылі пра любоў,
Пра любоў.
Ён пытаўся: чыя я, ён пытаўся чыя я:
— Дзеўчынонька, чыя ты, дзеўчынонька, чыя ты?
Чыя ты?
Я прыеду ў сваты, я прыеду ў сваты.
— Не пайду я за цябе, не пайду я за цябе,
За цябе —
Няма хаты у цябе, няма хаты у цябе.
— Прыйдзеш, сэрца, у чужую, прыйдзеш сэрца, у чужую,
У чужую,
Пакуль сваю збудую, пакуль сваю збудую.
— Пастаў хату з лебяды, пастаў хату з лебяды,
З лебяды,
А ў чужую не вядзі, а ў чужую не вядзі.
Чужа хата такая, чужа хата такая,
Такая,
Як свякруха ліхая, як свякруха ліхая.
Як не лае, то бурчыць, як не лае, то бурчыць,
То бурчыць,
А ўсё роўна не маўчыць, а ўсё роўна не маўчыць.

Andantino 276

Па са- доч-ку ха- джу, рут- ку- мят-ку са- джу.
-Вый- дзі, вый-дзі, ма- я й мі- ла, штось я та- бе ска- жу,
вый- дзі, вый-дзі, ма- я й мі- ла, штось я та- бе ска- жу.

276. Па садочку хаджу, рутку-мятку саджу.
— Выйдзі, выйдзі, мая й міла, штось я табе скажу.*

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Што людзі гаворaць, што людзі гаворaць,
Што да цябе маладое кавалеры ходзяць.
Хадзіла чатыры, то так не любілі,
Стаў пяты хадзіці — стаў й верна любіці.
— Перастань хадзіці, перастань любіці,
Як дазнае мая маці — будзе мяне біці.
— Хадзіць не перастану, любіць не пакіну,
Пакуль з табой, мая міла, на ручнічку стану.
На ручнічку стаўшы, ручкі і звязаўшы,
Тады будзеш, мая міла, са мною назаўшы.




277. — Чаго, мама, прызаплакала,
Сваю донечку прасватала?*
Чаго, мама, прызасмуцілась,
Ці я табе надакучыла?
— Ты мне, доню, не дакучыла,
Дакучылі сяброваччкі твае.
— Як прычакаеш, мама, нядзеленькі —
Не пабачыш ані дзеванькі.
Будуць дзеўкіісці спяваючы,
Маміну хату мінаючы.
Маміну хату мінаючы,
Маме жалю задаваючы.
Ой, пайду я пад лясок на часок —
Там пачую салаўя галасок:
— Салавейка, мая пташачка,
Ці не быў ты ў маёй старане?

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ці не быў ты ў маёй старане,
Ці не плачуць бацька–маці аба мне?
— Яны плачуць, заліваюцца,
Цябе ў госці спадзяваюцца.
— Няхай плачуць, хоць паразрываюцца,
Мяне ў госці хай не спадзяваюцца.
Як яны мяне не шкадавалі —
Маладзеньку замуж выдавалі.

Moderato 278

Ха- дзі- ла-блу-дзі-ла ў зя-лё-ным са-ду, шчы-па- ла–ла-ма-ла гор-
ку ка-лі- ну, шчы- па- ла–ла-ма- ла гор- ку ка-лі- ну.

278. Хадзіла–блудзіла ў зялёным саду,
Шчыпала–ламала горку каліну,*
Шчыпала–ламала круты варата:
— Не смейся, мой мілы, што я — сірата.
Не смейся, мой мілы, не насміхайся,
Не пайду за цябе — не спадзявайся.
— Ты думаеш, міла, што браці я буду —
Паеду ў Расею, красіўшу знайду.
Праехаў Расею, усе гарада,
Не знайшоў красіўшай, як я, сірата.
Прыехаў з Расеі пад яе варата:
— Скажыце той дзяўчыне, хай выйдзе сюда.
Ой, выйшла дзяўчына засмучоная,
Відна па дзяўчыне: заручаная.
Учора з вячора дала ручнічка
Для таго мілага, што не любіла.

279. Паехаў мой брацішка на сем лет на баяры, ой, рана!
Шукаў сабе панны, такой, як сястронка Ганна, ой, рана!

* Кожны другі радок паўтараецца.

Прыехаў дадому, вымахнуў шабелькай, ой, рана!
— Ганулька–сястронка, засцілай сталы–лавы, ой, рана!
Засцілай сталы–лавы — едзе госць небывалы, ой, рана!
— Брацішку–Івашку, які госць будзе, ой, рана!
— Я ў цябе госцем буду, я ў цябе ў дзеваснубы, ой, рана!
— Як свет светам настаў — брат сястронкі не браў, ой, рана!
І ты не будзеш браці — лепш пайду паміраці, ой, рана!
Скочыла Ганулька да новае каморы, ой, рана!
Паклала галоўку на свае шлюбныя ўборы, ой, рана!
— Расступіся, зямля, бо брат сястронку бярэ, ой, рана!
Дзе галоўка ўпала, там царкоўка стала, ой, рана!
А дзе ручкі ўпалі, там свечачкі пасталі, ой, рана!
А дзе ножкі ўпалі, там парожкі пасталі, ой, рана!

280. Выкацілі, выкацілі на вуліцу бочку,*
Выдурылі, выдурылі ў Андрэя дочку.
— Не мы яе выкацілі — сама кацілася,
Не мы яе выдурылі — сама прасілася.

281

Andante

За лесам борам, шырокім полем,
за лесам борам, шырокім полем.
ой, там Манюлька каравай поле,
ой, там Манюлька каравай поле.

* Кожны другі радок паўтараецца.

281. За лесам–борам, шырокім полем,*
Ой, там Манюлька каравай поле.
Ой, поле, поле, перабірае —
Куколь–мятліцу набок кідае.
З куколю–мятліцы нічога не будзе —
З перабор–пшаніцы каравай будзе.
Перша кветанька — малада Манечка!

Allegretto 282

Ой, го- дзе, го- дзе та- бе, пша- ніч- ка,
сем лет у ста- гу ста- я- ці.

282. Ой, годзе, годзе табе, пшанічка,
Сем лет у стагу стаяці,
Трэба цябе, мая пшанічка,**
На каравай зачаці.

283. Тройца па царкве ходзіць,
Спаса за руку водзіць,
А Спас Тройцу пытае:
— Хто каравай гібае?
Ці з места мяшчанкі,
Ці з сяла сялянкі?
— Ні з места мяшчанкі,
Ні з сяла сялянкі —
Усе суседкі Касіны.

---

* Кожны радок, апрача апошняга, паўтараецца.

** Трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

284. Ой, дзе тая матуленька, што ў[*] хаці?
Няхай шукае да караваю лапаты.
Ой, дзе тая гаспадыня, што ў шубе?
Няхай шукае да караваю кацюбы.

Lento

285

Ой, ха- ро- шы наш ка- ра- вай, ха- ро- шы,
бо ха- ро- шы- я ка- ра- вай- нач- кі гі- ба- лі,
бо ха- ро- шы- я ка- ра- вай- нач- кі гі- ба- лі.

285. Ой, харошы наш каравай, харошы,
Бо харошыя каравайначкі гібалі.[*]

Ой, высокі наш каравай, высокі,
Бо высокія каравайначкі гібалі.

Ой, румяны наш каравай, румяны,
Бо румяныя каравайначкі гібалі.

Ой, цыцаты наш каравай, цыцаты,
Бо цыцатыя каравайначкі гібалі.

Ой, пузаты наш каравай, пузаты,
Бо пузатыя каравайначкі гібалі.

---

[*] Кожны другі радок паўтараецца.

286. Ой, ці свет, ці світае, ці на зоры займае?
Ці мой міленькі, голуб сівенькі, коніка асядлае?*
Асядлай, мілы, коня, асядлай варанога,
Прыязджай, мілы, забірай, мілы, мяне маладзенькую.

287. Ой, заржы, паржы, сівы коніку, рана на пашу йдучы,
Ой, ці не ўчуе мая дзяўчына, з руткі вяночкі ўючы.
Скора й учуяла, скора й пазнала, раненька заплакала:
— Не тога хлопца сівы конь іржэ, што я верна кахала.

288. Маладая Ганулька, усё тваё мінаецца,
Усё тваё мінаецца — дзявоцкая гуляніца.
Хоць ты будзеш на вячоркі хадзіці,
Ды не будуць цябе хлопцы любіці.
Хоць ты будзеш убірацiся,
Ды не будуць углядацiся.

289. Перад вароцьмі вада бяжыць,**
Там млода Оля ручкі мые.
Яе баценька ў варот стаіць,
Дробныя слёзы, як бобр, раніць:
— Мый жа, дзіцятка, бялюсенька,
Ужо й вянчанейка блізюсенька,
Да ў нядзеленьку ранюсенька.

Moderato 290

Пла-ка-ла Га- лін- ка, пла-ка-ла, што ра-на зі- мань- ка на-ста-ла —
сне-жань-кам ру-тань- ка пры-па- ла. Не з ча-га вя-ноч- ка у- ві- ці,

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.




290. Плакала Галінка, плакала,
Што рана зіманька настала —
Снежанькам рутанька прыпала.
Не з чага вяночка увіці,
Няма чым свацейкаў дарыці.
Саўю я й вяночка з лілеі —
Падару свацейкі ў нядзелю.




291. Кавала зязюля, кавала,
Што яна, куючы, казала?
— Тры леты ў матулі жыці,
У вяночку з руты хадзіці.
Кавала зязюля лецячы,
Плакала дзеванька седзячы.
Плакала дзеванька седзячы,
На свае ручанькі гледзячы:
— Вы, мае ручанькі беленькія,
Ці будзеце ў свякрухі такія?
Ці будзеце ў свякрухі такія,
Як былі ў матулі беленькія?
Аддасі, матанька, аддасі,
На белым паперку запішы,

Дзе тваё дзецятка хадзіла,
Дзе тваё дзецятка хадзіла,
Усяляку работу рабіла.
Усяляку работу рабіла —
Залатыя вербы садзіла.
Прыехалі баяры, баяры,
Дзецятка забралі, забралі.
Гляну я ў вакенка — а ўжо свет,
Выйду да каморы — скрыні нет.
Выйду за варота — слядкі знаць,
Дзе маё дзецятка павёз зяць.
Дзе маё дзецятка павязлі,
Залатыя вербы параслі.

Moderato 292

Ой, там на га- ры, ой, там на кру- той,
ой, там ся- дзе- ла па- ра га- лу- боў,
ой, там ся- дзе- ла па- ра га- лу- боў.

292. Ой, там на гары, ой, там на крутой,
Ой, там сядзела пара галубоў.*
Сядзелі яны, абымаліся,
Сівымі крыллямі накрываліся.
Скуль узяўся стралец–маладзец,
Разбіў, разлучыў пару галубоў.
Галубка не есць, галубка не п'е —
Усё на круту горачку плакаці йдзе.
Сыплюць пшаніцу, ставяць вадзіцу:
— Ты еш, галубка, бо ўжо ўдавіца,
— Не буду есці, не буду піці,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Забіў голуба — няма з кім жыці.
Нагнаў галубоў сто дваццаць чатыры,
Нагнаў галубоў сто дваццаць чатыры:
— Выбірай, галубка, каторы мілы.
— Я й выбірала, перабірала:
Няма і не будзе, каго кахала,
Бо мой міленькі чарнабрывенькі,
Лічка румяна, сам маладзенькі.

Andantino 293

Ой, пад яб- лынь-кай, пад са-ло- дзень-кай ся-дзіць га- лу-бок
да й з га-лу-бань-кай, ся-дзіць га- лу-бок да й з га-лу-бань-кай.

293. Ой, пад яблынькай, пад салодзенькай
Сядзіць галубок да й з галубанькай.*
Яны сядзелі, любаваліся,
Правымі крыльцамі абнімаліся.
Прыляцеў арол з-пад цёмнае хмары,
Забіў галубка з любімае пары.
А галубаньку ўзяў за жонаньку
Та й павёў яе да пакоіку.
Даў ён ёй есці ярай пшаніцы,
Даў ён ёй піці чыстай вадзіцы.
Яна не піла, яна не клявала —
Усё й па галубку та й сумавала.

Moderato 294

—Ой, на два- рэ дроб-ны дож-джык, ім- гля- но, ча-
му, Ма- неч- ка, тва- е ма- ту- лі не від- но?

* Кожны другі радок паўтараецца.

294. — Ой, на дварэ дробны дождзык, імгляно,
Чаму, Манечка, твае матулі не відно?
Ой, перайдзі хату, сені перайдзі,
У новай каморы свае матулі паглядзі.
— Я перайшла хату, сені перайшла,
У новай каморы свае матулі не знайшла.*

Moderato 295

Ля- цеў са- кол з чу- жых ста- рон, у- паў,
во- ду п'ю- чы,— за- пла- ка- ла сі-
ро- тань- ка, да шлю- бу і- ду- чы.

295. Ляцеў сакол з чужых старон, упаў, воду п'ючы, —
Заплакала сіротанька, да шлюбу ідучы.
— Чаго плачаш, дзіця маё, што табе трэба?
— Ой, плачу я, прыплакую, што бацькі і маткі няма.
Каб я была зязюленькаю, паляцела б на магілку,
Сказала б: "Ку-ку! Падай, тату, падай, мама, правую руку",
— Рады былі б, дзіця наша, абедзве даці —
Сыра зямля, жоўты пясок — няма як устаці.*

296. Ой, няма, няма нашай Валі ўдома,**
Пайшла Валюня да Пана Бога
Прасіці матанькі на вяселечка:
— Матанька родна, прашу на вяселле.

---

* Апошні радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

— Дзіцятка маё, вясяліся само,
Да цябе не пайду, бо ўжо не зайду,
Ужо ж мае ногі пад трыма замкамі:
Першы замочак — саснова трунка,
Другі замочак — рыжы пясочак,
Трэці замочак — трава-мурава.
Трава-мурава аж вылягае —
Наша Валюня з жалю памірае.

Moderato 297

За- ка- ва- ла зя- зю- ля ў са- доч- ку, пры- хі- ліў- шы
га- лоў- ку к ліс-точ- ку: -Бед- на ма- я га- лоў- ка,
цэ- лы свет — е ва ўсіх ба- цень- кі, ў мя- не — нет.

297. Закавала зязюля ў садочку,
Прыхіліўшы галоўку к лісточку:
— Бедна мая галоўка, цэлы свет —
Е ва ўсіх баценькі, ў мяне — нет.
Ці я яму пасцелькі не слала,
Ці я яму кашулі не дала?
Слала я пасцельку мякеньку,
Дала я кашулю беленьку.

298. Захацела стара баба маладою быці,
Натыкала за чапец зялёнае руці.[*]
— Рутка ж мая, рутка дробна, зялёная,
Хоць я цябе натыкала, то ўсё адно — старая.

---

[*] Кожны другі радок паўтараецца.

299. Шалён-малён па падвор'ю каціўся,
Малады Янка на заручыны страіўся.*
Выйшла да яго матуля яго: "Дзе, сынку, ад'язджаеш?"
— Ой, паеду я, матулю мая, сабе мілае шукаці.
Як добра будзе, як добра будзе, то я доўга забаўлюся.
Як кепска будзе, як кепска будзе, то я зараз вярнуся.
У правай ручаньцы канчука дзержыць коніка паганяці,
У левай ручаньцы хустачку дзержыць слёзанькі ўціраці.

300. Зялёны дуб, зеляненькі
На хвою пахіліўся,
Малады Іванка, маладзюсенькі
Свайму бацьку пакланіўся:
— Пакідаю цябе, баценька,
На чужое дагляданне,
А сам паеду да цесця
На ўсю ноч, на гулянне.
Як будзе добра, мой баценька,
Я там застануся,
Як кепска будзе — да цябе вярнуся.

301. Гоп, гоп, таўкачыкі, сем год валяліся,
Покуль ступы даждаліся!
Гоп, гоп, таўкачыкі, гоп, гоп, дубовыя,
Сем год валяліся, покуль танцу даждаліся!

302. Кавала зязюлька па расе,
Плакала Марыся па касе:
— Хто маю косаньку распляце,
Хто мяне да шлюбу павядзе?
Выскачыў Касцічак з каморы:
— А я, твой браточак ражоны,
Я тваю косаньку распляту,
Я цябе да шлюбу павяду.
На белым ручнічку пастаўлю,
Я тваю косаньку папраўлю.

---

* Кожны другі радок паўтараецца

303. Брат касу расплятае,
Брат касу расплятае,
Дзе каснічкі дзяваe?
Кладзе на заслонцы:
— Няхай меншай сястронцы,
Няхай меншай сястронцы.

Moderato 304

Ў но-вай ка-мо-ры да й за дзвя-ры-ма Ма-ры-ся у-бі- ра- ец-ца,
бе-лай хус-ці-най, бе-лай хус-ці-най ад слё-зань-кі у- ці- ра- ец-ца,
бе-лай хус-ці-най, бе-лай хус-ці-най ад слё-зань-кі у- ці- ра- ец-ца.

304. Ў новай каморы да й за дзвярыма Марыся убіраецца,
Белай хусцінай, белай хусцінай ад слёзанькі уціраецца.*
Прыйшла да яе матуля яе: "Дзе, Марыська, убіраешся?
Што так гладзенька, што так гладзенька ўчасаешся?"
— Паеду, мамка, у чужыя людзі — я там буду гараваці.
Сеяла рутку яру, зялёну: хто яе будзе паліваці?
— Не плач, Марыська, маё дзіцятка, я буду даглядаці:
Устану раненька, да ўсходу слонка, буду рутку паліваці.
Расці, рутанька, яра, зялёна, ты тут развівайся,
А ты, Марыська, у чужых людзях — жыві там, разжывайся.

305. Ой, ад віна дарожанька, ад віна,
Пазбіралася Лідачкіна радзіна.*
Малада Лідачка сваю матаньку пытае,
Нашто матанька радзінаньку збірае.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Ой, на тое, мая дочанька, на тое,
На пышнае вяселлечка на твое!

306. Ой, села Марыся вышэй ўсіх,
Схіліла галоўку ніжэй ўсіх.
Ой жа ж заплакала: "Мой Божа,
Хто мне, маладзенькай, паможа?
Паможа Марысі Гасподзь Бог,
А родненькі баценька наўпярод.

307. Ой, ступіла млода дзяўчынка на парог,*
Вымахнула хустанькаю напярод:
— Разыдзіцеся, разыдзіцеся, усе людзі,
Няхай да мяне мой баценька прыбудзе,
Няхай мяне шчасцем-здароўем надарыць,
Няхай мяне да Божага дому выправіць.

Allegretto 308

Звi-не-ла ка-мо- рань-ка, звi- не- ла, ма-ла-да- я дзе-вань-ка ся- дзе- ла, ма-ла-да- я дзе- вань-ка ся- дзе- ла.

308. Звінела каморанька, звінела,*
Маладая дзеванька сядзела.
Русую косаньку часала,
Вялікую думаньку думала.
І прыйшоў яе татанька ў камору,
Упала яна татаві ў ногі:
— Не аддай жа, татанька, ты мяне —
Прабуду я зіманьку ў цябе.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— А як цябе, дочанька, не аддаць —
Прыехаў твой міленькі, хоча ўзяць.
Папускаў ён конікі ў вішнёў сад:
— Няхай мае конікі паходзяць,
Зялёнае рутанькі паядзяць.
Зялёная рутанька — жоўты цвет.
— Чаму цябе, міленькі, доўга нет?
— Прыбуду я, міленька, прыбуду,
Як я сабе сванечак здабуду,
Тады я да міленькай прыбуду.
Зазвінелі чарачкі на стале —
Заплакала дзеванька ў каморы.

309. Звінела камаранька, звінела,
Маладая дзеванька сядзела.*
Сваю русу косаньку часала,
Вялікую думаньку думала.
Прыехала госцікаў семдзесят,
Выпусцілі конікі ў вішнёў сад.
— Няхай тыя конікі паходзяць,
Маю дробну рутаньку пабродзяць.
Няхай тыя конікі пастаяць,
Няхай мая дочанька пасядзіць.
— Выйдзі, выйдзі, матанька, з граблямі,
Зграбі маю рутаньку з квятамі.
Выедзь, выедзь, браточку, з вазочкам,
Звязі маю рутаньку з пясочкам.

Allegre 310

— Ой ты, ба- цень- ку - са- ла вей- ку, ад- да- еш мя- не
ма- ла- дзень- ку, ад- да- еш мя- не ма- ла- дзень- ку.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

310. — Ой ты, баценьку–салавейку,
Аддаеш мяне маладзеньку.*
Прыкуй мне зязюлю галасненьку,
Каб рана ўстала й закавала —
Мяне, маладую, прабуджала,
Бо свякруха — не родна маці:
Сама ўстане, а мяне не збудзіць,
Пойдзе да суседа шчэ й асудзіць:
— Мая нявестка драмлівая,
Да работы лянівая.

311. — Чом салаўі не шчабяталі, як сады расцвіталі?
Чом ты, дзяўчынанька, не плакала, як цябе запівалі?
— А я думала, маладзенькая, што яны жартавалі.
А тыя жартанькі выйшлі на праўду і косаньку раскавалі.

Lento 312

— Ой, вый-дзі, пай-дзі, мло-да Ма-неч- ка, да са- ду - ві-
на- гра- ду, ой, збу-дзі, збу- дзі сва- ю ма- ту- лю
да ся- бе на па- ра- ду, ой, збу-дзі, збу-дзі сва-ю
ма- ту- лю да ся- бе на па- ра- ду.

312. — Ой, выйдзі, пайдзі, млода Манечка, да саду–вінаграду,
Ой, збудзі, збудзі сваю матулю да сябе на параду.*
— Учора хадзіла, та й не збудзіла каравай расчыняці,
Сягоння пайду та й не разбуджу да шлюбу выпраўляці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.




313. Рассцілаецца, развіваецца і ў гародзе зеллечка,
У гародзе зеллечка.
Пачынаецца, пачынаецца у Марысі вяселлечка,
У Марысі вяселлечка.
Двор узюсенькі, збор малюсенькі, без роднага баценька,
Без роднага баценька.
— Пашлю сокалы на Украінаньку па ўсю радзінаньку,
Па ўсю радзінаньку,
А зязюленьку, жаласну пташку, на той свет па баценька,
На той свет па баценька.
Сокалы ляцяць — весела крычаць, што радзіна прыбудзе,
Што радзіна прыбудзе,
А зязюленька жаласна плача, што баценька не будзе,
Што баценька не будзе.

314. Рассцілаецца, развіваецца
Ў новым гародцы зелле.*
Пачынаецца, развіваецца
Ў Валюні вяселле.
Бог пачынае, Бог памагае,
Баценька дакладае.
А чаго няма, чаго не будзе —
Баценька раздабудзе!

315. Ізусюль рэчкі цякуць,
Ізусюль выцякаюць,
Ізусюль госці едуць,
Ізусюль з'язджаюць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Аднае рэчкі няма —
Быстрага Дунаю.
Аднаго госця няма —
Самага найлепшага,
Дзяўчыны баценька.
А дзеўчын баценька
На ўсход сонейка ляжыць.
На ўсход сонейка ляжыць,
Наўкрыж ручанькі дзяржыць.
Наўкрыж ручанькі дзяржыць,
Госпада Бога просіць:
— Ой, пусці мяне, Божа,
Із неба на падвор,
Там майго дзіцяці
Вяселлечка вітаці.
Я дахаты не пайду —
Пад акенцам пастаю.
На свае дзіця падзіўлюся:
Ці харашэнька прыбранае,
Ці, як людзі, пасажонае.
Прыбрана, як лябёдка,
А пасажона, як сіротка.

316. Ізусюль рэчкі цякуць, ізусюль сцякаюцца,
Ізусюль госці едуць, ізусюль з'язджаюцца.
Аднае рэчкі няма — быстрага Дунаю,
Аднае госці няма — Марысінае матулі.
Марысіна матуля на ўсход сонечка ляжыць,
На ўсход сонечка ляжыць, наўскрыж ручанькі дзяржыць.
Наўскрыж ручанькі дзяржыць і з Богам гаворыць:
— Ой, пусці ж мяне, Божа, з неба на падолле,
З неба на падолле — на сіроцкае вяселле.
Я дахаты не пайду — праз акенца пагляджу:
Як яна наражона, як яна пасажона.
Нарадзілі, як ягадку, пасадзілі, як сіротку.

317. Ой, чыя то матуля
Па падвор'ю ходзіць,
Белы ручанькі ломіць?
— Пусці мяне, Божа, дадоманьку

На сіроцка вяселле.
Я й дадому не пайду —
Праз акенца пагляджу
На сіроткі вяселле:
Як яна наражона,
Ці на покуць пасажона.
Наражона, як лябёдка,
Пасажона, як сіротка.

318. Не плач, Манечка, за яго йдучы,
Ой, рана, рана, за яго йдучы!
Бо наплачашся, за ім жывучы,
Ой, рана, рана, за ім жывучы!
Ой, хлеба-солі пазычаючы,
Ой, рана, рана, пазычаючы!
Усім суседзям дакучаючы,
Ой, рана, рана, дакучаючы!

Adagio 319

Ся-дзіць Ма-неч-ка за ці-со-вым ста-лом, з до-лень-ка-ю га- да- е,
з до-лень-ка-ю га- да- е: -Ка-лі доб-ра- я до-лень-ка ма-я,
едзь да шлю-бу са мно- ю, едзь да шлю-бу са мно- ю.
Ка- лі лі- ха- я до-лень-ка ма- я, плынь з быст-ра-ю ва- до- ю,
плынь з быст-ра-ю ва-до- ю. Пер-ша кве-тань-ка — ма-ла-да Ма-неч-ка, о-о-о!

319. Сядзіць Манечка за цісовым сталом,
З доленькаю гадае:*
— Калі добрая доленька мая,
Едзь да шлюбу са мною.
Калі ліхая доленька мая,
Плынь з быстраю вадою.
Перша кветанька — малада Манечка, о–о–о!

320. Харашэ было маладой Мані, як на пасадзе села,
Ручанькі спляла, галоўку ўзняла, як зара затрымцела,
Пры ёй — вяночак, усё з маладочак, лічанька румяное.
А каля яе — матанька яе, не можа наглядзецца,
Як у садочку на чарэшаньку, як на ружову кветку.

321. У нядзелю рана на мшу званілі.**
— Кей табе, Валюню, да Божага дому.
— Ой, кей шчэ й не кей шчэ, за гадзіну, ойча,
Я ж свайму бацeньку не пакланілася,
Я сваёй матаньцы не пакланілася.
— Дзіцятка, кланяйся нізенька,
Бо ўжо тваё вянчанне блізенька.

322. Устала Агатка ў нядзельку рана,
Моліцца Богу.
Богу моліцца, татку кланяецца
У ножкі нізютка:
— Благаславі мяне, татачка,
Да шлюбу з Богам ступіць.
— З Богам, з Богам, дзіцятка,
З усімі святымі
І з дзеўкамі маладымі.
Табе дарожка благаславёна —

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

Царкоўка адчынёна.
Табе дарожку Бог благаславіў,
А царкоўку бацюшка адчыніў.

Moderato 323

Хо- дзіць Ма- ры- ся кру- гом сто- лі- ка, Бо- га
до-лень-кі про- сіць, Бо- га до-лень-кі про- сіць.

323. Ходзіць Марыся кругом століка,
Бога доленькі просіць:*
—Ой, як якая доля добрая —
Едзь да шлюбу са мною.
А як якая доля ліхая —
То плыві за вадою.

Lento 324

Над цэр- ква- ю хма- ра, ў цар-коў- цы
дзе- так па- ра: а- бо- е раў- ню- сень-
кі, як ле- бедзь, бя- лю- сень- кі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

324. Над цэрквою хмара,
Ў царкоўцы дзетак пара:
Абое раўнюсенькі,
Як лебедзь, бялюсенькі.

Lento 325

Пра- піў бaць-ка ко- ні, пра- сіў
Бо- га до- лі, каб ты дзі- ця зва-зіў
каб ты дзі- ця зва- зіў да Бо- жа- га до-
му, аж да Бо- жа- га до- му.

325. Прапіў бацька коні,
Прасіў Бога долі,
Каб ты дзіця звазіў,
Каб ты дзіця звазіў
Да Божага дому,
Аж да Божага дому.

Moderato 326

За- ту- па- лі ва- ра- ны ко- ні на два- рэ,
за- зві- не- лі за- ла- ты куб- кі на ста- ле,




326. Затупалі вараны коні на дварэ,*
Зазвінелі залаты кубкі на стале.
Як пачула малада Кася ў каморы,
Ой, упала сваёй матулі ў ногі:
— Ой, не дай, не дай, мая матулю, хоць гадочак —
Няхай знашу свой руцвяны вяночак.
— Ой, насіла, маё дзіцятка, насіла,
Што суботанькі пару вяночкаў увіла.
Як жа ж цябе, маё дзіцятка, не даці —
Прыехалі такія госці, што ўзяці.




327. Затупалі вараныя конікі на дварэ,
Застукалі залатыя кубачкі на стале.
Ой, учула, учула малада Марыся ў каморы
Да й упала сваёй матаньцы ў ногі:
— Ой, не аддай, мая матанька, хоць з годзічак —
Няхай я знашу свой руцвяны вяночак.
— Ой, рада бы, маё дзіцятка, не даці —
Прыехалі баяры-панічы — хочуць узяці.
Прыехалі баяры і панічы — ухапілі русу косу на бічы.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

328. Паганяй, сваце, клячу,
Не зважай, што я плачу.
Як з двара — памаленьку,
А з сяла — паціхеньку.
А ў чыстым полі, сваце,
Як конь можа ўзяці!

329. — Куды едзеш?
— Да шлюбу.
— Чаму плачаш?
— Не буду.
Няхай плача
Маладога маці,
Што не будзе гаспадыняй
У сваёй хаце.

330. Залата каморанька звінела,
Маладая дзяўчына сядзела,
Сваю русу косаньку часала
І вялікую думаньку думала.
Прыйшоў яе татанька ў камору,
Упала яна татаві ў ногі:
— Не аддавай, татанька, ты мяне,
Перабуду зіманьку я ў цябе.
— Як жа ж цябе, дочанька, не аддаць:
Прыехалі госцейкі — хочуць узяць.
Прыехала госцікаў семдзесят,
Папускалі конікі ў вішнёвы сад.
— Няхай тыя конікі паходзяць,
Зялёную рутаньку пабродзяць.
Зялёная рутанька — жоўты цвет,
Прыедзь, прыедзь, міленькі, доўга нет.
Прыедзь, прыедзь, міленькі, з касою,
Скасі маю рутаньку з расою.
Прыедзь, прыедзь, міленькі, з граблямі,
Зграбі маю рутаньку з карнямі.
Прыедзь, прыедзь, міленькі, з вазочкам,
Звязі маю рутаньку з пясочкам.
Зялёная рутанька — жоўты цвет,
Маладой дзеўчыны даўно нет.*

* Апошні радок паўтараецца.




331. Пакланілася чырвона каліна
Да вады кветанькамі.*
Пакланілася малада дзеўчына
Матаньцы слёзанькамі:
— Дзякуй табе, мая матанька,
За тваё выхаванне.
Аддаеш мяне, маладзюсеньку,
Навекі ў гараванне.




332. Не выкапаўшы ў полі крынічанькі, то й не меці вады.
Не выкахаўшы змалу дзяўчыноньку, то й не меці жонкі.*
Ой, выкапаю новы я калодзезь у сябе на двары,
Ой, ці не прыйдзе красна дзяўчынонька ка мне браці вады.
Ой, гляну, гляну я ў акеначка — дробны дожджык ідзе,
Ой жа, бо мая красна дзяўчынонька па воданьку ідзе.
Ой, гляну, гляну я і ў другое — галубы ваду п'юць,

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

А ўжо ж маю бо красну дзяўчыноньку да шлюбу вядуць.
Ой, адзін вядзе за белую ручку, а другому жаль, жаль,
А трэці стаіць, дробны слёзанькі роніць: хто любіў, той не ўзяў.

333. На падворку новы калодзезь і вядро.
— Чаму ж, Насценька, твае матулі не відно?
Прайдзі, прайдзі сені і хату, камора —
У новай каморы сваю матулю ўбачыш.

334. На падвор'і новы калодзезь і вядро.
— Ой, чом, Танечка, твайго ойчанька не відно?
Перайдзі хату, сені перайдзі,
У новай каморы свайго ойчанька паглядзі.
— Я не раз, не два хату, сені перайшла —
Свайго ойчанька не знайшла.
Ой, хто ж то там пад падгор'ечкам гукае?
Ой, то ж Танечка свайго ойчанька шукае.
Спусцілася з прыгор'ечка ў даліну —
Спаткнулася на ойчанькаву магілу.
— Устань, устань, мой ойчаньку, да мяне,
Бо няма ў хатаньцы ладу без цябе.

Moderato 335

Па-шлю два са-ка-лы і зя-зю-лень-ку на Ўкра-і-нань-ку,
на Ўкра-і-нань-ку па ра-дзі-нань-ку, па род-ну ма-ту-лень-ку.

335. Пашлю два сакалы і зязюленьку на Ўкраінаньку,
На Ўкраінаньку па радзінаньку, па родну матуленьку.
Сакалы ляцяць, голасна крычаць: "Радзінанька прыбудзе!"
Зязюленька ляціць, вестачку нясе: "Матулі не будзе".

— Ляці, зязюлька, сівая птушка, ты назад кукаючы,
Ляці ў лясочак, упадзі ў пясочак, збудзі маю матулю.
Зязюлька ляціць, не далятае, матуля прамаўляе:
— Ой, рада ўстаці свайго дзіцяці да шлюбу выпраўляці.
Трава-мурава вочкі заслала — не магу праглянуці,
Рыжанькі пясок лёг на сэрданька — не магу прадыхнуці.

336. Кругом сонейка да ўгору ідзе,
Ой, рана, рана, да ўгору ідзе.
Млода паненачка да шлюбу едзе,
Ой, рана, рана, да шлюбу едзе.
— Едзь, едзь, паненачка, Богу маліцца,
Ой, рана, рана, Богу маліцца.
Та й не забудзься матулі пакланіцца,
Ой, рана, рана, матулі пакланіцца.
Упадзі бацэньку ў белыя ножкі,
Ой, рана, рана, ў белыя ножкі.
Абсыплюць цябе дробныя слёзкі,
Ой, рана, рана, дробныя слёзкі.
Папрасі бацэнька пра спамаганне,
Ой, рана, рана, пра спамаганне.
— Хай цябе, дзіцятка, сам Бог спаможа,
Ой, рана, рана, сам Бог спаможа:
Шчасцем, дабыткам, ядроным жыткам,
Ой, рана, рана, ядроным жыткам.
Шчасцем-доляю — радзінай добраю,
Ой, рана, рана, радзінай добраю.

337. Ляцелі гусі чакочучы,
Плача дзяўчына няхоцячы.
— Дайце цыбулі пад вочыцы —
Буду плакаці да ночыцы.

338. Плылі гусі, плылі быстраю ракою.
— Выйдзі, дзяўчынанька, размоўся са мною!
— Не раз я хадзіла, не раз гаварыла,
А ты, маё сэрца, праўды не сказаў.

— Тады ж маё сэрца ўсю праўданьку скажа,
Як ксёндз маю ручку з тваёю звяжа.
Як стаў ксёндз маю ручку з тваёю вязаць —
Стаў я дзяўчынаньцы ўсю праўду казаць.




339. Вышла Валечка за вароцечка,
Рассыпала бульбы, рассыпала бульбы,
Ужо мінаюцца, ўжо мінаюцца
Дзявоцкія гульбы, дзявоцкія гульбы.
Выйшла Валечка за вароцечка,
Рассыпала карты, рассыпала карты,
Ужо мінаюцца, ужо мінаюцца
Дзявоцкія жарты, дзявоцкія жарты.
Выйшла Валечка за вароцечка,
Пад калінаю стала, пад чырвонаю стала,
Ручкі згарнула, цяжка ўздыхнула,
Жаласна заплакала, жаласна заплакала.
Выйшла да яе матанька яе:
— Чаго, дзіцятка, плачаш? Чаго, роднае, плачаш?
Я табе даю, што сама маю,
Доленькі не ўгадаю, доленькі не ўгадаю.

340. Мая матанька–вутка,
Мая матанька–вутка,
Чом не выходзіш хутка,
Чом мяне не вітаеш,
Чом мяне не пытаеш,
Дзе я была, з кім шлюб брала,

На ручнічку стаяла,
На ручнічку стаяла?

Lento 341

Ва- ра- гі - ва- ро- жань-кі, ссту-пі- це з да-ро- жань-кі —
бра-ха-лі - га- ва- ры- лі, а па-ры не раз- бі- лі.

341. Варагі–варожанькі,
Сступіце з дарожанькі —
Брахалі–гаварылі,
А пары не разбілі.

342. Гаварылі варагі, што й не ажанюся —
Я такую жонку ўзяў, што й не надзіўлюся.*

343. Ой, харошы наш малады, харошы,
Над усю свацьбу наш малады дарожшы:
На ім пярсцёнкі зіюшчыя, на ім камашы рыпушчыя,
Ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладога!
Ой, хароша наша маладая, хароша,
Над усю свацьбу наша маладая дарожша:
На ёй пярсцёнкі зіюшчыя, на ёй камашы рыпушчыя,
Ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладую!
Ой, харошы старшы чашнічак, харошы,
Над усю свацьбу старшы чашнічак дарожшы:
На ім пярсцёнкі зіюшчыя, на ім камашы рыпушчыя,
Ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладога!
Ой, хароша старша дружачка, хароша,

* Другі радок паўтараецца.

Над усю свацьбу старша дружачка дарожша:
На ёй пярсцёнкі зіюшчыя, на ёй камашы рыпушчыя,
Ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладую!

Andante 344

Не ду-бок пры ніў-цы ў га- і, не ў лу- зе лі- лей- ка,
ма- ла- ды тут за- ся- да- е з сва-ёй даб- ра- дзей- кай.

344. Не дубок пры ніўцы ў гаі, не ў лузе лілейка,
Малады тут засядае з сваёй дабрадзейкай.
Хто ўцеху ўсю іх пойме, што ў душу ім ліецца,
Хто спазнае, хто пяройме думкі наважэнцаў?
Зышла радасць на абое: бачыць сэрца сэрца,
Мілым шчасце залатое сцелецца каберцам.
З госцяў кожны віншаванне гладкім слоўцам кіне,
Маё простае жаданне хай таксама не загіне.
Жычу меці, як нікому, жычу я ахвоча:
Маладой і маладому — усё, што толькі хочуць.
Згоду ў хатцы, спор у хатцы, гонар між людзямі
І ў які год дачакацца забавы з кумамі.*

345. Ой ты, сваце–баламуце,
Не ґасі каня ў маёй руце,
Бо твой конічак не спасецца,
А мая рутанька звядзецца.
Прышлі, прышлі сваго Яначка з вазочкам,
Няхай забярэ яру рутаньку з пясочкам.**
Прышлі, прышлі сваго Яначка з каўнямі,
Няхай забярэ яру рутаньку з каранямі.

---

* Апошні радок паўтараецца.

** Адсюль і да канца песні кожны другі радок паўтараецца.

А ў гародзе яра рутанька зеляніць,
А ў той рутаньцы млода Гандзечка доўга спіць.
Прыйшла яе сястронка будзіці —
Стала на яе матуленька сварыці:
— Ой, не будзі, маё дзіцятка, не будзі,
Бо яна паедзе далёка ў чужыя людзі.
Будзе будзіці чужая маці нялёгка:
— Устань, устань, мая нявестка, не ляжы,
Ідзі на поле работаньку парабі.

346. Ой, знаці, знаці
Чужое сваццe —
Коні пузаты,
Самі мурзаты.
Ой, знаці, знаці
Нашае сваццe —
Коні вараненькі,
Самі маладзенькі.

Andante 347

— Ой, што жа ж ты, мло-да Та- мар- ка, ду- ма- еш,
што на та- ку- гіб- ку- ю клад-ку сту- па- еш,
што на та- ку- ю гіб- ку- ю клад-ку сту- па- еш?

347. — Ой, што жа ж ты, млода Тамарка, думаеш,
Што на такую гібкую кладку ступаеш?*
— Ой, думаю, мае дзеванькі, думаю,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Што на такую гібкую кладку ступаю.
— Ой, на што ты, млода Тамарка, глядзела,
Што за такога нехарошага схацела?
— Ой, няпраўда, мае дзеванькі, не то–та —
Сядзіць Яначка з правага боку, як злота.
Сам бялявы, чуб кучаравы ў ёга —
Прыхілілася маё сэрцайка да ёга.

Moderato 348

А ў га- ро- дзе жоў-та морк-вач-ка ся- дзе- ла.
—Дзе ты, дзе-вань- ка, сва- е во- чань- кі па- дзе- ла?
Дзе ты, дзе- вань- ка, сва- е во- чань- кі па- дзе- ла?

348. А ў гародзе жоўта морквачка сядзела.
— Дзе ты, дзеванька, свае вочанькі падзела?*
То ў чарачку, то ў шклянь ачку глядзела
Ды за такога нехарошага схацела.
— Ой, ні то–то, мае дзеванькі, ні то–то —
Сядзіць міленькі з правага боку, як злото.
Чуб кучаравы, твар бялявы ў яго —
Прыхілілася маё сэрданька да яго.

349. Цераз сад–вінаград капусту садзіла,
Чом не ўзяў мяне той, каго я любіла?*
Ано ўзяў мяне той, што з роду не знала —
А то табе перабор, што й перабірала.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

350

Andante

Ці я ў лу- зе не ка- лі- на бы- ла?

Ці я ў лу- зе не ха- ро- ша бы- ла?

Ўзя- лі мя- не па- ла- ма- лі і ў пу- чэч- кі па- вя- за- лі — та- ка до-

ля ма- я, та- ка до- ля ма- я! Ўзя- лі мя- нe па- ла- ма- лі

і ў пу- чэч- кі па- вя- за- лі — та- ка до- ля ма- я, та- ка до- ля ма- я!

350. Ці я ў лузе не каліна была?
Ці я ў лузе не хароша была?
Ўзялі мяне паламалі*
І ў пучэчкі павязалі —
Така доля мая!

Ці я ў лузе не травіна была?
Ці я ў лузе не зялёна была?
Ўзялі мяне пакасілі
І ў капіцы звалачылі —
Така доля мая!

---

* Тры апошнія радкі ў кожнай страфе паўтараюцца.

Ці я ў полі не пшаніца была?
Ці я ў полі не ядрона была?
Ўзялі мяне да й пажалі
І ў снапочкі павязалі —
Така доля мая!

Ці я ў бацькі не дзяціна была?
Ці я ў бацькі не хароша была?
Ўзялі мяне замуж далі,
Свет галоўцы завязалі —
Така доля мая!

351. Ой, гула пчолка, гула каля новага двара,
Ой, то не пчолка гула, то дзеванька плакала,
Ад вянца прыехаўшы, матулі да ног упаўшы:
— Матулю мая родна, развяжы белы ручкі,
Развяжы белы ручкі — размяняй пярсцёначкі.
— Ой, дзіця маё роднае, я рада таляр даці,
Я рада таляр даці — белы ручкі развязаці,
Каб белы ручкі развязаці, срэбны пярсцёнкі размяняці.

352. Гула пчоланька, гула край зялёнага саду,
То не пчоланька гула, то Марыся плакала,
Ад вянца прыехаўшы, Божага слова паслухаўшы.
Божага слова паслухаўшы, срэбны пярсцёнкі памяняўшы.
— Ой ты, бацьку-салавейку, развянчай мяне, маладзеньку,
Ой ты, матулю раднюсенька, развяжы ручкі бялюсенькі.
— Ой, дзіця, ты ўжо не маё, чом ты ўперш не казала,
Чом ты ўперш не казала, як срэбны пярсцёнкі мяняла?
Ой, рады быў бы развянчаці — свайму дзіцяці волю даці.

353. Раса жыта расіла, жана мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому, йдзем, мужу, дадому.*
Нашы конікі іржаць, яны есці хацяць,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Йдзем, мужу, дадому, йдзем, мужу, дадому.
— Ой, нашто нам конікі — перад намі столікі,
Яшчэ пасядзім — людзей паглядзім.
Раса жыта расіла, жана мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому, йдзем, мужу, дадому.
Нашы кароўкі рычаць, яны есці хацяць,
Йдзем, мужу, дадому, йдзем, мужу, дадому.
— Ой, нашто нам кароўкі — перад намі талеркі,
Яшчэ пасядзім — людзей паглядзім.
Раса жыта расіла, жана мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому, йдзем, мужу, дадому,
Нашы авечкі крычаць, яны есці хацяць,
Йдзем, мужу, дадому, йдзем, мужу, дадому.
— Ой, нашто нам авечкі — перад намі чарачкі,
Яшчэ пасядзім, людзей паглядзім.

Moderato 354

Ой, каб я ж гэ-та зна- ла, што за- му-жам лі- ха,
я ся-дзе- ла бы, буль-бу е- ла бы у ма- ту- лень-кі ці- ха,
я ся-дзе- ла бы, буль-бу е- ла бы у ма- ту- лень-кі ці- ха.

354. Ой, каб я ж гэта знала, што замужам ліха,
Я сядзела бы, бульбу ела бы у матуленькі ціха.*
Ой, пайду ж я да броду, да й да броду па воду,
Ой, стану я да й падумаю: ці харошага роду.
А я роду хароша да й на лічэнька прыкрасна,
Аддала ж мяне да й матуленька, дзе дружына няшчасна.
Я дружыны не баюся — пайду ў рэчку ўтаплюся,
За ліхім мужам, за разбойнічкам я навек праклянуся.
— Не тапіся, дзіця маё, бо навек душу загубіш!

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ой, чаму ж ты не прызналася, каго верна ты любіш?
— Каго верна любіла, таго век не забуду,
Наракала я на матуленьку й наракаці я буду.

355. Ой, баліць жа галованька — няма чым звязаці,
Пайшла бы я да матулі — някім наказаці.
Ой, сарву я ружы кветку ды пушчу на воду:
— Плыві, плыві, ружа-кветка, да самога броду.
Плыла, плыла ружа-кветка ды стала круціцца,
Вышла маці воду браці ды стала дзівіцца:
— Што ж ты, мая ружа-кветка, на вадзе завяла?
Відаць, доўга ты, дзіцятка, да мяне чакала.
— Выпі, маці, ту вадзіцу, што я нанасіла,
Любі, маці, таго зяця, што я палюбіла.
— Я не буду вады піці — буду разліваці,
Нялюбага таго зяця буду праклінаці.
— Не разлівай, маці, воду, бо цяжка насіці,
Не праклінай, маці, зяця, бо будзеш з ім жыці.*



356. Дожджык ідзе, дожджык ідзе на белу бярозу,
А я свайму міленькаму сарочку мярэжу.**
Сястра дала нітачок, маці — палаценца,

* Апошні радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

А я села змеражыла ад шчырага сэрца.
— Маці мая, маці мая, маці мая міла,
Не дай мяне за другога, бо я чарнабрыва.
Маці жалю задала: за рудога аддала,
То йшчэ й прыказала, каб яго шанавала.
А яго шаную, як сабаку рудую:
Памыі піць даю і пад лавай трымаю.

357. Пад гарою тычка, за гарою тычка,
Любі, любі, мой міленькі,*
Хоць я невялічка.

Хоць я невялічка, хоць я небагата —
Як настане вечарок —
Хлопцаў поўна хата.

Старшы сват, старшы сват не ўмее касіці,
Ён павінен старшу дружку
На руках насіці.

Меншы сват, меншы сват не ўмее араці
Ён павінен меншу дружку
Та й пацалаваці.

Прыйдзі, маці, падзівіся, што мы табе прывязлі:
Ні авечку, ні цяля,
А нявестку-круцяля, гоп!




* Другі і трэці радкі паўтараюцца.

358. Не плач Гандзечка, не думай —
Не павязуць цябе за Дунай.
Павязуць цябе за рэкі —
Да твайго Іванка навекі!

359. Ужо я баценьку адслужыла,
На скрыню серпік палажыла.
Цяпер не буду табе жаці,
Будзеш жэнчыкаў наймаці.
А жэнчыкі не будуць жаці —
Будуць на сонца паглядаці,
Каб сонца ніжэй і вечар бліжэй.
А як я ў цябе, баценьку, жала,
То на сонца не паглядала,
Каб сонца ніжэй ды вечар бліжэй.

360. — Ужо, Манечка, ад нас, ад нас,
Калі прыбудзеш да нас, да нас?
— А ў нядзелю ранкам, ранкам,
Прышлю вяночак сваткам, сваткам.
Прышлю вяночак для дзявочак,
Для сваіх верных кампаночак,
Што я з імі пахаджала,
Мёд-гарэлачку папівала.
Цяпер не буду пахаджаці,
Мёд-гарэлачку папіваці.

361. А ў нядзелю ранічкою там сонейка грала,
Маці дочку ў чужу старонку замуж выдавала.
У чужую старонку, між чужыя людзі:
— Ой, хто цябе, маё дзіцятка, там шкадаваць будзе?
— Ой, буду, матуленька, добра з людзьмі жыці,
Ой, то будуць, мая матуленька, усе людзі любіці.

362. Ужо дзяўчына на адходзе —
Садзіць арэхі ў гародзе:

— Расціце, арэхі, вышэй стрэхі —
Пойдзе дзяўчына на пацехі.
Расціце, арэхі, вышэй плоту —
Ідзе дзяўчына на сухоту.
Расці, арэх, развівайся —
Жыві, дзяўчына, разжывайся!

363. Ой, мой баценьку-салавейку,
Аддаеш мяне, маладзеньку.
Аддаеш мяне, не жалееш —
Супраць ночы выпраўляеш,
Мне праваднічка не даваеш.
Правядзі мяне хоць да бору,
А сам вярніся дадому.
Правядзі мяне хмызнякамі —
Сам вярніся са слёзанькамі.

364. Ой ты, баценьку-салавейку,*
Аддаеш мяне, маладзеньку.
Спраў ты мне ложа залаценька,
Купі зязюльку галасненьку.
Каб яна рана закавала,
Мяне, маладзеньку, прабуджала,
Бо ў мяне свякруха — не матуля,
У мяне свякерка — не баценька.
Рана не збудзяць ды асудзяць:
— Наша нявестка санлівая,
Да работанькі лянівая.

365. — Ой, што жа ж ты, млода дзеўчына, думаеш —
Сваю матулю, як зязюленьку, кідаеш?**
— Ой, думаю, мае дзеванькі, думаю —
Сваю матуленьку, як зязюленьку, кідаю.

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

366. Ой, пада дожджык, пада на маю расаду,
Ўжо я, маладзенька, із Лукі паеду.
Буду выязджаці — возам шараваці,
Будуць мяне, будуць суседкі жалаваці.
Ой, не так суседзі, як адзін малодчык —
Узяў за ручаньку, вывеў на гасцінчык,
Не так на гасцінчык, як на тую дарожку:
— Падай, міла, ручку, хоць цераз дарожку.
Ручанькі не дала, бо я жаль мела —
Выдана малода, кахання не знала.
Каханне, каханне, паклон табе, Божа,
А хто закахаўся — расстацца не можа.
Расстанься, расстанься, каліна з яворам,
А мы расстаемся з мілым — разгаворам.




367. Цёмна ночка, нявідная,
Дарожанька далёкая.*
— Дзе ж мы будзем начаваці,
Вячэраньку вечараці?
— У цёмным лесе, пры арэсе,
Пад сасною галасною.

368. Зялёная вішня, ці я ўдома лішня?
Аддала ж мяне мая маманька, дзе я жыці не прывыкша.*
Ой, прывыкша, не прывыкша — прывыкаці я мушу,
І старэнькаму і маленькаму дагаджаці я мушу.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Каб я мела крылы ды ўмела лятаці,
Паляцела б да роднай маманькі ў сад зялёны каваці.
Каб я мела крылы, сакаловы вочы,
Паляцела б да роднай маманькі сярод цёмнай ночы.
— Спамінай мяне, мама, з панядзелка на ўторак,
А я буду цябе спамінаці на дзень разы сорак.
Спамінай мяне, мама, добрымі славамі,
А я буду цябе спамінаці ўсюды дробнымі слязамі.
Каб я тое знала, што замужам ліха,
Расчасала б я русу касаньку і сядзела б у мамы ціха.
— Каса ж мая руса, у тры рады спляцёна,
Смутна дзяўчына, невясёла ў чужую старану вязёна.

Moderato 369

— Ой, ты ду-ма-ла, ма-я ма-ту-лю, што ні-ко-лі не збу- дзеш.

А ця-пер пла-чаш, за-бі-ва-еш-ся: ні- ко- лі не за- бу- дзеш.

369. — Ой, ты думала, мая матулю,
Што ніколі не збудзеш.
А цяпер плачаш, забіваешся:
Ніколі не забудзеш.
Ой, пойдзеш, пойдзеш, мая матулю,
За гару жыта жаці,
Ой, займеш, займеш шыроку постаць —
Некаму паджынаці.
Ой, зажнеш, зажнеш, мая матулю,
Із гары ў даліну —
Спамянеш мяне, мая матулю,
Ды сем раз на гадзіну:
— Няма дзіцяці, няма роднага —
Некаму жыта жаці.
Няма дзіцяці, няма роднага —
Некаму памагаці.

Lento 370

— А ты ду-ма- ла, ма-я ма-тань-ка, што мя-не не збу- дзеш.

А як ад- да- сі ў чу-жы-я лю- дзі, ты мя-не не за- бу- дзеш.

А як ад- да- сі ў чу-жы-я лю- лзі, ты мя-не не за- бу- дзеш.

370. А ты думала, мая матанька,
Што мяне не збудзеш.
А як аддасі ў чужыя людзі,*
Ты мяне не забудзеш.

Выйдзеш на поле, поле шырока,
Спелае жыта жаці.
Зоймеш постаць доўгу, шыроку —
Некаму паджынаці.

— Каб ты, зязюля сівая–рабая,
На лета не кавала,
Нашто ж ты ў мяне майго жэнчыка
Маладога забрала.

371. Ой, казала ж ты, мая матулю: "Не пазбуду я цябе!"
А цяпер сяджу ў кованым возе — падзівіся на мяне.**
Ой, казала ж ты, мая матулю, што не будзеш плакаці,
А цяпер сядзіш, слёзанькі роніш па сваёму дзіцяці.
Кідай, маці, дрова,
Бывай, маці, здарова!
Бывай, маці, здарова!

---

* У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

** Кожны другі радок паўтараецца, у заканчэнні няма паўтору.

372. Ой, прапала ж мая доля, прапала,
Мяне маці за п'яніцу аддала![*]
А п'яніца-нядбайніца ў карчме п'е,
А як прыйдзе дадамоньку — жонку б'е.
— Ой, прывыкай, маё дзіця, прывыкай —
Да суседа праз акенца ўцякай.
— Ой, хацела, мой баценьку, ўцячы —
Трымаецца п'янічэнька за плечы.

373. Ой, плавала тры лебедзі па вадзе.
— Ой, маеш, маеш, малада, тры бядзе:
Перша бяда — свякруха ліхая,
Другая бяда — сама маладая,
Трэцця бяда — Ванька п'яніца,
Не будзеш мецi нi раскошы, нi жыцця.

374. — Ці ты, Марыся, не ведала,
Што твой Іванка п'янічанька?
Уночы п'е, а ўдзень гуляе,
Пра работаньку не дбае.
— Ой, дзяўчынятка-кампаначкі,
Чом вы перш не сказалі,
Калі маіх ручак не звязалі,
Цяперка вы мне не кажыце —
Мае галоўкі не смуціце.

Moderato 375

Рас-це ў са- доч-ку віш- ня, я й у ма- мань-кі ліш- ня,
ад- да- ла ж мя- не ў чу-жу сто- ра- ну, дзе я жы-ці не пры-вык-ша,
ад- да- ла ж мя- не ў чу-жу сто- ра- ну, дзе я жы-ці не пры-вык-ша.

---

[*] Кожны другі радок паўтараецца.

375. Расце ў садочку вішня, я й у маманькі лішня,
Аддала ж мяне ў чужу сторану, дзе я жыці не прывыкша.*
Ой, прывыкша, не прывыкша — прывыкаці я й мушу:
І старэнькаму і маленькаму дагаджаці я й мушу.
А каб я й мела крыла, шчэ й умела лятаці,
Паляцела б да роднай маманькі сваё гора расказаці.
Спамінай мяне, мама, з панядзелка на ўторак,
А я й сваю маманьку то й на дзень разоў сорак.
Спамінай мяне, мама, усюды добрымі славамі,
А я сваю родну маманьку — усюды горкімі слязамі.

376. Бывайце здаровы, тутэйшы парогі,
Кудой пахаджалі мае белы ногі.*
Кудой пахаджалі — пахаджаць не будуць,
Каго памяталі — забываці будуць.

377. Вынось, маці, дзежку —**
Вязе сын нявестку:
Да каморы — скрыню,
Да хаты — гаспадыню,
Да сеней — рагатуху,
Да ганку — памятуху!

378. Адчыняй, маці, варота —
Вязе сын нявестку, як злота.
Адчыняй, маці, камору —
Вязе сын нявестку, як зору.
А вясёлу-вясёлу, як вясна,
А рабочу-рабочу, як лета,
А багату-багату, як восень.

379. Світае зорка, світае —
Нявестка ў вароты ўязджае:
— Расчыняй, бацэньку, вароце —
Вязем нявестку ў залоце.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

А нас ночанька застала —
Інеем косанька прыпала.
Не так інеем, як сняжком —
Утрыся, Марыся, рушнічком.

380. Вынось, маці, дзежку,
Вынось, маці, дзежку,
Прывёз сын нявестку —
Да каморы ключніцу,
Да хаты работніцу,
Да хаты работніцу.

381. Ой, дзе ты, матулю, доўга ходзіш?
Чаму з хлебам-соллю не выходзіш?
Мы штэры мілі праехалі,
Мы ўжо вячэраць захацелі.
А вы, матулю, тое знайце —
Нам вячэраці хутчэй дайце.
Як паселі прыданкі,
То й пагнуліся лаўкі,
А як наядуцца й нап'юцца —
Яшчэ больш пагнуцца!

382. Па мёд, па мёд, яры пчоланькі, да бору,
Ідзі, Колечка, са сваёй баяранькаю дадому.
— Не наракай, мая маманька, на мяне,
Што я іду са сваёй баяранькай да цябе.
— Ой, не дбаю, маё дзіцятка, не дбаю,
Тваю баяраньку да сябе прымаю.

383. Ой, цяпер ■ вяліка,
Ой, цяпер я багата,
Ой, цяпер я рада стала,
Што нявестку прыждала.
— Ой, матулю, ты, матулю,

Цяпер війся на адной ножцы,
Каб зумела дагадзіці
Маладой нявестцы.

384. Вяселлечка нам Бог даў, нам Бог даў —
Не падзівуйце, добрыя людзі, дасць Бог вам.*
Ой, да бору, яры пчоланькі, да бору —
Вязе Іванка красну Манечку дадому.
Ой, прыехаў, на падвор'ечку спыніўся,
Сваёй матулі да белых ножак скланіўся:
— Не гневайся, мая матулю, на мяне,
Што я прыехаў з жоначкаю да цябе.
— Не гневаюся, маё дзіцятка, на цябе —
Прымаю за родна дзіця да сябе.

Lento 385

— Не гне- вай ся, ма- я ма- ту- лю, на мя- не, што
я пры- вёз чу- жо- е дзі- ця да ця- бе.

385. — Не гневайся, мая матулю, на мяне,
Што я прывёз чужое дзіця да цябе.
— Ой, не дбаю, мой сыночку, не дбаю —
Чужое дзіця за сваё роднае прыймаю.
— Не гневайся, мой баценьку, на мяне,
Што я прывёз чужое дзіця да цябе.
— Ой, не дбаю, мой сыночку, не дбаю —
Чужое дзіця за сваё роднае прыймаю.
— Не гневайся, мой браточку, на мяне,
Што я прывёз чужое дзіця да сябе.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Ой, не дбаю, мой браточку, не дбаю —
Чужое дзіця за сваё роднае прыймаю.
— Не гневайся, мая сястронка, на мяне,
Што я прывёз чужое дзіця да сябе.
— Ой, не дбаю, мой браточку, не дбаю —
Чужое дзіця за сваё роднае прыймаю.

386. — Ой, сколя, сколя?
— З Арэхава.
— Чаго ж ты да нас прыехала?
Ты ж не арала, не сеяла —
А будзеш зіманьку зімаваці.
— Буду свякрусе дагаджаці —
Буду зіманьку зімаваці.



387. Прывезена зелле,
Прывезена зелле
З чужое краіны.
Дзе яго пасадзіці,
Каб можна распладзіці,

Каб можна распладзіці?
За сталом пасадзіці,
За сталом пасадзіці,
На ложку палажыці.
На ложку палажыці —
То можна распладзіці,
То можна распладзіці.




388. — Ох, міленькі мой, дружына твая —
Завёз ты мяне, дзе роду няма.
Дзе роду няма — чужая старана:
Некуды выйсці, пагаварыці.
Некуды выйсці, пагаварыці,
Сваё горачка развесяліці.
— Ох, мілая мая, няпраўда твая —
Цераз вуліцу там кума мая:
Можаш хадзіці і гаварыці,
Сваё горачка да й весяліці.
— Не раз хадзіла да й гаварыла,
Сваё горачка не развесяліла.






389. Каб я была тое знала,
Была б гадок пагуляла:
Гопкі, гопкі, голя, голя,*
Галованька бсдна моя!

А цяпер мая няволя,
Ужо спазнала таго гора:
У пячы гарыць, я хлеб мяшу,
Дзіця плача — калышу.

390. Чорная хмара на небе стала,
Дзісь наша Маня з Іванкам спала.
Яна не спала — усё гаравала,**
Ёй гэта ночка годзікам стала.

391. Яшчэ й грэчка не ўзышла, а кажуць — чарная,
Я ў свякрухі не жыла, ды кажуць — ліхая!
Трай–ляй, а–ля–ляй, а–ля–а–ля–ля!
Я ў свякрухі не жыла, ды кажуць — ліхая!
Хоць ліхая — нс ліхая, мушу дагаджаці:
Навучу сваю свякруху ў рэшаце гуляці!
Трай–ляй, а–ля–ляй, а–ля–а–ля–ля!
Навучу сваю свякруху ў рэшаце гуляці:
— Гуляй, гуляй, стара маці, тут на адным месцы,
Цяпер знай: дагаджай маладой нявестцы!
Трай–ляй, а–ля–ляй, а–ля–а–ля–ля!
Цяпер знай: дагаджай маладой нявестцы!

---

* У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

** Апошнія два радкі паўтараюцца.

392. А ў нашага свата —
Вясёлая хата:
Бычкі граюць у смычкі,
Падцёлкі ў свісцёлкі,
Бараны ў арганы,
А коні на гармоні.
У нашага свата —
Святліца, не хата.
Печ яго бялёная,
Чэсць яго ўхвалёная!

Adagio 393

Да-до-му, сва-точ-кі, да-до-му! Па- е- лі ко- ні-
кі са- ло- му, па- е- лі ко- ні- кі да жмень-
кі— па- е- дуць сва-точ- кі без дзеў- кі!

393. Дадому, сваточкі, дадому!
Паелі конікі салому,
Паелі конікі да жменькі —
Паедуць сваточкі без дзеўкі!

394. А ўжо ж мы паедземо,
Цябе тут пакінемо,
На чужой староначчы,
Людской размованьцы.

Allegretto 395

Бы-вай- це зда- ро- вы, бы- вай- це зда- ро- вы,




395. Бывайце здаровы,
Бывайце здаровы,
Тутэйшыя людзі.
Просім не судзіці,
Як тут нас не будзе,
Як тут нас не будзе.

396. Ехала маці гукаючы,
Свайго дзіцяці шукаючы:
— Як у каморы, то адзавіся,
Як у няволі, то адклікніся.
Як у каморы, то выпусцім,
Як у няволі, то выкупім.*

397. Ой, у нядзелю рана Манечка воду брала,
Манечка воду брала і ў свой бок паглядала:
— Едзь, едзь, едзь, матуленька, бо я тут ні з кім не знаюся,
Я тут ні з кім не знаюся і кожнаму кланяюся:
І старому, і малому, і свякеркаві сваёму.




* Апошні радок паўтараецца.

398. Край бору дарожка, край бору.
Просіцца Манечка дадому:
— Завязі, Ванечка, дзе ты ўзяў,
Каб мой тут вяночак да не звяў.
— Не бойся, Манечка, не звяне —
Ёсць у мяне матуля, пагляне.
Прынясе вадзіцы з крыніцы,
Намочыць вяночка ў вадзіцы:
— Намакай, вяночку, намакай,
Прывыкай, Манечка, прывыкай.
Намакай, вяночку, у вадзе —
Прывыкай, Манечка, ка ўсёй бядзе.




399. Ой, выйду я да й на ґуланьку,
Ой, я гляну да й на зораньку:
— Зара мая найяснюсенька,
Доля мая нешчаслівая.
Салавейка, дробны пташанька,
Ці не бываў на маёй старане,
Ці не плача ойцец-мацi па мне?
— Плача-плача, забіваецца —
Цябе ў госці дажыдаецца.
А матуля, абед варачы,
А татулё, на пячэ лежачы,
А сястронка, красёнка ткучы,
А браточак, конікі пасучы.









400. Зялёны барвіночак да й па бару паслаўся,
А мой міленькі–чорнабрывенькі да й праз людзі кланяўся.*
Каб я тое знала, што замужам гора,
Да й сядзела бы, бульбу ела бы ў мамуленькі гола.
Каб я тое знала, што замужам ліха,
Да й сядзела бы, часнок ела бы ў мамуленькі ціха.
Пайду да каморы — ані хлеба, ані солі,
Уцякаць буду, праклінаць буду няшчасную долю.
Пайду да касцёла, стану за дзвярыма —
Усе моляцца, усе моляцца, а я плачу слязіма.
Спатыкай мяне, мама, з вялікімі пірагамі,
А я цябе, родна маманька, — з горкімі слязамі.

401. Вясёла бяседачка, дзе муж з жонкай п'ець,
Бо ён жа ёй чарачку поўную даець.
Просіць выпіць мілую чарачку адну,
Каб забыць пра родную сваю старану.
— Не буду я, міленькі, поўнай выпіваць —
Не буду староначкі сваёй забываць:
Бо ў роднай староначцы птушачкі пяюць,
А ў чужой староначцы часта слёзы льюць.

402. На дварэ калодзезь і вядро —
Дзесь тас Валюні не відно.
Як па воду паслалі — вярніце,
У камору схавалі — пакажыце!

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Бо яе матанька на дварэ —
Няхай падзівіцца на яе.
Уся яе радзіна з'ехалася,
Дзівіцца на яе — няма яе тут!
— Матуленька родная, вітаю!
А цябе, радзіна, пытаю:
Я жыву тут добра, прывольна,
Будзь ты, мамусенька, здарова!

Allegretto 403

Пад я-лі-на-ю, пад зя-лё-на-ю сі-вы конь ра-зы-граў- ся,

Ма-ла-ды хла-пец, ма-ла-дзю-сень-кі, на вай-ну вы-бі-раў- ся,

Ма-ла-ды хла-пец, ма-ла-дзю-сень-кі, на вай-ну вы-бі-раў- ся.

403. Пад ялінаю, пад зялёнаю сівы конь разыграўся,
Малады хлапец, маладзюсенькі, на вайну выбіраўся.*
Як выбіраўся, так выкланяўся айцу і матульцы
І той дзяўчыне маладзюсенькай, прышлюблёнай Ганульцы.
Выехаў хлапец за вароцечка і з каня нахіліўся,
А за ім, за ім старая маці: "Ой, мой сыну, вярніся!"
— Ой, не вярнуся, мая матулю, паеду на Ўкраіну,
Мой конь вараны, я сам малады, я ў войску не згіну,
А як не вярнуся, мая матулю, як я ў войску загіну,
То прымі, прымі сэрца–дзяўчыну за сваю родную дзяціну.

404. Як возьмуць мяне ў рэкруты,
Астрыгуць, абрыюць жоўты кудзеркі.
Не плачце, бацьку, маці, бо ветэ** старыя,
Няхай плача жонка маладая і дзеці малыя.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Ветэ — вы (мясцовая гаворка).

405. Сталася ў нас навіна —
Клічуць войта да двара.
Будуць яму талкаваці,
Каго ў рэкруты забраці.
Бо, узяўшы багача,
Багач выкупіцца,
А ўзяўшы дварака,
Дварак выпрасіцца.
А дзе пяць — там не ўзяць,
Дзе чатыры — не бяры.
Трэба ўзяці такога,
Што не мае нікога:
Ані бацькі, ані маці —
Блукаецца, як цяляце.
Мае сястру адну,
Але і тая ў двары
Служыць у пана.
Сястра пра тое пачула,
Свайму брату шапнула:
— Уцякай, браце, у цёмны лес,
Войт упіўся, як той пес,
Ідзе дзесятнікам казаці,
Табе дыбы каваці.
— Ціха, сястронка, не плач,
Свайго здароўя не трацЬ.
За тры гады вярнуся —
Палкоўніка даслужуся.

406. Ішла, ішла чорна хмара, а за ёю сіня,
Парадзіла бедна ўдава салдацкага сына.
Парадзіла яна ёга сярод цёмнай ночкі,
Дала ж ёму бела лічка, шчэ й чорныя вочкі.
Не паспела яна ж ёга на ручанькі ўзяці,
Запісала ўся грамада ў рэкруты аддаці.
— Няхай пішуць, няхай бяруць тыя п'янічэнькі,
Што дзень, што ноч п'юць, гуляюць, а дому не дбаюць.
У канцы грэблі стаяць вербы, а ўсе зеляненькі,
Ад'язджае ўжо з Койлаў рэкрут маладзенькі.
Прыкрапляйце дарожаньку, кабы не курыла,
Разважайце матуленьку, кабы не тужыла.
Прыкрапляюць дарожаньку, такі яна курыць,

Разважаюць матуленьку, такі яна тужыць:
— Ой, калі ж ты, мой сыночку, прыедзеш да мяне ў госці?
— Як вырасце ў вашых сенях трава на памосце.
Расла, расла травічэнька, стала пасыхаці,
Ждала, ждала маці сына та й стала плакаці.
Зляцеў певень на вароты, крыкнуў: "Кукарэку!
Не пабачыш, маці, сына ад сёння да веку".
Каб я была зязюлею ды й умела лятаці,
Заляцела б на Украіну і сказала б сыну:
— Падай, падай, мой сыночку, хоць правую руку.
— Ой, рады б я, мая маці, абедзве падаці —
Труна нова, ясянёва, не магу ўстаці.
Труна нова, ясянёва плечы мне сціскае,
Сыра зямля, рыжы пясок вочы засыпаюць.

407. Каліна–маліна чырвона ды горка,
Чаго заплакала салдацкая жонка?
Чаго заплакала, чаго зарыдала,
Што свайго мілага ў войска аддала.
Аддала ў войска, у горад Варшаву,
Дзе б'юць барабаны, голасна выбіваюць,
Там майго мілога ў войска прымаюць.
Прымаюць жанатога, прымаюць халастога,
Шчэ й прымуць такога, што няма нікога.
Па айцоўскім сыне бацька, маці плача,
А па сіраціне чорны воран крача.
Па айцоўскім сыне плача брат, сястрыца,
А па сіраціне — красная дзявіца.

408. Прыстань, Юрка, да вербунку —
Будзеш есці з маслам булку,
Будзеш, як панок, хадзіці —
Булавою вошы біці.

409. Ляцелі сокалы з чужое староны,
Заплакалі маладыя хлопцы, стоячы ў прыёме.*

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Яны заплакалі, яны затужылі:
— Ой, чаго ж мы, маладыя хлопцы, у цара заслужылі?
Заслужылі шаблі, коні вараныя,
Ой, як сядзем, сядзем і паедзем, хлопцы маладыя!
Па бацькоўскім сыне ўся радзіна плача,
А па мне жа, беднай сіраціне, чорны воран крача.

410. Там у лузе, у лузе татаранька цікоча.
Знаці, знаці міленькага, што вячэраці хоча.
Вячэраці, вячэраці — на белу пасцель спаці:
— Збудзі, збудзі, міленькая, як будзе світаці.
А ўжо куры пелі, а ўжо куры пелі — стала світаці:
— Уставай, уставай, мой міленькі, час каня сядлаці.
Вывеў, вывеў коніка ды ўсклаў сядзельца,
Стала, стала й заплакала — ужо паедзе сардэнька,
Сем лет, сем лет на ваенку ў чужую старонку.
Прышлі, прышлі два лісточкі, лісточкі драбненькі:
Аднаго такога, аднаго такога, каб мяне суцяшаці,
А другога такога, другога такога, каб я перастала плакаці.

411. Кавала зязюля на Спаса раненька,
Кавала-плакала шчэ й так жаласненька.
А то не зязюля, то родная маці —
Яна выпраўляла сына ў салдаты.
— Я думала, сынку, цябе ажаніці,
А ты пойдзеш, сынку, у войска служыці.
Я думала, сынку, нявесткі прыждаці,
А ты пойдзеш, сынку, на фронт ваяваці.
— Каб ты, мама, знала, якое мне гора,
То ты пераплыла б праз сіняе мора.
Каб ты, мама, знала, якая мне беда,
То ты б мне прыслала кавалачак хлеба.
Кавалачак хлеба і крышынку солі,
Ой, Божа мой, Божа, у якой я няволі.

412. Бура лесу навярнула,
Адну сасну пакінула.

А пад тою сасанкою
Ляжыць жаўнер, як маляваны —
На галоўцы аж тры раны,
А ў сардэньку аж чатыры.
Прыляцелі тры галубкі:
Адна села ўскрай галоўкі,
Друга села ўскрай ножак,
Трэця села ўскрай сэрцайка.
Ускрай галоўкі — то матулька,
Ускрай сэрцайка — то міленька,
А ўскрай ножак — то сястронка.
Маці плача, наракае:
— На каго ты пакідаеш?
Сястра плача, наракае:
— На каго ты пакідаеш?
Міла плача, наракае:
— На каго ты пакідаеш?
— Пакідаю табе, маці, два валы сівенькі,
Пакідаю табе, сёстра, вянок залаценькі,
Пакідаю табе, міла, два сынкі даражэнькі —
Будзеш жа іх гадаваці і пацехі дажыдаці.

413. Блаславіла маці на вайну —
Сам добра знаю, што на смерць іду.
Ляцелі кулі цераз гару
І прастрэлілі грудзі белыя.
Палілася кроў рэчкаю
Аж да самага да Дунаю.
А ў тым Дунаю мутная вада —
Там плакала маці мая:
— Усе салдаты з войска ідуць,
Майго сыночка партрэт нясуць.
— На табе, маці, гэты партрэт —
Твайго сыночка на свеце нет.
Ляцелі кулі цераз гару
І прастрэлілі грудзі белыя.
Палілася кроў рэчкаю
Аж да самага да Дунаю.
А ў тым Дунаю мутная вада —
Там плакала маці мая.

414. Там цераз поле, цераз шырока,
Там ішло войска вельмі вяліка.
Я папярэдзе "Памагай" дала:
— Ці не бачылі майго брата? — спытала.
— А твой брацічак два войска пабіў,
А на трэцім галоўку схіліў.
Ржалі конікі, яго везучы,
Плакалі таварышы, за ім ідучы.
Ржалі конікі вельмі галасно,
Плакалі таварышы вельмі жаласно.

415. Ой, мела маці аднаго сына
І апошняга ўзялі ў салдаты.
Старша сястронка каня вывела,
А сярэдня каня сядлала,
А найменша праўды пытала:
— Скажы, братачку, ўсю праўдачку,
Калі прысдзеш у гасціначку?
— Вазьмі, сястронка, ячменьку жменьку
І пасей, пасей на тым каменьку:
Як той ячмень на каменю зыйдзе,
Тады твой брацік у госці прыйдзе.
Узяла сястронка ячменьку жменьку
І пасеяла на тым каменьку.
Ждала-чакала — ячмень не зыйшоў,
Іхні браточак з вайны не прыйшоў.

416. Там у полі вярба, пад вярбою вада,
Там дзяўчына прыкрасная, ой, там воданьку брала.*
Дзеўка ваду бярэ, казак коні вядзе,
Пытаецца дзяўчынанькі: "Куды дарожанька вядзе?"
— І сюды яна вядзе, і туды яна вядзе,
Аж да тае крынічанькі, там, дзе войска стаяла.
А там старшы стаяў, дробны лісцік пісаў,
Маладзенькіх навабранчыкаў па шарэнгах расстаўляў.
— Ой вы, хлопцы мае, навабранцы мае,
Заспявайце такую песеньку, каб спадабалася мне.

* Кожны другі радок паўтараецца.

Хлопцы радам сталі, громкім голасам спелі,
Дробненькімі слёзанькамі ўсю дарожку скрапілі.

417. Ішла, ішла чорна хмара, а за ёю сіня,
Парадзіла бедна ўдава салдацкага сына.*
Не паспела ж яна ёга на ручанькі ўзяці —
Запісала ўся грамада ў рэкруты аддаці.
— Няхай пішуць, няхай беруць тую п'янічэньку,
Штодзень піе, ноч гуляе, дома не бывае.
Трэці певень на варотах сказаў: "Кукарэку!
Не пабачыш, маці, сына адныне давеку".

Allegretto 418

Вы- шла, вы-шла чор- на хма-ра, а за ё- ю сі- ня.
Па- ра- дзі- ла бед- на ўдо- ва сал- дац- ка- га сы- на.
Па- ра- дзі- ла бед- на ўдо- ва сал- дац- ка- га сы- на.

418. Вышла, вышла чорна хмара, а за ёю сіня.
Парадзіла бедна ўдова салдацкага сына.*
Не паспела яна ёга на ручанькі ўзяці —
Запісала ўся грамада ў рэкруты аддаці.
— Няхай бяруць, няхай пішуць тыя п'янічэнькі,
Штодзень, штоноч п'юць-гуляюць, а ўдому не дбаюць.
А калі ж ты, мой сыночку, прыедзеш у госці?
— Як вырасце травічэнька ў сенях на памосце.
Расла-расла травічэнька, стала пасыхаці,
Ждала-ждала маці сына, то й стала плакаці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Зляцеў певень на ганачак, крыкнуў: "Кукарэку!
Не ўбачыш, маці, сына адныне давеку".

419. На гародзе вярба, пад вярбою вада,
Там дзяўчына прыкрасная, ой, да вадзіцу брала
Дзеўка ваду бярэ, хлопец каня вядзе,
Пытаецца дзяўчынанькі: "Куды дарожанька ідзе?"
— І сюды яна ідзе, і туды яна ідзе,
Аж да тае крынічэнькі, там, дзе войска стаяла.
А там старшы стаяў, дробны лісты пісаў,
Маладзенькіх навабранчыкаў па шарэнгах расстаўляў.
— Ах вы, хлопцы мае, навабранцы мае,
Заспявайце тую песеньку, што падабаецца мне.
Хлопцы радом сталі, громка песню заспявалі,
Дробненькімі слёзанькамі дарожаньку скрапілі.
А там жоны ідуць, малы дзеткі нясуць,
А за намі, халастымі, красны дзеўкі ідуць.

420. — Каліна–маліна, чом не расцвітаеш?
Малада дзяўчына, што сядзіш–думаеш?*
— Як мне не сядзеці, як мне не думаці:
Палюбіла хлопца — бяруць у салдаты.
Палюбіла хлопца, хлопца й маладога,
Хто ж мяне прыгорне да сэрцайка свога?
Не прыгорне бацька, ані родна маці,
Той мяне прыгорне, хто думае ўзяці.

Moderato 421

Ха- це- ла ма- ці сы- на а- жа- ні- ці,
а ня- вес- тач- кі у- до- ма не ме- ці,

* Кожны другі радок паўтараецца.




421. Хацела маці сына ажаніці,
А нявестачкі удома не меці.*
Паслала маці сына ў салдаты,
А нявестачку лянок рваці.
— Ой, рві жа, рві жа то й не йдзі дадому,
Як не вырвеш усёга — станься тапалёю.
Ой, рвала, рвала то й шчэ й не дарвала,
А як не дарвала, то й заначавала,
А як не дарвала — тапалінай стала.
Прыйшоў сын з войска, пытаецца маці:
— Дзе ж мая мілая, што няма ў хаце?
— А твая мілая пайшла да радзіны,
А мне пакінула малую дзяціну.
— Ой, мама, мама, што то за навіна,
Што й на нашым полі расце тапаліна?
— Ой, сыну, сыну, навастры сякеру —
Паедзем зрубаем тую тапаліну.
За першым ударам лісце зашумела,
За другім ударам то й загаманіла.
За другім ударам то й загаманіла:
— Не рубай ты мяне, бо я твая міла.
— Як мая ты міла, то йдзі дадому —
Даволі тут стаяці ў полі пустому.
— Ой, як умрэ маці цераз тры гадзіны,
Тады я вярнуся да свае дзяціны.

422. Пакуль каліна не цвіла, то не ламай каліны,
Пакуль ты ў арміі не быў, то не кахай дзяўчыны.
Я не забуду вечар той, як мы былі з табою,**
Я на расстанне раз у раз махала хусціною.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У першай і другой страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Прыйшоў да мяне Васілёк і хоча замуж браці,
А ён гадамі малады — бяруць яго ў салдаты.
Прыйшоў да мяне Васілёк і стаў ён каля ложка:
— Бывай жа, мілая мая, бяруць мяне ў войска.
— Як я ў армію ішоў, то ты была дзяўчына,
Як я жа ж з арміі прыйшоў, то ты калышаш сына!

423. Ой, задумаў, зажурыў,*
Што малады й ажаніў.
Не па мыслі жонку ўзяў,
А я з ёю жыць не стаў.
А мне з ёю не жыці —
Пайду ў войска служыці.
Пайду ў войска, у чужы край,
Я ў чужую старану.
Я ў чужую старану,
Як той камень у ваду.
Няхай камень паляжыць,
Як мне цяжка ў войску жыць.
Ой, найму я падводу,
Сам прыеду да роду.
Пад'язджаю пад сяло
І мне стала весяло.
Пад'язджаю аж пад двор —
Аж выходзіць бацька мой,
Аж выходзіць і маці
Свайго сына вітаці.
— Ой, мой сыну ражоны,
Дзе твой вянок вянчоны?
— Я вянчаўся пры палку —
Востра шабля на баку.

424. Ой, чыя то хата стаіць пры даліне?
Чыя то дзяўчына шые на машыне?**
А машына шые, а дзяўчына плача:

---

* Кожны радок паўтарасцца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

— Вярніся, вярніся, малады казача!
— А я й не вярнуся, бо й няма да чога,
Быў я ў цябе ўчора — ты мела другога.
Ты мела другога, а шчэ й не такога —
Палюбіла хлопца, хлопца маладога.
А ў нядзелю рана, рана-ранюсенька
Кавала зязюля сіва-сівюсенька.
А то не зязюля, то старая маці
Адпраўляла сына, сына ў салдаты.
— Я й думала, сынку, на вясне жаніці,
А ты ідзеш, сынку, да войска служыці.
Я й думала, сынку, нявестанькі браці,
А ты ідзеш, сынку, у свет вандраваці.

425. — Каліна-маліна, чом не зелянееш?
Ці сушы баішся, ці луга жалееш?
— Сушы не баюся, луга не жалею,
Дзе я пасаджона, там я зелянею.
— Улане, улане, чом не весялішся?
Ці айца жалееш, ці вайны баішся?
— Айца не жалею, вайны не баюся,
Дзяўчынаньку маю — кідаці думаю.
Дзяўчына чарнява ўсю ночку не спала,
Усю ночку не спала — лісточкі пісала.
Пісала лісточкі на белай паперы,
Адсылала лісты ў чацвер па вячэры.
— Ляціце, лісточкі, да майго ўлана,
Да майго ўлана, што [redacted] верна кахала:
"Улане, улане, чакае цябе навіна:
Ужо ж твая дзяўчына парадзіла сына.
Каб цябе забрала ліхая гадзіна,
Як мяне зраклася ўся мая радзіна.
Зрокся мяне бацька і зраклася маці —
Праз цябе, улане, мушу пагібаці".
— Дзяўчына, дзяўчына, дурны розум маеш:
Чом ты каля сябе дахтароў не маеш?
— Дохтар маладзенькі лечыці не знае,
А я маладзенька ледзь-ледзь жывая.
— Дзяўчына-дзяўчына, Гасподзь Бог з табою,
Як аздараўееш, вазьму шлюб з табою.




426. Зялёна ляшчына арэхі радзіла,
Малада дзяўчына жаўнера любіла.
Жаўнера любіла, жаўнера кахала,
Яна да жаўнера дробны лісты слала.
Жаўнер, рана ўстаўшы, той ліст прачытаўшы,
Цяжка ўздыхнуўшы, горка заплакаўшы:
— Пане паручніку, адпусці дадому:
Пакінуў дзяўчыну — сам не знаю каму.
— Адпушчу я цябе, але ж не самога —
Асядлаю табе каня варанога.
Каня варанога яшчэ й нова сядзельца —
То і развесялі дзеўчынае сэрца.

427. — Як я ехаў кала млына, то ты ногі мыла,
Ой, чуў жа ж я, дзяўчынанька, што ты гаварыла.*
— Не я гэта гаварыла — гаварылі людзі,
Што з нашага каханечка нічога не будзе.
— Ой, пажану я сівы волы на крутыя горы,
Ой, распушчу кучарыкі на чорныя бровы.
Няхай мае кучарыкі вецер развявае —
Няхай мая дзяўчынанька шчэ з год пагуляе,
Няхай мая дзяўчынанька шчэ з год пагуляе.
Гуляй, гуляй, дзяўчынанька, ты мая будзеш,
Ой, чуў жа ж я цераз людзі, як ты мяне судзіш.
— Як я цябе асудзіла — судзі мяне, Божа,
Як я цябе не любіла — карай мяне, Божа.
— Дзяўчынанька, дзяўчынанька, што з табой зрабіці?
Та й на каго цябе, дзяўчынанька, цябе паручыці?
Паручаю, дзяўчынанька, таварышу свайму,

* Кожны другі радок паўтараецца.

А сам еду, ад'язджаю ў далёку дарогу.
Мінуў годзік, мінуў другі — хлопец прыязджае,
Та й да свае дзяўчынанькі на двор заязджае.
Заязджае на падворак, уходзіць дахаты —
Малэ дзіце, малюсенькe рачкуе па хаце.
— Таварышу, таварышу, чыя то дзяціна?
— Ой, то тае дзяўчынанькі, што цябе любіла.
— Лепей было з каня ўпасці, галоўку пабіці,
Чым табе, таварышу, дзяўчыну паручыці,
Чым табе, таварышу, дзяўчыну паручыці.
Лепей было з каня ўпасці — насмерць забіціся,
Чым з табою, дзяўчынанька, цяпер жаніціся.
— Ой, не тужы, мой міленькі, не вяліка страта:
За год, за два, за паўтора будзе клікаць: "Тата!"
Ой, не тужы, мой міленькі, не вяліка туга:
За год, за два, за чатыры будзе нам паслуга.

Moderato 428

Ад- на га- ра вы- со- ка- я, а дру- га- я кру- та,
дур- на дзеў- ка, без ро- зу- му, што лю- біць рэк- ру- та,
дур- на дзеў- ка, без ро- зу- му, што лю- біць рэк- ру- та.

428. Адна гара высокая, а другая крута,
Дурна дзеўка, без розуму, што любіць рэкрута.*
Рэкрут ходзіць, рэкрут любіць, рэкрута забіраюць,
Дурна дзеўка, без розуму, з жалю ўмлявае.
— Таварышу, таварышу, глядзі мае дзеўкі,
Як я з войска павярнуся — нап'емся гарэлкі.
Хлопец з войска вяртаецца, ідзе ён дахаты —
Мала дзіця, малюсенька рачкуе па хаце.

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Воліў бы я з каня ўпасці, галованьку пабіці,
Як з табою, таварышу, гарэлачку піці.
Воліў бы я з каня ўпасці ды й насмерць забіцца,
Чым з табою, дзяўчынанька, цяпер ажаніцца!
— Таварышу, таварышу, не вялікая туга:
За год, за два, за чатыры будзе вам прыслуга.
Таварышу, таварышу, не вялікая страта:
За год, за два, за чатыры будзе клікаці: "Тата!"

429. — Здрастуй, маці, здрастуй, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?*
— Рада, сынку, рада, што з войска вярнуўся,
Толькі я й нярада, што ў войску жаніўся.
Пасадзіла сына, дала піці–есці,
А чужой нявестцы — на парозе сесці.
Сама выйшла з хаты, доўга забавілась,
Маладая пара ўзяла і атруцілась.
— Знала маці, знала, як нас частаваці,
Цяпер будзе знаці, як нас пахаваці.
Пахавала сына ў вішнёвым садочку,
А чужу нявестку ў гародзе, у куточку.
Садзіць на сыночку чырвону каліну,
Па чужой нявестцы — горку чарамшыну.
Чырвона каліна стала пасыхаці,
Горка чарамшына стала расцвітаці.

Moderato 430

Ой, не дай Бо-жа смер- ці, як ў чу-жым кра- і ўмер- ці:
ні- хто не прый-дзе, не ад- ве- да- е той сал-дац- ка- е смер- ці,
ні- хто не прый-дзе, не ад- ве- да- е той сал-дац- ка- е смер- ці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

430. Ой, не дай Божа смерці, як ў чужым краі ўмерці:
Ніхто не прыйдзе, не адведае той салдацкае смерці.*
Сівы воран прылятае, тое смерці аглядае —
Бела лічэнька то й абірае, адно косці пакідае.

Allegretto 431

— Ча-му, мі- лы, ко- ні- ка сяд- ла- еш? Ку-ды, ку- ды,

мі- лы, ад'-яз-джа-еш? Ку-ды, ку- ды, мі- лы, ад'-яз-джа- еш?

431. — Чаму, мілы, коніка сядлаеш?
Куды, куды, мілы, ад'язджаеш?*
— Бывай, бывай, міла, здарова,
Я — кавалер, а ты — бедна ўдова.
— Не едзь, не едзь, мой мілы, ад мяне,
А хто ж табе сняданне згатуе?
— У цёмным лесе зязюленька куе,
То яна мне і сняданне згатуе.
— Не едзь, не едзь, мой мілы, ад мяне,
А хто ж табе кашулю вымые?
— У чыстым полі дробны дожджык хвошча,
То ён маю кашулю спалошча.
— Не едзь, не едзь, мой мілы, ад мяне,
А хто ж табе пасцельку пасцеле?
— На балоце трава вылягае —
Казаку пасцелька мяккая.
— Не едзь, не едзь, мой мілы, мостам,
Бо зарасла дарожка хваростам.
— Ёсць у мяне конік вараненькі —
Пераскочыць той хварост драбненькі.
— Не едзь, не едзь, мілы, барамі,
Бо зарасла дарожка чарамі.
— Ёсць у мяне konічак буланы —
Пераскочыць цераз тыя чары–чараваны.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.










432. Свеціць ясны месяц шчэ й светлая зара*
На тое падвор'е, дзе бедная ўдава.
Была ў яе дочка прыгожа, малада,
Яна палюбіла красаўца–казака.
Адходзіў ён да войска, дзяўчыне наказаў:
— Каб твайго лічэнька ніхто не цалаваў!
Дурань пацалуе — на землю выплюне,
А тваё лічэнька дарага каштуе!






433. — Каліна–маліна, чом не зелянеш,
Ці сушы баішся, ці лугу жалееш?

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Сушы не баюся, лугу не жалею,
Як я расла на градцы, то й зелянела.
— Казача, казача, чом не весялееш,
Ці вайны баішся, ці айца жалееш?
— Вайны не баюся, айца не жалею,
Палюбіў дзяўчыну — цяпер па ёй млею.
— Казача, казача, дзе ж ты розум маеш,
Пашто ў чужым краі дзяўчыну кахаеш?
— Казача, казача, дзяўчына хваруе,
Казача, казача, дзяўчына хваруе!
— Запрагайце коня, коня варанога —
Я сяду й паеду да кахання свога.
Зайшоў я ў святліцу — дзяўчына хваруе,
Узяў за белы рукі і твар цалую:
— Дзяўчына, дзяўчына, дзе ж ты розум маеш,
Чом ты каля сябе доктара не маеш?
— Доктар маладзенькі лечыці не ўмее,
А я, маладая, ледзьве што жывая.
— Дзяўчына, дзяўчына, Гасподзь Бог з табою,
Як ты ачуняеш, вазьму шлюб з табою.
— Бадай цябе ўзяла ліхая гадзіна,
Як мяне зраклася ўся мая радзіна:
Зрокся айцец, выраклася маці —
Праз цябе, казача, мушу паміраці.
— Дзяўчына, дзяўчына, ты — чарненька галка,
Дзе я пахілюся, мне — друга каханка,
Дзе я пахілюся, мне — друга каханка.
— Казача, казача, ты сівенькі орлік,
Хто ж цябе без мяне да сябе прыгорне?

434. І шуміць, і гудзе: дробны дождждык ідзе,
А хто мяне, маладзеньку, да й дадому завядзе?*
Аказаўся казак на салодкім мяду:
— Гуляй, гуляй, дзяўчынанька, я й дадому завяду.
— Не прашу я цябе, не вядзі ты мяне —
Ёсць у мяне ойцец-маці: будуць біці мяне.
Ой, не б'еце мяне і не лайце мяне,
Як я вам надаела, то аддайце мяне.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ох, аддайце мяне да й за Ясенька,
Каб я была маладая і век красненькая.
Ох, аддайце мяне за Настульчынага,
Каб я свае бела лічка ды настрынчывала.

435. Плыве човен вады повен,
То ўсё: хлюп–хлюп–хлюп–хлюп–хлюп–хлюп!
То ўсё: хлюп–хлюп–хлюп–хлюп!
То ўсё: хлюп–хлюп–хлюп!
Ідзс казак да дзяўчыны,
То ўсё: стук–стук–стук–стук–стук–стук!
То ўсё: стук–стук–стук–стук!
То ўсё: стук–стук–стук!
Не хваліся, казачэньку, кунджаравым чубам,
Кунджаравым чубам, кунджаравым чубам,
Кунджаравым чубам,
Бо прыдзецца — не мінецца
З чубам расставацца, з чубам расставацца —
У войска пойдзеш!
Не хваліся, дзяўчынанька, чырвоным маністам,
Чырвоным маністам, чырвоным маністам.
Бо прыдзецца — не мінецца*
Маніста збываці, маніста збываці —
Дзіцятка ўпаваці!

Lento 436

Я- вар над рэч- ка- ю так ніз- ка схі- ліў- ся.
З У- кра- і- ны да дзяў-чы- ны ка- зак пры- хі- ліў- ся.
З У- кра- і- ны да дзяў-чы- ны ка- зак пры- хі- ліў- ся.

---

* Тры апошнія радкі спяваюцца двойчы.

436. Явар над рэчкаю так нізка схіліўся.
З Украіны да дзяўчыны казак прыхіліўся.*
Казак ад'язджае, на каня сядае,
А дзяўчына чарнабрыва слёзы пралівае.
Слёзы пралівае, жаласліва плача:
— Вазьмі мяне з сабою, малады казача.
— Дзяўчынанька міла, а што будзеш рабіла?
— Над ракою шыракою каліну садзіла.
Будуць пташкі прылятаді цвет каліны есці,
А для мяне, маладое, прыносіць весці.
Пташкі прыляталі, цвет каліны бралі,
А для мяне, маладое, праўды не сказалі.

437. Казак ад'язджае, а дзяўчына плача:
— Куды едзеш, казача?
Казача, саколе, вазьмі мяне з сабою**
На Украіну далёку!

— Дзяўчынанька міла, што будзеш рабіці
На Украіне далёкай?
— Буду прасці–ткаці, зсляное жыта жаці,
Цябе верна кахаці.

Казак ад'язджае, а дзяўчына плача:
— Куды едзеш, казача?
Казача, саколе, вазьмі мяне з сабою
На Украіну далёку.

— Дзяўчынанька міла, што будзеш там есці
На Украіне далёкай?
— Буду хлеб з вадою, абы, сэрца, з табою
На Украіне далёкай!




* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.




438. — Каліна, каліна, чом не чырванееш:
Ці сушы баішся, ці луга жалееш?*
— Сушы не баюся, луга не жалею —
На грудочку расла, таму не чырванею.
Запрагайце каня, каня варанога —
Паеду шукаці кахання сваёга.
Еду дарогаю, стаў конь ваду піці —
Бедна галованька, не з кім гаварыці.
У новы двор уязджаю — радзіна вітае:
— Дзень добры, казача, дзяўчына ўмірае.
— Дзяўчына, дзяўчына, чом аб сабе не дбаеш,
Чом ты каля сябе доктара не маеш?
— Казача, казача, што то й гаварыці —
Сем нядзель ляжала — ніхто не даў піці.
— Дзяўчына, дзяўчына, будзь Бог з табою,
Як выздаравееш — бяру шлюб з табою.

439. Ой, там за гарою, ой, там за крутою,
Ой, там расстаецца казак з дзеўчыною.*
Казак ад'язджае, дзяўчына ўмаўляе:
— Вярніся, казача, Бог цябе скарае!
— Сам я добра знаю, што мае караці —
Чэраз варажэнькі мушу пакідаці.
Тыя варажэнькі — то блізкі суседзі,
Не даюць хадзіці, дзяўчыны любіці.
Як мы кахаліся, нас людзі не зналі,
Цяпер разышліся, як чорныя хмары.
Як мы кахаліся цераз даражэнькі,
Цяпер разышліся цераз варажэнькі.

* Кожны другі радок паўтараецца.

Andante 440

Ой, там за га- ра- мі сня- жок бе- лю- сень- кі — ха-
дзіў да дзяў- чы- ны ка- зак ма- ла- дзень- кі, ха-
дзіў і лю- біў, і ха- цеў я- е бра- ці, а
то- е дзяў- чы- ны не пус- ка- е ма- ці.

440. Ой, там за гарамі сняжок белюсенькі —
Хадзіў да дзяўчыны казак маладзенькі,
Хадзіў і любіў, і хацеў яе браці,
А тое дзяўчыны не пускае маці.
— Дазволь жа мне, маці, калодзец капаці,
Ці не прыйдзе дзяўчына вадзіцы браці?
Усе дзяўчаты ідуць вадзіцы браці,
А тое дзяўчыны не пускае маці.
— Дазволь жа мне, маці, царкоўку страіці,
Ці не прыйдзе дзяўчына Богу маліцісь?
Усе дзяўчаты ідуць Богу маліцісь,
А тое дзяўчыны не пускае маці.
— Дазволь жа мне, маці, на лаўцы ляжаці,
Ці не прыйдзе дзяўчына па мне плакаці?
Усе дзяўчаты ідуць па ім плакаці,
І тую дзяўчыну пускае маці:
— Ідзі, доню, ідзі, доўга не бавіся,
Як увойдзеш дахаты, Богу памаліся.
Дзяўчына, як ружа, на парог ступіла,
Белыя ручкі перад сабой заламіла:
— Ой, гэтыя ножкі да мяне хадзілі,
А гэтыя ручкі падаркі насілі.
Любыя губкі мяне цалавалі,

А чорныя бровы да мяне міргалі!
Пачуў тое хлопец і з лавы схапіўся —
Мілай дзяўчыне за шыю ўчапіўся.
— Падай, маці, шубу, паедзем да шлюбу!
Няхай тая слава па ўсім свеце будзе,
Няхай тая слава па ўсім гарадочку,*
Што жыва з памерлым гуляе ў садочку!

Moderato 441

Е у по-лі а-зя-рэч- ка, там плы-ва-ла ве-дзя-рэч- ка:
сас- но-вы клёп-кі, ду- бо-ва дон-ца — не цу-рай-ся ж ты, ма-е сэр-ца,
сас- но-вы клёп-кі, ду- бо-ва дон-ца — не цу-рай-ся ж ты, ма-е сэр-ца.

441. Е у полі азярэчка,
Там плывала ведзярэчка:
Сасновы клёпкі, дубова донца —**
Не цурайся ж ты, мае сэрца.

А там плывала іх двое
Трое сутак над вадою.
— Выйдзі, дзяўчына, выйдзі, кахана,
Пагаворыма з табою.

— Я бы рада выхадзіці,
З табой рэчы гаварыці.
Ляжыць мой мілы на правай ручцы,
Дык баюся разбудзіці.

---

* Два апошнія радкі паўтараюцца.

** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Казак коніка сядлае,
Яму рэчы прамаўляе:
— Рыссю, мой коню, к чыстаму полю,
Прама к ціхаму Дунаю.

А ў Дунаю — падумаю,
Падумаю, пагадаю:
Ці мне ўбіцца, ці ўтапіцца,
Ці дадому вараціцца?

Як дадому я вярнуся,
Да каго я прыгарнуся?
Жонкі не маю, дзеўка не прымае —
Пайду [illegible] гора ды ўтаплюся.

442. А ў Марысі хата на памосце, хата на памосце,
Прыехала тры казакі ў госці.
Адзін кажа: "Я Марысю люблю, я Марысю люблю".
Другі кажа: "Я Марысю вазьму, я Марысю вазьму".
Трэці кажа: "На ручнічку стану, на ручнічку стану".
Трэці кажа: "На ручнічку стану, на ручнічку стану".
Забалела Марысі галоўка, Марысі галоўка.
Захацела Марыся трузелля.*
Азваўся адзін казак: "Я маю тры коні, я маю тры коні.
Адным канём да мора даеду,
Другім канём мора пераеду, мора пераеду,
Трэцім канём трузелле дастану".
Ой, стаў казак трузелле капаці, трузелле капаці —
Стала яму зязюля каваці:
— Не капай ты, казача, трузелля, казача, трузелля,
Бо ў тваё Марысі сёння вяселле.
Скочыў казак да Марысі ў хату, да Марысі ў хату:
— Ой, зайграйце, музыканты, вальца!
Ой, зайграйце, музыканты, вальца, музыканты, вальца,
А я пайду з Марысяй у танцы.
Левай ручкай Марысеньку водзіць, Марысеньку водзіць,
Правай ручкай востру шаблю носіць.
Ой, так ціха дуброва шумела, дуброва шумела,
Цішэй Марысі галоўка зляцела.

---

* Слова незразумелае, магчыма, "чарадзейнае зелле".

443. Пад ялінаю, пад зялёнаю сівы конь разыграўся,
Малады казак, маладзюсенькі на вайну выбіраўся.*
Як выбіраўся, так і схіліўся айцу і матачцы
І той дзяўчыне маладзюсенькай, прышлюбнай Манечцы:
— Я сам паеду, можа, загіну, на ваенцы загіну,
Ой, прымі, прымі, мама, дзяўчыну за родную дзяціну.
А як вярнуся я з ваенкі, то дадому вярнуся,
Я і з ёю, сваёю дзеўчынoю, тады ажанюся.
— А ты паедзеш, мяне пакінеш, як ластаваньку ў стрэсе,
Ой, не пражыла жадна пташанька без таварыша ў лесе.
А ты паедзеш, мяне пакінеш без хлеба і без солі —
Пацяшаюцца ліхі ворагі маёй няшчаснай долі.
А ты паедзеш, а ты паедзеш сіваю кабылаю,
Мяне пакінеш, маладзенькую, з малою дзяцінаю.
А ты паедзеш, мяне пакінеш, а я, бедная, плачу,
Выплачу вочы, як удзень, так і ўночы сцяжэнькі не ўбачу.

444. Біўся казак, біўся, з дарожанькі збіўся,
Каню вараному на грыўку схіліўся.
— Перастань, дзяўчына, куколь вырываці,
Сцялі пасцель белу, паляжама спаці.
— Пасцель я пасцялю, сама я не лягу —
Казак маладзенькі адразу абмане.
Дзяўчынанька дурна пасцельку паслала —
Казак пажартаваў, дзяўчына не ўчула.
Дзяўчына ўстала, ручкі заламала:
— Ой, Божа, Божа, што я й нарабіла?
Учора я была чырвона каліна,
А дзісь я стала, як рута завяла.
— Дзяўчына, дзяўчына, на сто рублёў на мыла,
А дзвесце на піва.
Півам напівайся, мылам намывайся,
Каб краса зайграла, каб матка не пазнала.

445. У полі карчомка дылем дылявана,
Дылем дылявана, тынам тынавана.*
А ў той карчомцы ўсё п'юць чужаземцы,
П'юць яны, гуляюць, дзяўчо намаўляюць:
— Едзем, дзяўчо, з намі, з намі, казакамі,—

* Кожны другі радок паўтараецца.

Лепей табе будзе, як у роднай мамы.
Бо ў роднай мамы ўсё трэба рабіці,
А з намі, казакамі, будзеш мёд-гарэлку піці.
Дурное дзяўчо была — зараз паслухала,
Села на вазочак — з імі паехала.
Ехалі, ехалі і праз мілю сталі,
Прывязалі дзяўчо да сасны касамі.
Выкрасалі агонь са шчырага каменю,
Запалілі сосну з верху да карэння.
Сасонка палае, дзяўчына прамаўляе,
Гарыць-дагарае, дзяўчо прамаўляе:
— А хто дзеці мае няхай навучае —
На заходзе сонца ў карчму не пускае.
Бо тая карчомка — то вялікая здрада,
Не адну дзяўчыну з разуманьку звяла.
Не адну дзяўчыну, не адну і ўдову,
Не адну русую, не адну чарнаброву!

Andante 446

І-шоў сі- ра-та з по- ля, на плот па- хі- ліў- ся —
у- се лю- дзі ска- за- лі, што сі- ра- та ўпіў- ся,
у- се лю- дзі ска- за- лі, што сі- ра- та ўпіў- ся.

446. Ішоў сірата з поля, на плот пахіліўся —
Усе людзі сказалі, што сірата ўпіўся.*
Як сірата плача, то ніхто не бачыць,
Як сірата танцуе — кожнага дзівуе.
Ёсць у мяне карчомка, гаем высцілана,
Ёсць у мяне дзяўчына, як намалявана.

* Кожны другі радок паўтараецца.

А ў той карчомцы тры казакі пілі,
Тры казакі пілі — яе намовілі:
— Дзяўчына, дзяўчына, пасдзема з намі,
Будзе табе лепей, як у роднай мамы.
Бо ў роднае мамы работу рабіці,
А ў нас, казакаў, мёд-гарэлку піці.
Бо ў роднае мамы кашуля латана,
А ў нас, казакаў, шоўкам вышывана.
Дзяўчына паслухала — села і паехала,
Дзяўчына паслухала — села і паехала.
Павязлі дзяўчыну цёмнымі лясамі.
— Вярніся, дзяўчына, да бацькі, да мамы!
— Ой, я не вярнуся — няславы баюся,
Каго палюбіла, таго пільнуюся.

447. — Ой ты, казача, сівы галубочку,
Спадабаўся мне, йдучы па вадочку.*
Ой, не так па воду, як са мною, дзеўчыною,
Спадабаўся мне сваёю ўрадою.
— Ой ты, дзяўчына, сівая галубка,
Ой, сядай, сядай у мой човен хутка.
Ой, шчэ й дзяўчына ў човен не ўступіла,
Як надалася няшчасна гадзіна.
Ой, шчука-рыба хвастом вывільнула —
То й дзяўчыну з чаўна выкінула.
— Ой, ратуй, ратуй, казачэнька, ратуй,
То будзеш меці ад айца заплату.
— Ой, лепей буду ў вадзе патанаці,
Як разам з табою гора гараваці.

Allegretto 448

Не шум, ду-бе, не шум, ду-бе, зя- лё- ны бай-ра- ча. Не
здрадзь мя-не, не здрадзь мя-не, ма- ла- ды ка-за- ча.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

448. Не шум, дубе, не шум, дубе, зялёны байрача.
Не здрадзь мяне, не здрадзь мяне, малады казача.
Цячэ рэчка ад мельнічка з вішнёвага саду,
Кліча казак дзяўчынаньку сабе на параду:
— Парадзь, мая дзяўчынанька, як родная маці,
Ці мне цяпер жаніціся, ці цябе чакаці?
— А ■ табе, мой міленькі, рады не параджу,
Я з табою вечар стаю — на другога гляджу.*

Andantino 449

Ёсць у по- лі жы- та, ка-пы-та- мі збі- та —
ў чыс-тым по- лі, пры да-ро- зе, ка-за-чэнь- ка й у-бі- та,
ў чыс-тым по- лі, пры да-ро- зе, ка- за-чэнь- ка й у-бі- та.

449. Ёсць у полі жыта, капытамі збіта —
Ў чыстым полі, пры дарозе, казачэнька й убіта.**
Ой, як біта, так біта, то й насмерць забіта,
Чырвонаю кітайкаю бела лічка прыкрыта.
Ой, як прыйшла дзяўчына, то й тая чарнабрыва,
Як адкрыла кітаечку, то й загаласіла.
Ой, як прыйшла другая, то й тая не такая,
Як адкрыла кітаечку — лічэнька цалавала:
— Ой, устань, казачэньку, ой, устань, маладзенькі,
Ходзіць–блудзіць па рыночку твой конік вараненькі.
— Ой, няхай жа ён ходзіць, то й ночку заначуе,
Ён да мае дзеўчыноньki дарожаньку чус.

---

* Апошні радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

450. Ёсць у полі вярба, пад ёю вада —
Маладая маскавочка вадзіцу брала.*
І ваду брала — рэвне плакала
І на долю наракала, што злая была:
— Напішу пісьмо, напішу я слёзамі,
Пушчу з буйнымі ветрамі аж да мілага.
Ветры, ляціце, пісьмо нясіце —
Пакажэце міленькаму, як міла жыве.
Мілы на вайне, на сівым кані,
Быстра куля пападае, быстра куля пападае —
Ён галаваньку схіляе да сырой зямлі.
Сырая зямля цяжка налягла,
Рыжы пясок засыпае, трава-мурава.
А тае травы не косяць, не жнуць,
Маладое маскавочкі замуж не бяруць.

451. А у полі жыта капытамі збіта,
Пад белаю бярозаю казачок забіты.*
Ён забіт-забіты, пахаваны ў жыта —
Чырвонаю кітаенькай лічанька прыкрыта.
Як прыйшла дзяўчына з чорнымі вачыма,
Як падняла кітаеньку, то й загаласіла.
Як прыйшла другая — тая не такая,
Як падняла кітаеньку, то й пацалавала.
Як прыйшла трэцяя, то й з суседняй хаці:
— Трэба было, уражы сыну, трох нас не кахаці!
Бо хто трох кахае, той долі не мае —
Пад белаю бярозаю марна прападае.

452. — Казачок, казачок, чаго зажурыўся?
Ці валы прысталі, ці з дарогі збіўся?
— Валы не прысталі, з дарогі не збіўся —
Палюбіў дзяўчыну, то й зажурыўся.
Кахаў я дзяўчыну, што людзі не зналі,
А як жа спазналі ды да тога маці —
Праз яе, дзяўчыну, мушу паміраці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Казача, казача, Гасподзь Бог з табою,
Калі верна любіш, бяры шлюб са мною.

Moderato 453

Шу-мяць вер- бы, шу-мяць лі- пы, што я й па-са-дзі- ла,
ня- ма май-го мі- лень- ка-га, што я вер- на лю- бі- ла,
ня- ма май-го мі- лень- ка-га, што я вер- на лю- бі- ла.

453. Шумяць вербы, шумяць ліпы, што я й пасадзіла,
Няма майго міленькага, што я верна любіла.*
Няма яго, ужо і не будзе — паехаў да лесу,**
Сказаў расці дзеўчыноньцы аж на трэцю весну.
Расла, расла дзеўчынонька, расці перастала.
Ждала свайго міленькага — аж плакаці стала.
Плачуць вочы, плачуць кары — няшчасная доля:
Палюбіла салдаціка, тры вечары стоя.
Не я яго палюбіла, палюбіла маці:
Заставіла сваё дзіця ўсёй век гараваці.
Сонца сходзіць — я журуся, а заходзіць — плачу:
— Ужо ж [redacted] свайго міленькага ўвесь век не ўбачу.
Шчаслівая та бяроза, што й вырасла ў полі,
Шчаслівая та дзяўчына, што й не знае любові.

454. Ой, ляцелі гусі з далёкага краю
І змуцілі воду ў ціхім Дунаю.*—
— Ой вы, гусі, гусі, што [redacted] вас спытаю:

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Мабыць, павінна быць "у Адэсу".

Ці вы з таго краю, што я мужа маю?
Ці ён там запіўся, ці ён загуляўся,
Ці з тугі, з дакукі ў чужы край забраўся?
— Ён там не запіўся, ён не загуляўся,
Ён з тугі, з дакукі ў чужы край забраўся.

455. Гарошку, гарошку, гарошку-сардэнька,
Любіў хлопец дзеўку ды пакінуці мусіў,* —
Ой, баліць жа мне сардэнька!

Заходжу ў сені — вячэра стыне,
А мая мілая, шчэ й чарнабрывая,
Вячэраці не сядае.

Вячэраці не сядае, дробны лісты піша.
Дробны лісты піша, дзяціну калыша,
З буйным ветрам размаўляе:

— Не дзьмі, буйны вецер, на маю святліцу —
Святліца новая, дзяціна малая,
Я йшчэ маладая.

456. Мядовая чарачка, гэй, мядовая!
З кім я буду піць-гуляць, маладая?**
Як паехаў міленькі, гэй, у дарогу —
Кінуў, кінуў мілую нездарову.
Як прыехаў міленькі, гэй, з Украіны,
Чэпіў, чэпіў коніка да каліны.
Чэпіў, чэпіў коніка, гэй, да каліны,
А сам прыпаў сэрданькам да магілы.
— Ой ты, сыра зямелька, гэй, разыдзіся,
А ты, мая мілая, пакажыся!

457. Пасаджу гурочкі ў садзе над ракою,
Буду я іх паліваці дробнаю слязою.**

* У кожнай страфе другі і трэці радкі паўтараюцца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Выраслі гурочкі — чатыры лісточкі,
Не бачыла міленькага чатыры гадочкі.
Не бачыла і не буду — паехаў у Адэсу,
А мне сказаў: "Расці, дзеўка, на трэцюю весну".
Расла, расла дзеўка, расці перастала,
Ждала, ждала міленькага і плакаці стала:
— Плачце, вочы, плачце, кары, няшчасная доля —
Палюбіла міленькага цераз тры вячоры.
Не я ёга палюбіла — палюбіла маці,
Прымусіла сваю дочку век гараваці.

458. — Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?
Чаму ж ты не поўная, з беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?
— А як жа ж мне поўнай быць, з беражком роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком роўнай плыць?
Ясенька каня паіў, Касенька ваду брала.
Люлі, люлі, люлі,
Касенька ваду брала.
Касенька ваду брала, з Ясенькам размаўляла.
Люлі, люлі, люлі,
З Ясенькам размаўляла:
— Ой, Ясеньку, Ясеньку, чаму ж ты не жэнішся?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не жэнішся?
Чаму ж ты не жэнішся, на каго надзеешся?
Люлі, люлі, люлі,
На каго надзеешся?
Ці на паненкі ясныя, ці на дзеўкі красныя?
Люлі, люлі, люлі,
Ці на дзеўкі красныя?
— Да паненак хадзіць буду — Касеньку любіць буду.
Люлі, люлі, люлі,
Касеньку любіць буду.

459. Высокі дубочак, шырокі лісточак,
Не бачыла міленькага ўжо трэці дзянёчак,*
Па садочку хаджу, руту-мяту саджу.
— Выйдзі, выйдзі, мая міла, штось я табе скажу,
А я табе скажу, што людзі гавораць,
Як да цябе, маладое, кавалеры ходзяць.
— Чатыры хадзіла — няверна любіла,
Стаў пяты хадзіці, стаў верна любіці.
— Прашу не хадзіці, прашу не любіці,
Як зведае бацька, маці, будуць мяне біці.
— А я буду хадзіці і буду любіці,
Як зведаюць бацька й маці, не будуць нас біці.

460. Гарох, маці, гарох, маці, гарох не пшаніца,
Тым я яго палюбіла, што ён не п'яніца.
Гарох, маці, гарох, маці, гарох не капуста,
Тым я яго палюбіла, што ён не распуста.
Гарох, маці, гарох, маці, гарох не палова,
Тым я яго палюбіла, што ціхая мова.

461. На шалвею воду грэю, на руце не буду,
Загневаўся мой міленькі — прасіці не буду.
Загневаўся ён на мяне, я на яго двойчы:
— Не сядай ты каля мяне, бо заплюю вочы.
— Ох, мая ж ты дзяўчынанька, я ў цябе ўкахаўся,
А ты мяне асудзіла — я не спадзяваўся.
А мая ж ты дзяўчынанька, не хочаш любіці,
То дай ты мне таго зелля, каб цябе забыці.
— Расце, расце тое зелле блізка пералазу,
Як дам табе напіціся — забудзеш адразу.
— Ой, я буду зелле піці, кропелькі не ўпушчу,
Тады я цябе забуду, як вочанькі сплюшчу.




* Кожны другі радок паўтараецца.




462. Із–за гор–гары едуць мазуры.
Едзе, едзе мазурочак,
Вязе, вязе мне вяночак —
Вянок залаты.*

Прыехаў мазур да дзяўчыны ў двор,
Стук–грук у акенэчка:
— Выйдзі, выйдзі, паненэчка,
Дай каню вады.

— Я не хачу ўстаць, каню вады даць,
Бо мне маці прыказала, каб я з панам не стаяла —
Матулі баюсь.

— Матулі нс бойся — сядай на мой воз,
Мы паедзем у тыя краі, дзе харошы абычаі,
Там мы зажывём!

463. Ў чыстым полі крынічэнька,**
Там халодна вадзічэнька, о–ха–ха!

Там Раманка каня пасе,
Кацярына воду нясе, о–ха–ха!

Стаў Раманка жартаваці —
Каці воду выліваці, о–ха–ха!

---

* У кожнай страфе апошні радок паўтараецца.

** У кожным двухрадкоўі першы радок паўтараецца.

— Ты, Рамане, Раманочку,
Пусці мяне дадамочку, о–ха–ха!

Я нялродну маці маю —
Будзе біці — добра знаю, о–ха–ха!

Будзе біці шчэ й караці,
Йшчэ шэльмай абзываці, о–ха–ха!

— Дзе ты, донька, бавілася,
Аж вячэра зварылася, о–ха–ха!

— Наляцелі гусі з броду —
Памяшалі з пяском воду, о–ха–ха!

А я, млода, усё стаяла,
Пакуль вода чыста стала, о–ха–ха!

— Не лжы, доню, не лжы,
Бо стаяла і з Раманам жартавала, о–ха–ха!

— Цяпер, мамка, прызнаюся,
Што з Раманам кахаюся, о–ха–ха!

Раман чорны, я бялява,
Пабяромся — будзе пара, о–ха–ха!

Ён высокі, а я нізка —
Будзе у нас радзіна блізка, о–ха–ха!

Ён багаты, а я бедна —
Будзе пара адпаведна, о–ха–ха!
О–ха–ха!

464. А ў полю вярба, пад ею вада,
Там стаяла, воду брала дзеўчына мая.
— Дзеўчына мая, напой мне каня!
— Ой, не буду я паіці — не жана твая.
— Хаця не жана — каханка мая,
Дай жа, дай жа каню вады хаця з паўвядра.
Конік ваду п’е, капытамі б’е:
— Сцеражыся, дзеўчынонька, ён цябе заб’е.

— Хоць і намерыць, але не ўдарыць,
Права ручка, злотны персцень мяне абароніць.*

465. Ой, вярба, вербанька крутая,
Чаму з цябе лісце злятае?
— Ой, то не лісце, ой, то не лісце,
То маё сэрцайка мілага шукае.
Ой, каб жа ж я была лёгкая пташэнька
Ды змагла-зумела па свету лятаці,
То паляцела б я далёка-далёка
Свайго міленькага шукаці.
Лячу я ночку, лячу другую,
Ой, сяду я, сяду ў зялёным саду
І горка-горка заплачу.
Ой, вышла маці з новае хаці
Свайго сына разважае-пытае:
— Што ж то пташына
Па нашым садзе лятае?
— А то не пташына, а то дзяўчына
Чарнабрывая свайго мілага шукае.
Не плач, дзяўчына, не плач ядына,
Бо і няма чаго плакаці:
Ёсць таго цвету па ўсім свету —
Маеш з чаго выбіраці.

466

Moderato

Ма-ла пта-шань-ка, не-вя-лі-чань-ка па да-ро-жань-цы ска-
ча. Дур-на дзяў-чы-на, ро-зу-му ня-ма, па ка-ва-ле-рах пла-ча.
Дур-на дзяў-чы-на, ро-зу-му ня-ма, па ка-ва-ле-рах пла-ча.

---

* Апошні радок паўтараецца.

466. Мала пташанька, невялічанька па дарожаньцы скача.
Дурна дзяўчына, розуму няма, па кавалерах плача.*
— А я й не плачу, а я й не тужу — самі слёзанькі льюцца —
Ад міленькага лістаньку няма — ад нялюбага шлюцца.

467. Зялёны дубочак, шырокі лісточак,
Не бачыла кавалера ўжо трэці дзянёчак.**
Адзін — панядзелак, а другі — аўторак,
Мне думалася, маладзенькай, што дзянёчкаў сорак,
Мне здавалася, маладзенькай, што дзянёчкаў сорак.

468. Каля млына вада мутна, чаго, мая міла, смутна?
— Я й не смутна, а сярдзіта, бо я была ўночы біта.*
Біла мяне мама ўночы за Іванка чорны вочы.
Шчэ й, казала, будзе біці, каб Іванка не любіці.
Я ж Іванка так мілую: дзе забачу, там цалую.
— Ой, Іванку, сэрца мое, няма лепей, як нас двое.
А мне маці варажыла: узяла тычку да й набіла,
Шчэ й, казала, будзе біці, каб Іванка не любіці.
— Ой ты, мамка залаценька, як ты была маладзенька,
Ты хадзіла так за таткам, як я й цяпер за Іванкам.

469. Цячэ рэчка невялічка з вішнёвага саду,
Кліча хлопец дзяўчынаньку к сабе на параду,
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Кліча хлопец дзяўчынаньку к сабе на параду:
— Парадзь, парадзь, дзяўчынанька, як родная маці:
Ці мне цяпер жаніціся, ці на цябе чакаці?
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Ці мне цяпер жаніціся, ці на цябе чакаці?
— А я раджу не параджу, малады казача,
Я з табою вечар стою, а на другога гляджу,
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Я з табою вечар стою, а на другога гляджу.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Гэты радок паўтараецца.

— А бадай ты, дзяўчынанька, тагды замуж выйшла,
Як у лесе, пры дарозе, яра рутка зышла,
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Як у лесе, пры дарозе, яра рутка зышла.
— А бадай ты, казачэньку, тагды ажаніўся,
Як у млыне на камені куколь урадзіўся,
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Як у млыне на камені куколь урадзіўся.
Дзяўчынанька здагадалась — пасеяла руту:
Дожджык пайшоў, рута зышла, дзеўка замуж выйшла,
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Дожджык пайшоў, рута зышла, дзеўка замуж выйшла.
Камень сцёрся і зламаўся, куколь не ўрадзіўся —
Хлопец хадзіў, хлопец ездзіў ды й не ажаніўся,
Гэй, гэй, гэй, гэй, зялёны гай!
Хлопец хадзіў, хлопец ездзіў ды й не ажаніўся.

Lento 470

Зай-шло сон- ца за а- кон- ца, за віш- нё- вы сад —
ца- лу- ец- ца — мі- лу- ец- ца дзяў- чы- нань- ка там,
ца- лу- ец- ца — мі- лу- ец- ца дзяў- чы- нань- ка там.

470. Зайшло сонца за аконца, за вішнёвы сад —
Цалуецца-мілуецца дзяўчынанька там.*
Узяла хлопца за ручэньку то й павяла ў сад,
Пасцяліла пасцель белу, палажыла спаць.
Сама села край пасцелі, зажурылася,
Што й такая маладая і ўжо ўлюбілася.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

471. Усе хмаранькі — да грамаданькі,
А вы, зоранькі, — розна.
Ой, не гамані, мая матуля,
Што я прыходжу позна.
Ой, хоць гамані, хоць не гамані —
Ты мяне не навучыш.
Каго я люблю, верна кахаю —
Ты мяне не адвучыш.
Люблю сардэчна, пайду, канечна,
За Яся маладога.
Ясь малады, конь вараны —
Сядло залатое.

Andante 472

Ля-ціць гал- ка це- раз бал- ку, та й, ля-ту- чы, кра- ча.

Ма- ла- да- я дзяў-чы- нач- ка хо- дзіць га- ем, пла- ча.

472. Ляціць галка цераз балку,
Та й, лятучы, крача.
Маладая дзяўчыначка
Ходзіць гаем, плача.
Не пускае яе маці
Рана да крыніцы,
Ні жыта жаці,
Ні лёну збіраці
Та й на вечарніцы.
Раз увечары, пазненька,
Як маці заснула,
Выйшла слухаць салавейку,
Бо зроду не чула.
Выйшла, стала пад вярбою
Та й дзівіцца ў воду:
— Цяжка, цяжка, мама!
Важка, важка, мама,
Нашто дала ўроду?

Цяжка, цяжка, мама,
Важка, важка, мама,
Нашто дала ўроду.

473. Ляцелі гусанькі з чужога краю:
— Пастойце, гусанькі, я вас запытаю,
Ці вы з таго краю, скуль мілога маю?
Паехаў мой мілы трыма дарагамі,
А мяне пакінуў паміж варагамі.
Паехаў, паехаў, ніадкуль не відаці —
На бітым гасцінцы два слядочкі знаці:
Адзін слядочак каня варанога,
А другі слядочак майго міленькога.
Ускочу я ў садочак і вырву лісточак —
Майго мілога прыкрыю слядочак:
Каб па тым слядочку пташкі не лятали —
Каб майго мілога іншы не кахалі;
Каб па тым слядочку павы не хадзілі —
Каб майго мілога іншы не любілі.
Ужо па тым слядочку пташкі палятали —
Ужо майго мілога іншы пакахалі.
Ужо па тым слядочку павы пахадзілі —
Ужо майго мілога іншы палюбілі.

474. Адна гара высокая, а другая нізка,
Адна мілая далёка, а другая блізка.*
А ў той далёкай — валы ды каровы,
А ў той блізенькай — чорненькія бровы.
А я тую далёкую людзям падарую,
А да тое блізенькае то й сам павандрую.

475. Выйду я на горку, на горку крутую, да, гэй!
Стану, падзіўлюся на рэчку быструю.
Рыба-шчука грае — пару сабе мае, да, гэй!
А я, маладзенька, парачкі не маю.
Столькі маю пары, што вочанькі кары, да, гэй!
А мы з ім хадзілі колькі год у пары.

* Кожны другі радок паўтараецца.

Любіліся, кахаліся, як малыя дзеці, да, гэй!
Цяпер разышліся, як туман па свеце.
Туман разышоўся, дык дажджу не будзе, да, гэй!
З нашага кахання нічога не будзе.

Andante 476

Са- ла- вей- ка шча- бе- ча, а зя- зю- лень-ка ку- е.
Ой, і Бог зна- е, ой, Бог ве- да- е, дзе мой мі- лы на- чу- е,
ой, і Бог зна- е, ой, Бог ве- да- е, дзе мой мі- лы на- чу- е.

476. Славейка шчабеча, а зязюленька куе.
Ой, і Бог знае, ой, Бог ведае, дзе мой мілы начуе*
Калі ён у дарозе, памажы яму, Божа,
А калі з дзяўчынай на белым ложы, то скарай яго, Божа!
То скарай яго, Божа, вялікаю караю,
Бо я да яго шчырым сэрданькам, а ён да мяне не з праўдаю.
Стаіць у полі каліна, што з ветрам гаварыла,
Кажуць людзі, я й сама знаю, што я ёму няміла.

477. Ой, ты, сіня мора, чом так ціха йдзеш?
А ты, сівы коню, чом вады не п'еш,
На той бок Дунаю капытамі б'еш?
— Знай ты, мой міленькі, няверна жывеш —
Да другой ідучы, весела пяеш,
А мне, маладзенькай, жалю задаеш.
— Высадзь, высадзь, міленька, вішанькамі двор,
Каб да цябе не даходзіў галасочак мой.
Пасадзі, мілая, у варотах вярбу:

* Кожны другі радок паўтараецца.

Адкуль ехаць буду — да цябе зайду.
Высцель, высцель, мілая, бумагаю двор,
Каб конь не памазаў залатых падкоў.
— А дзе ж, мой мілы, бумагі набраць,
Каб табе, маладому, увесь двор услаць?

478. Шумяць вербы каля грэблі, што я іх садзіла,
Няма майго, майго міленькага, што я й палюбіла.*
Няма яго, то й не будзе — ён паехаў лесам,
Сказаў: "Расці, мая дзяўчынанька, аж на трэцю весну."
Расла дзеўка, расла красна, расці перастала —
Дажыдала свайго міленькага і плакаці стала:
— Плачце, вочы, плачце, кары, такая ваша доля —
Палюбіла свайго міленькага — была ваша воля.

479. Жыта, маці, жыта, маці, жыта, не палова,
Чом дзяўчыны не любіці, калі чарнаброва?

Ой, гай, гай, гай!
Сама я не знаю, што рабіці маю:
Ой, ці з тым, ці не з тым?
Сама не ўгадаю!**

Жыта, маці, жыта, маці, жыта, не пшаніца,
Чом дзяўчыны не любіці, калі чыпурыцца?

Голуб сівы, голуб сівы, галубка сівейша,
Бацька мілы, маці міла — дзяўчына мілейша.

480. Ой ты, дубе кунджаравы,
Шырокі ліст на табе.
Ой ты, хлопча маладжавы,***
Дурны розум пры табе.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Прыпеў, пачынаючы ад слоў "Ой, гай..." і заканчваючы словамі "Сама не ўгадаю!", паўтараецца пасля кожнай страфы.

*** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Ой ты, кляўся–прысягаўся,
Што возьмеш мяне за жану,
А цяпер мяне кідаеш
На вечную сірату.

Вышчыкну я з ружы кветку,
А з бярозанькі галля.
Не вер, дзеўка, кавалеру,
Што ён скажа для цябе.

Ён з табою п'е–гуляе,
Ён з табою танец крэша,
А як зайдзе да другое —
Як сабака той набрэша.

Allegretto 481

Ой, не спіц-ца, не ля- жыц- ца, і сон мя- не не бя- рэ.
Пай- шоў бы я да дзяў-чы- ны — сам не зна-ю, дзе жы- ве,
пай- шоў бы я да дзяў-чы- ны — сам не зна-ю, дзе жы- ве.

481. Ой, не спіцца, не ляжыцца, і сон мяне не бярэ.
Пайшоў бы я да дзяўчыны — сам не знаю, дзе жыве.*
Прасіў бы ў таварышча — няхай мяне завядзе,
А таварышч лепшы за мяне — ён дзяўчыну адаб'е.
Спусці, спусці, вярба, голле аж да самае зямлі —
Не вер, дзяўчо, кавалеру, што ён кажа: "Люблю це",
Не вер, дзяўчо, кавалеру, што ён кажа: "Вазьму це".
Ён з табою п'е–гуляе, ён з табою жартуе,
Бо ён цябе, маладое, разумоньку прабуе.
Стыдно, стыдно кавалеру па цёмных начах хадзіць,
Яшчэ табе стыдней будзе дзіцятка на руках насіць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

482. Веюць ветры, веюць буйны, аж дзярэўя гнуцца,
Ой, як баліць сэрца маё, а слёзы не льюцца.
Трачу лета ў лютым горы і канца не бачу,
Толькі тады лягчэй стане, як цішком паплачу.
Не памогуць слёзы шчасцю — сэрцу лягчэй будзе,
Як шчаслівы быў дзянёчак — павек не забудзем.
Ёсць жа людзі, што і маёй зайздросцяць долі:
Ці шчаслівa та былінка, што расце на полі?
Што на полі, што на пясках без расы на сонцы,
Цяжка жыці без мілага шчэ й у чужой старонцы.
Дзе ж ты, мілы-чарнабрывы, дзе ж ты? Адазвіся!
Як я, бедна, тут гарую, прыйдзі, падзівіся.
Паляцела б я да цябе, ды крылец не маю,
Паляцела б, каб пабачыў, як я прападаю,
Каб пабачыў, як без цябе з гора высыхаю!

483. Ой, снег белюсенькі, ой, снег белюсенькі,*
Хадзіў да дзеўчыны хлапец маладзенькі,
Хадзіў, да й хадзіў, да й хацеў яе ўзяці,
А родная маці не хоча аддаці.

— Дазволь, мая маці, крыніцу капаці:
Ці прыйдзе мая дзеўка ваду набіраці?
А ўсе дзеўкі прыйшлі ваду набіраці,
А мае дзяўчыны не пусціла маці.

— Дазволь, мая маці, карчму збудаваці,
Ці прыйдзе мая дзеўка піці й гуляці?
А ўсе дзеўкі прыйшлі піці й гуляці,
А мае дзяўчыны не пусціла маці.

— Дазволь, мая маці, на жарт паміраці,
Ці прыйдзе мая дзеўка мяне праваджаці?
А ўсе дзеўкі прыйшлі мяне праваджаці,
І маю дзяўчыну пусціла маці.

І хлопец схапіўся, за шыю ўчапіўся:
— Падай, маці, шубу — паедзем да шлюбу!
Няхай гэта слава паўсюды паўстане,
Што мёртвая пара на ручнічку стане.

---

* У кожнай страфе першы і трэці з чацвёртым радкі паўтараюцца.

Lento 484

За- шу- ме- ла ле-шчы-нонь- ка, за- шу- ме-ла леш-чы-

нонь- ка, за- пла- ка- ла дзеў- чы- нонь- ка.

484. Зашумела лешчынонька,*
Заплакала дзеўчынонька.
Заплакала, затужыла:
— Няма таго, што любіла,
Няма таго, што любіла.
Ой, як няма, то й нс будзе,
Ой, як няма, то й не будзе —
Разлучылі нас злыя людзі.
Разлучылі, разлучылі,
Каб мы ў пары не хадзілі.
Мы ж хадзілі і хадзіць будзем.
Крыкнуў старшы на мяншога:
— Сядлай коня варанога!
Мы пасдзем у чыста поле —
Там дзяўчына грэчку поле.
Грэчку поле, снапы вяжа —
Яна нам усю праўду скажа.
— Скажы, скажы, дзеўка, праўду,
Як не скажаш, другу знайду.
Пайду ў мора то й утаплюся,
Вазьму камень ды й заб'юся.

Adagio 485

Ой, за- ржы, за- ржы, мой сі- вы ко- ню, да-

* У кожным двухрадкоўі першы радок паўтараецца.




485. Ой, заржы, заржы, мой сівы коню, дарожкаю бягучы:
Ой, ці не ўчуе мая дзеўчына, з руты вяночкі ўючы?
Ой, як учула, зараз пазнала, што мой Ясенька едзе.
Ясенька едзе, мне дары вязе — вяночка руцвянога.
— Ах, мой Ясеньку, маё сэрцайка, сталася мне прыгода:
Ой, віла, віла, пару вяночкаў — забрала быстра вода.
Ой, чом не прыйшоў, чом не прыехаў, як я табе казала:
Ці ўдома не быў, ці каня не меў, ці маці не пускала?
— Ой, я ўдома быў, я й коніка меў, мяне маці пускала.
Е ў мяне сястра — да лет не дайшла, яна мне адрадзіла:
— Не едзь, браточку, не едзь, родненькі, да ўдавы на залёты,
Бо ва ўдавы ўп'ешся, з коніка схібнешся — удованька насмяецца.
Ой, едзь, браточку, ой, едзь, родненькі, да дзеўкі на залёты,
У дзеванькі ўп'ешся, на кані ўзаўешся — дзеванька таму рада.

486. Не хадзі ты, Грыцу, та й на вечарніцы,
Бо на вечарніцах дзеўкі — чараўніцы.*
О, тая дзяўчына, што чорны бровы мае, —
То е чараўніца несправядлівая.
У панядзелак рана зеллечка збірала,
А ў аўторак рана зелле паласкала,
А ў сераду рана зеллечка варыла,
А ў чацвер рана Грыца атруціла.
Як прышла пятніца — пахавалі Грыца,
А ў суботу маці дочку біла:
— Ой, нашто ж ты, шэльма, Грыца атруціла!
О, то табе, Грыцу, такая заплата —
Штыры дошкі, сажань зямлі шчэ й цёмная хата.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

487. Нашто, нашто я цябе пакахала,
Нашто, нашто я паверыла табе?*
Каб я была з табою не хадзіла,
Ні ўдзень, ні ўночы не мела б я журбы.

Тваім словам паверыць захацела —
У тваіх словах была песня чараўна.
Ты сам паехаў, а мяне пакінуў —
Цяпер навекі асталася я сама.

Ой, каб ты знаў, што я перажывала.
Не раз, не два я ўгору рукі падымала —
Цябе і долю сваю кляла.
Кляла, кляла я тыя кары вочы,
Чаго яны так рана расцвілі.
Кляла я дні, вясёлы цёмны ночы.
Ты глянь: да чаго яны нас давялі?
Без цябе, мілы, цяжка мне жыці,

Без цябе, мілы, пражыць я не магу.
Скажы, скажы, якую чараньку ўзяць,
Скажы, скажы, чым цябе прычараваць,
Скажы, скажы, чым цябе прычараваць?

Andante 488

Зе-ля-нень-кі бар-вян-цу па са-доч-ку па-слаў-ся —
дзесь мой мі-лы з У-кра-і-ны це-раз лю-дзі кла-няў-ся,
дзесь мой мі-лы з У-кра-і-ны це-раз лю-дзі кла-няў-ся.

---

* У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

488. Зеляненькі барвянцу па садочку паслаўся —
Дзесь мой мілы з Украіны цераз людзі кланяўся.*
Што па тому барвянцу — ані ягад, ані цвету,
Што па тваім кланячку, калі самога нету.
Вымецёна гулічэнька, мне па ёй не хадзіці,
Ёсць харошы кавалеры, мне іх усіх не любіці.
Аднаго палюбіла — паміж людзей пусціла,
Ой, Божа мой мілюсенькі, ой, з кім я буду жыла?

489. Ой, Божа, Божа, з такою гадзінаю —
Пракляла маці малою дзіцінаю,*
Няма таго дня, ні ночанькі,
Каб не плакалі мае кары вочанькі.
Не так пракляла, як такая нарадзілася —
Няма таго дня, каб я не журылася.
Ой, Божа, Божа, што тая любоў можа!
Нанясі, Божа, каго я люблю жа.
І нават ні ёга, як таварыша ёга —
Я распытаю пра здароўечка ёга:
— Ой, ці жывы–здаровы, ці ўміраці думае,
Ці цераз варогі мяне пакідае?

Andante 490

Ой, не свя- ці, ме- ся- чы- ку, на той жа пе- ра- лаз,
ой, не свя- ці, ме- ся- чы- ку, на той жа пе- ра- лаз,
там, дзе мы з та- бой ста- я- лі, мо-жа, а - пош- ні раз.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

490. Ой, не свяці, месячыку, на той жа пералаз,*
Там, дзе мы з табой стаялі, можа, апошні раз.
— Будзь здарова, дзяўчыначка, ідзі дадому, спі,
Заўтра рана чуць світанак да гаю прыхадзі.
Не пайшла дзяўчына спаці — гуляла ўсё ў саду,
Чуў я, чуў я, як прысягала хлопцу іншаму.
Ой, гаралі хлопцы ніву, выгаралі ярмо.
—Заплаці мне, дзяўчыначка, што хадзіў дармо.
— Ой, плаціла, мой ты любы, плаціла, плаціла,
Цалаваў маё лічэнька — я й не бароніла.
Бадай тыя кветкі ўсохлі, што рана расцвілі,
Бадай тыя шчасця не мелі, што нас разлучылі.

491. Я ў сераду радзілася на вяліка гора,
За старога не пайду — барадою коле.
Адно пайду за такога, што сеюцца вусы,
Ён да мяне кіўне-міргне, а я засмяюся.
Ён да мяне кіўне-міргне чорнымі вачыма,
Я да яго засмяюся, малада дзяўчына.
Ён да мяне кіўне-міргне чорнымі брывамі,
Я да яго адзавуся мілымі славамі.
Мяла хату, мяла сені ды й засмяялася,
Ішла маці воду браці ды й здагадалася:
— Чаго, доню, чаго, доню, чаго ты смяешся?
Палюбіла казачэнька ды й не прызнаешся!
— Табе, маці, не казаці, табе не ведаці,
Як набрала вядро вады, то й нясі дахаты.
Не разлівай, маці, вады, бо цяжка насіці,
Не разбівай, маці, пары — я з ім буду жыці!

492. — Ой ты, рутка мая, ты, зялёная,
Ой, калі ж ты зышла, калі вырасла?**
— Я вясною зышла, летам вырасла,
На раку, на Дунай пахілілася,
На раку, на Дунай пахілілася,
На хлопца-малайца задзівілася.

---

* У кожным двухрадкоўі першы радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Ой, выйду ж я, выйду я на гораньку,
Ой, вазьму ж я яго да й за ручаньку.
Ой, вазьму ж я яго да й за ручаньку —
Павяду ж я яго да ў святлічаньку.
Павяду я яго ў святлічаньку,
Пасаджу я яго да й на крэслечку.
Пасаджу я яго да й на крэслечку,
Налію ж я яму віна чарачку.
Налію ж я яму віна чарачку:
— Выпівай, выпівай, мой каханачку.
— Не прыйшоў да цябе я й напіціся,
А прыйшоў да цябе дазваліціся.
А прыйшоў да цябе дазваліціся,
Ці дазволіш ты мне ажаніціся?
— Ажаніся, кавалер, памажы Божа,
Не бяры ўдавы, сцеражы Божа,
А бяры дзевачку, сваю роўнячку,
Сваю роўнячку — палюбоўнічку.

493. Не з тучы, не з хмары дробны дождж ідзе,
Хлопец да дзяўчыны штовечара ідзе.*
— Добры вечар! — кажа, шчэ й ручку дае.

— Марыся, на сэрцы парадуй мяне:
Ці мне ажаніцца, ці чакаць на цябе?
— Жаніся, жаніся, мілы, я шчэ й малада,

Як у садзе зялёна каліна цвіла.
Засталася Марыся сама — не сама,
Засталася ў Марысі дзяціна мала.

Lento 494

Ой, хут-чэй бы ве- чар, то й па-ве-ча- рэ- ла б,
мо- жа б, ма- ё сар- дэнь-ка то й па-ве-ся- ле- ла б,

---

* У кожнай страфе паўтараюцца другі і трэці радкі.




494. Ой, хутчэй бы вечар, то й павечарэла б,
Можа б, маё сардэнька то й павесялела б.*
Ой, хутчэй бы вечар, то й сонечка зайшло б,
Можа б, маё каханнечка то й да мяне прыйшло б.
Ой, не так да мяне, як да мае хаты:
— Упусці, дзяўчына, каб не чула маці.
Дзяўчына ўпускала — цяжка ўздыхала,
А як упусціла, праўданькі пытала:
— Скажы, хлопча, праўду, ці ты мяне любіш?
Ці ты мяне любіш, ці з мяне смяешся,
Да другое ходзіш — мне й не прызнаешся?




495. Туман, туман па даліне —**
Шырокі ліст на каліне.
А шчэ й шэршы на дубочку,
Кліча голуб галубочку.
Хоць не сваю, а чужую:
— Выйдзі, сэрца, пацалую.
— Годзі, годзі цалаваці —
Сэрцу тугі задаваці.
Не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты — возьме другі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** Кожны радок паўтараецца.

496. Я ж табе казала і тваёму роду:
— Не хадзі да мяне, не рабі заводу,
Ў мяне пасагу не будзе,*
Возьмуць мяне добрыя людзі.

— Мне твайго пасагу не вельмі трэба:
Нагародзіць Гасподзь Бог з высокага неба —
Ты ж у мяне пасаг самая,
Як на небе зора ясная.
— Ой, цяпер ты кажаш, што зора ясная,
А потым ты скажаш: "Доля няшчасная!"
Ой, не ты скажаш — то маці:
— Было без пасагу не браці.

Andantino 497

Там на по- лі шы-ро-кень- кім, там зя- лё- ны дуб ста-яў,
а пад тым зя- лё-ным ду- бам хло-пец дзеў-ку на-маў-ляў,
а пад тым зя- лё-ным ду- бам хло-пец дзеў-ку на-маў-ляў.

497. Там на полі шырокенькім, там зялёны дуб стаяў,
А пад тым зялёным дубам хлопец дзеўку намаўляў:**
— Дзяўчынонька мая люба, ці ты пойдзеш за мяне?
Як я з войска вернуся, вазьму замуж за сябе.
— Ой, была б то тая праўда, што я буду за табой!
Ты багаты, а я бедна, ты харошы сам сабой.
У цябе коні, у цябе валы, у цябе русы валасы —
Ты не будзеш мяне браці, бо я бедна сірата.
У цябе бацька, у цябе маці, у цябе родная сястра —

* У кожнай страфе трэці з чацвёртым радкі паўтараюцца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Не пазволяць мяне ўзяці, бо я бедна сірата.
— Дазволь, татулька, жаніцца, узяць, каго люблю.
— Жанісь, жанісь, мой сыночку, бяры багатага дачку.
— Багатая-рагатая будзе мяне праклінаць,
А бедная гора знае, будзе мяне шанаваць.

Andante 498



498. Як мы кахаліся, як малыя дзеці, да гей!
Цяпер разышліся, як туман, па свеце.*
Туман разыдзецца — дробны дожджык пойдзе, да, гей!
З нашага кахання нічога не выйдзе.
З нашага кахання і з нашае мукі, да, гей!
Ночы недаспаны, сэрцаві неспакой.

499. Ой, там, за гарамі, дзе сонейка ззяе,
Там мая Манюля на мяне чакае.*
Шырока даліна, вузкія пракосы,
— Пашто ты, Манюля, распусціла косы?
Косы распусціла, каснікі ўплятала,
Мяне, маладога, та й ачаравала?
Манюля, Манюля, жаль мне за табою,
Не адну я ночку прастаяў з табою!
Не адну я ночку, не адну гадзіну,
На цябе, Манюля, маю ўсю надзею.

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ой, вазьму Манюлю — станем у куточку:
— Прымі, прымі, маці, за родную дочку!
За родную дочку, за родну дзяціну,
Прымі, прымі, маці, маю гаспадыню!
— Дам табе, Манюля, каня варанога,
Адчапісь, Манюля, ад сына маёга!
— Каня асядлаю: сяду і паеду,
А Іванка люблю і любіці буду!

Allegretto 500

Па- хі- ліў- ся дуб на ду- ба, я- вар на ка- лі- ну.

Вы- хва-ляў- ся а- дзін хло-пец, што я за ім гі- ну.

500. Пахіліўся дуб на дуба, явар на каліну.
Выхваляўся адзін хлопец, што я за ім гіну.
Цераз дуба пераскочу, што і не дакрануся,
А я яго заняхаю, што й не падзіўлюся.
Выхвалялась яго маці: "Ой, я сына маю,
Ой, я цябе нявесткаю браці не думаю".
— Ой, не бойся яго маці і не бойся наша:
Ой, не буду нявесткаю, ой, не буду ваша.
Тады буду нявесткаю, тады буду ваша,
Як закіпіць на лядочку ячменная каша.

501. Ой, п'яна я, п'яна, дадоманьку не зайду,
Зудосіла я салавейчыка я ў вішнёваму саду.*
Салавейка шчабеча, а зязюленька куе,
А Бог знае, а Бог ведае, дзе мой мілы начуе.
Ой, калі ў дарозе — паздароў, яго, Божа,
Калі ж у дзеўчыны на падушыне — пакарай яго, Божа!

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Пакарай яго, Божа, вялікай караю,
Бо я да яго з шчырым сэрданькам — ён да мяне няпраўдаю,
Ой, пайду я гарою, а ты даліною,
Гавораць людзі, я й сама знаю, што не жыці мне з табою.

Allegretto 502

Ся- дзіць го- луб на бя- ро- зе, га- луб- ка на віш- ні.
Ска- жы, ска- жы, ма- ё сэр- ца, што ма- еш на мыс- лі,
ска- жы, ска- жы, ма- ё сэр- ца, што ма- еш на мыс- лі?

502. Сядзіць голуб на бярозе, галубка на вішні.
— Скажы, скажы, маё сэрца, што маеш на мыслі?*
Як не хочаш, маё сэрца, мілаю быці,
То дай жа мне таго зелля, каб цябе забыці.
— Расце ў мяне тое зелле блізка пералазу,
Як дам табе напіціся — забудзеш адразу.
— Ой, піць буду, ой, піць буду ўдзень і ўночы,
Тады я цябе забуду, як загаснуць вочы.

503. Ой, у полі–прастаполі
Там зрадзіла проса.
Ішла тудою дзяўчынонька
Да цыганкі проста.
— Цыганачка–баярачка,
Учыні сваю волю:
Прываражы Ясюленька
Навекі за мною.
Цыганачка–баярачка

* Кожны другі радок паўтараецца.

Тое учыніла —
Выкапала карэньчыка
І прываражыла.

504. На дварэ дожджык, а ў сенях слізка,
Кланяўся Ванечка Гандзечцы нізка.*
Гандзечка рада — у тосі плешча:
— Вярніся, Ванечка, дам бусі ешчэ.
— Я й не вярнуся — бацька баюся,
Праз акеначка нагаваруся.
Там у каморы, за дзвераанькамі,
Стаіць ложачка з пярынанькамі.
А ў тым ложачку Іванка ляжыць,
У правай ручаньцы скрыпачку дзяржыць.
Скрыпачка грае — аж прамаўляе:
— Іванку-душанька, што ты думаеш?
— А я думаю Гандзечку браці,
Купіў ёй серпіка — не ўмее жаці.
— Жала [redacted] ў тата жыта-пшаніцу,
А ў цябе, Іванку, — куколь-мятліцу!

505. — Рабіна, рабіначка, рабіна мая,
Чаму ж ты, рабіначка, рана адцвіла?*
Дзяўчына, дзяўчыначка, дзяўчына мая,
Чаму ж ты, дзяўчыначка, засмуцілася?
— Ой, не ў тую пораньку я на свет прыйшла,
Сама, не падумаўшы, замуж аддала.
Аддала матуленька ды не за таго,
А я, маладзенькая, не люблю яго.
Баліць маё сэрцайка па мілым маім,
Разлучыла матанька — не жыць мне пры ім.




* Кожны другі радок паўтараецца.




506. Ой, гаю мой, гаю, гаю зеляненькі,
Чом на табе, гаю, лісточак драбненькі?*
Лісточак драбненькі вецер не калыша,
А брат да сястронкі дробны лісты піша.
Адзін піша, піша, другі адсылае:
— Чом жа ты, сястронка, у госцях не бываеш?
Ці каня не маеш, дарожкі не знаеш,
Ці ад міленькага воленькі не маеш?
— Я коніка маю і дарожку знаю,
Але ад мілога воленькі не маю.

507. Шчыкну, шчыкну з ружы кветку, пушчу я й на воду:
— Плыві, плыві, з ружы кветка, аж да майго роду.*
Плыла, плыла з ружы кветка, пры бярэжку стала,
Выйшла маці воду браці — кветачку пазнала:
— Чом ты, кветка, чом ты, кветка, на вадзе збляднела?
Мусіць, мая дочка родна тры гады хварэла.
— Не балела, не хварэла ні дня, ні гадзіны,
Папалася злому мужу, нявернай дружыне.
Не так, не так дружыненцы, як ліхому мужу.
Утапіла мяне маці, як каноплі ў лужу.
Мокнуць, мокнуць канапелькі — пара іх вымаці,
Утапіла мяне маці — навек гараваці.




---

* Кожны другі радок паўтараецца.




508. У высокім дзераве вецер верх зламаў, ой!
Чом майму дзіцяці Бог долі не даў, ой!*
Была б ў мяне добра доля — маці пракляла, ой!
За ліхога мяне мужа замуж аддала, ой!
Ёсць у полі дзве сажэнькі, а трэця — мяжа, ой!
Ой, ішлі там брат з сястрою, а трэця — я, ой!
Ой, усе селі за столікам, ой, села і я, ой!
Усе выпілі па кілішку, вып'ю ж і я, ой!
Каб я была зязюляю, каб я сіваю, ой!
Паляцела б я кавацi ў вішнёвы сад, ой!
Села б я на чарашэньцы, стала б кавацi, ой!
Прыйшла б мая матуленька, стала б слухаці, ой!
Ты, сівая зязюля, прашу кавацi, ой!
А ты, маё дзіця родна, прашу дахаты, ой!
Буду цябе я карміці пшанічным зярном, ой!
Буду я цябе паіці мёдам і віном, ой!

509




509. Новая камора — старыя завесы,
Старыя завесы.

* Кожны другі радок паўтараецца, пры паўторы адсутнічае вокліч "ой!"

Аддаў бацька дочку за рэкі, за лесы,
За рэкі, за лесы.
Наказала маці сем год не бываці,
Сем год не бываці.
А я, маладзенька, годзіку не стрывала,
Годзіку не стрывала —
Зрабілася я сівой зязюленькай,
Сівой зязюленькай.
Паляцела я ў вішнёвы сад каваці,
У. вішнёвы сад каваці.
Выйшаў старшы брацец да мяне страляці,
Да мяне страляці.
Выйшаў сярэдні брацец яго сунімаці,
Яго сунімаці.
Выйшаў малодшы брацец, стаў яе пытаці,
Стаў яе пытаці.
— Як сіва зязюля, ляці ты за мора,
Ляці ты за мора,
Як наша сястронка, просім у камору,
Просім у камору.

510. Казаў бацька, каб я ажаніўся,
Каб па ночах не хадзіў і не валачыўся.
А я — хлопец добры, я не валачуся:
Дзе дзеўку пачую, там і заначую.
У адной спаў я, у другое ўпіўся,
А ў трэцяй на пячы нагавіц забыўся.
А як ажаніўся, так і апусціўся:
І лыжкаю, і міскаю і маленькаю калыскаю.
— Вось, дурню стары, ідзі ў поле араці,
А я, маладая, пайду пагуляці.

511. Эх, наехалі сваты да нашай хаты,
Волісьмы не, мая маці, вянкі пахаваці.*
Маці не слухала — дачку замуж дала,
Прыказала дочцы маці сем лет не бываці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Дочка не сцярпела — у годзік прыляцела,
Сівенькаю зязюляю ў вішнёвым саду села.
Села яна, села і стала каваці,
А ўсе лугі калінавы сталі разлягаці.
Выйшла яе маці, села на парозе,
Як пагляне ў вішнёў сад, та й ліюцца слёзы.
Выйшаў яе брацік, хацеў яе біці.
— Не бі, сынку, зязюленькі, бо то й не зязюля,
Бо то й не зязюля, то родна сястронка.
— Ой, як родна сястронка, то клічу дахаты,
А як сіва зязюленька — ляці ў лес каваці.
Як родна сястронка — гарэлку пастаўлю,
Як сіва зязюленька — пшаніцы насыплю.

512. Чырвона калінанька ў садзе расцвіла,
Ў няшчасну гадзінаньку мама радзіла.
У няшчасну гадзінаньку мама радзіла —
У далёку старонаньку замуж аддала.
Пражыла я годзічак, пражыла і два,
А на трэці годзічак занудзілася.
А на трэці годзічак занудзілася —
Да маманькі ў госцейкі захацелася.
Ой, пайшла б я ў госцейкі, знаю — не дайду,
Папрасіла б коніка, знаю — не дадуць.
Абярнусь зязюляю — стану каваці,
Можа ўчуе брацейка, каня пасучы?
Ой, не ўчуў брацейка, каня пасучы.
Не ўчула й сястронка, па ваду ідучы.
Не ўчула й сястронка, па ваду ідучы,
Толькі ўчула маманька, у сенях ходзячы:
— Ой, мае ж вы дзетанькі, мае ж вы родны,
Чуеце: зязюленька жаласна куе.
А то не зязюленька, то ваша сястра
Сіваю зязюляю абярнулася.






513. Ой, паляцела сіва зязюля быстрымі лугамі,
Ой, арасіла быстрыя лугі дробнымі слёзанькамі.*
Ой, паляцела сівая зязюля цёмнымі лясамі,
Агаласіла цёмныя лясы сумнымі галасамі.
Ой, паляцела сіва зязюля ў зялёны сад кавацi,
Выйшаў брацішак, выйшаў малодшы, стаў яе выганяці:
— Ой, гыля, гыля, сіва зязюля, у цёмны лес каваці!
Выйшаў брацішак, выйшаў старэйшы, стаў яго разважаці:
— То не зязюля, то не сівая, то наша сястронка —
У чужой старонцы з цяжкае долі зязюляй абярнулася.

514. Рэчаньку быструю вада памуціла.
— Ой, чаго, дзяўчо, жаласно плачаш,**
Ці цябе маці біла?

— Ой, біці не біла, а славамі карала,
Каб я з хлопцамі, з прайдзісветамі
Цэлу ноч не гуляла.

А колькі ж было таго гулянечка майго —
Ад змярканечка й да світанечка,
Да дзянёчка белага.

Ой, пайду я, пайду да броду па воду,
Ой, як стану я, падзіўлюся я —
Ці хароша на ўроду?

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожнай страфе другі і трэці радкі паўтараюцца.

Ой, уроду–прыроду, лічэнька прыкрасна —
За ліхім мужам, за нядбайнічкам,
Доля ж мая няшчасна.

Ой, пайду я, пайду на тую гару крутую,
Ой, як стану я, падзіўлюся я
На тую ваду быструю.

Ой, як вецер павене, то й вада скалыбнецца,
Ой, дзе ж мая ліха доленька
Бітым шляхам валачэцца?

Каб я была й знала, што замужам ліха,
Запляла бы я косу русую
І сядзела б я ціха.

Каса мая руса, ў тры рады сплляцёна,
А я бедная, нешчаслівая,
У чужу сторану звязёная.

Allegretto 515

Чыр- во- на- я віш- ня з-пад ка- ме- ня вы- шла. Ад-
да- ла ж мя- не ма- ма, дзе я не- пры- вык- ша, ад-
да- ла ж мя- не ма- ма, дзе я не- пры- вык- ша.

515. Чырвоная вішня з–пад каменя вышла.
Аддала ж мяне мама, дзе я непрывыкша.*
Як выйду на гору, як гляну дадолу:
— Вары, маці, вячэру шчэ й на маю долю.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Варыла вячэру — не мала, не трошкі:
Няма табе, доню, ні міскі, ні ложкі.
Ложка паламалась, а міска пабілась —
Відаць, мая доня без долі ўрадзілась.
— Ты думаеш, мама, што я тут балюю —
Прыйдзі, падзівіся, як я тут гарую.
Ты думаеш, мама, што я тут не плачу —
За дробнымі слёзкамі я свету не бачу.
Згані мяне, мама, хоць раз у суботу,
А я цябе, мама, йдучы на работу.

Moderato 516

Па са-доч-ку ха- джу я, ха- джу, ру-ту-мя-ту са- джу я, са- джу.

Ой, ру-та-мя-та та й не пры-ня-ла-ся — ра-дзі-нонь-ка ад- хі-лі- ла- ся,

ой, ру-та-мя-та та й не пры-ня-ла-ся — ра-дзі-нонь-ка ад- хі-лі- ла-ся.

516. Па садочку хаджу я, хаджу,
Руту-мяту саджу я, саджу.
Ой, рута-мята та й не прынялася* —
Радзінонька адхілілася.

Ой, я чую, чую праз людзі,
Што брацішак у госценькі прыбудзе.
Ой, рана ўстала, устала-дажыдала —
Вароцечак не зачыняла.

Вароцечак не зачыняла —
Усю я ночку сама не спала.
Ой, ночка цёмна то й зоранька ясна,
Ды доленька мая няшчасна.

---

* У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

517. Ой, даўно–даўно ў роду не была,
А ўжо тая дарожанька травой зарасла.*
Травой зарасла, пяском заплыла,
Чырвонаю калінаю пазавісала.
А як я й схачу — да роду пайду,
А я й тую каліначьку то й паламлю.
Гасціла дзянёк, гасціла другі,
А як трэці наступае — думай дадаму.
Да роду ішла — сцёжкі–дарожкі,
А як да цябе, мой міленькі, то ліла слёзкі.

Andante 518

Ста- іць лі- па зя- лё- на- я, пад ё- ю — ва- да.
-Ма- ла- да- я ма- ла- дзі- ца, чом до- лі ня- ма?
Ма- ла- да- я ма- ла- дзі- ца, чом до- лі ня- ма?

518. Стаіць ліпа зялёная, пад ёю — вада.
— Маладая маладзіца, чом долі няма?*
— Была ж у мяне добра доля — маці пракляла:
За ліхога мяне мужа замуж аддала.
Кліча маці вячэраці — вячэрай сама,
А я пайду піць–гуляці да белага дня.
Першы пеўні заспявалі — я ў карчомцы п'ю,
Другі пеўні заспявалі — я й не думаю.
Трэці пеўні заспявалі — я з карчомкі йду,
Судосіла дзевярыка ў вішнёвым саду:
— Братавая маладая, дзе жа ж ты была?
— Дзевярыку–саколіку, у карчомцы піла!
— Братавая маладая, жаль жа мне цябе:

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Нагатовіў твой міленькі нагай на цябе!
— Дзевярыку-саколіку, барані мяне!
Ёсць у мяне пас ядвабны — будзе для цябе!
Чуе тое мой міленькі, у каморы сплючы:
— З кім ты, міла, гаварыла, з карчомкі йдучы?
Ёсць у цябе пас ядвабны, то я сам знашу,
А я тваё бела лічка нагаём спішу.
— А бадай ты, мой міленькі, таго не прычакаў,
Каб ты маё бела лічка нагаём спісаў.

519. Як соненька заходзіла, да карчомкі йду:
Першы пеўні заспявалі — я гарэлку п'ю,
Другі пеўні заспявалі — я й не думаю,
Трэці пеўні заспявалі — я дадому йду.
Спатыкае дзевярочак у вішнёвым саду:
— Братавая маладая, дзе жа ж ты была?
Бо на цябе нагаечка даўно гатова!
— Дзевярочку, мой браточку, прашу ратаваць!
— Братавая маладая таго не ўчыню,
І як будзе мілы біці — дзверы зачыню.
А як будзе мілы біці — дзверы зачыню,
Каб людзі не сказалі, што цябе люблю.

Moderato 520

Чыр- во- на ка- лі- на у- сю вес- ну кра- сі- ла,
ма- ла- да- я дзяў-чы-нань-ка сва- ё сэр- ца су- шы- ла,
ма- ла- да- я дзяў-чы-нань-ка сва- ё сэр- ца су- шы- ла.

520. Чырвона каліна усю весну красіла,
Маладая дзяўчынанька сваё сэрца сушыла.*
— Наламлю я каліны, наламлю да й пакіну.
За ліхім мужам, за разбойнічкам я навекі загіну.
Ой, пайду я да броду, ой, да броду па воду.
Ой, я стану да й падумаю, ці харошага роду?
Ой, я роду харошага да й на лічка прыкрасна —
Аддала ж мяне да й матуленька, дзе дружына няшчасна.
Ой, пайду я да рэчкі, ой, да рэчкі — утаплюся:
За ліхім мужам, за разбойнічкам век я не разжывуся.
— Не тапіся, дзіця міла, бо ты душу загубіш!
Ой, чаму жа ж ты не сказала, каго верне ты любіш?
— Каго верне любіла, яго век не забуду —
Наракала я на матуленьку, наракаці я буду.
Не глядзі, мая мама, што харошага роду —
Завядзі мяне, утапі мяне і з высокага мосту.
Не глядзі, мая мама, што харошага стану —
Завядзі мяне, утапі мяне, дзе я дна не дастану.

521. Чэрвона каліна ўсю весну красіла,
Маладая дзеўчынанька сваё сэрцэ сушыла.*
— Ой, пайду я да броду, да броду па воду,
Ой, і стану я та й падумаю: ці добрага роду?
Ой, я добрага роду, на лічэнька прыкрасна —
Аддала ж мяне мая матуля, дзе дружына няшчасна.
Ой, пайду я да рэчкі, да рэчкі — утаплюся,
За ліхім мужам, за разбойнічкам я ўвек не разжывуся.
— Не тапіся, дзіця маё, бо ты душу загубіш,
Ой, чом жа ты не прызналася, каго верна ты любіш?
— Каго верна любіла, таго век не забуду,
Наракала я на матуленьку, наракаці я буду.
Ой, каб я тое знала, што замужам ліха,
Я сядзела бы, бульбу ела бы ў матуленькі ціха.
Ой, каб я тое знала, што гора з бядою,
Часала б косу та й па валосу — сядзела б дзеўчыною.

* Кожны другі радок паўтараецца.

522. Ой, дай Божа нядзелькі прыждаці,
То я пайду да роду гуляці.
Будзе племя–радок частаваці —
Я не буду споўна выпіваці.
Ёсць у мяне тры беданькі ў хаце:
Перша бяда — дзяціна малая,
Другая бяда — свякруха ліхая,
Трэцяя бяда — ён мяне не любіць.
Ой, пайду ж я ціха пад акенца
І пагляджу, што свякруха робіць.
А свякруха вячэраньку варыць,
А свякерка дубінаньку парыць,
А мой мілы дробны лісцік піша
І ножкаю дзяціну калыша:
— Люлі, люлі, дзяціна малая,
Дзесь гуляе жонка маладая.
Ой ты, маці, — парадніца ў хаце,
Парадзь, парадзь, чым жонку караці.
— Вазьмі, сынку, дубіну сырую,
Забі, забі жонку маладую.
— Ой ты, маці, — парадніца ў хаце,
Парадзь, парадзь, дзе ж яе схаваці?
— Завязі, сынку, у чыстае поле,
Няхай яна пшанічаньку поле.
А як паехаў пшаніцу прадаваці,
Узналі ўсе швагрэ і будуць пытаці:
— Ой ты, швагрэ, швагрэ–швагруленьку,
Ой, дзе падзсў ты сястру Гануленьку?
— Завёз яе ў чыстае поле,
Няхай там яна пшанічэньку поле.

Andante

523

На шы- ро- кім по- лі я- вар рас- сця- ліў- ся,
доб- ра мне бы- ло, як брат не жа- ніў- ся,
доб- ра мне бы- ло, як брат не жа- ніў- ся.

523. На шырокім полі явар рассцяліўся,
Добра мне было, як брат не жаніўся.*
А брат ажаніўся, узяў ён братавую,
Стаў ён забываці пра сястру радную.
— Ці я табе, браце, сарочкі не прала,
Калі ты мне кажаш: "Я не маю права!"
Ці я табе, браце, сарочкі не шыла,
Што ты мне кажаш, каб я ішла служыла?
Ступлю на кладоньку, кладонька схібнецца,
Памрэ бацька, маці — гасціна мінецца.
Зайду да брацейка — браточак прымае,
Братавая міла скоса паглядае.
— Братавая міла, не паглядай скоса,
Бо ўжо мне ў цябе гасціна не міла.

524. Брат сястру частуе — братавая злуе.**
— А мая ты міла, не паглядай скрыва,

Бо маёй сястронцы гасціна няміла.
Завёў брат сястронку за крутыя горы:

— Не бывай, сястронка, у гасціне ніколі.
Завёў брат сястронку, дзе белы бярозы:

— Еду ад брацішка не п'яна, цвяроза,
Еду ад брацішка не п'яна, цвяроза.

Andante 525

А ў ня-дзе-лю та й ра-нень-ка, а ў ня- дзе-лю та й ра-нень- ка
пры- сніў- ся мне сон дзіў- нень- кі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожным двухрадкоўі першы радок паўтараецца.

525. А ў нядзелю та й раненька*
Прысніўся мне сон дзіўненькі,
Што памёр мой брат радненькі.
Трэба ж каня запрагаці
Та й браточка адведаці.
Еду мілю, еду другу,
Шчэ й на трэцю зварачаю,
Да браточка заязджаю.
— Хавай, жонка, хлеб з стала,
Бо ўжо едзе сястра мая.
— Пастой, брацец, не лякайся,
Ну і з хлебам не хавайся.
Ёсць у мяне хлеб у возе —
Будзе абед у дарозе.
Буду хлеб пясочкам пасыпаці,
Слёзанькамі запіваці.

526. Ой, там каля грэблі явар пахіліўся,
Добра жа мне было, як брат не жаніўся.**
Як брат ажаніўся, ўзяў ён братавую,
Стаў ён забываці пра сястру радную.
— Ці я табе, браце, сарочкі не прала,
Чаму ты мне кажаш, што не маю права?
Ці я табе, браце, сарочкі не шыла,
Чаму ты мне кажаш, каб я шла служыла?

Allegretto 527

Ой, за га- ем, га- ем брат з сяс-тро-ю хо- дзіць,
брат з сяс-тро-ю хо- дзіць, ці- хень- ка га- во- рыць,

---

* Кожны радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.




527. Ой, за гаем, гаем брат з сястрою ходзіць, *
Брат з сястрою ходзіць, ціхенька гаворыць:
— Брацiку, мой брацiку, аддай мяне замуж
У новую дзярэўню, у сям'істую хату.
Я ў новай дзярэўні люблю прахаджаці,
А ў сям'ястай хаці люблю жартаваці.
Праз нядзельку шосту ідзе брат да сёстры,
На парог ступае — здароўя пытае:
— Здраствуй, здраствуй, сёстра, ці жыва–здарова?
Ці жыва–здарова, ці добрая доля?
— Добра, браце, добра — не зычу нікому,
Не зычу нікому — табе, маладому.
— А то ж табе, сёстра, новая дзярэўня,
Новая дзярэўня, сям'ястая хата!




528. Ой, гаю мой, гаю зеляненькі,
Чом на табе, гаю, лісточак драбненькі?**

* Кожны другі радок паўтараецца, за выключэннем апошняга.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Драбненькі, драбненькі, аж вецер калыша,
А брат да сястронкі дробны лісты піша.
Адзін брат піша, другі й адсылае:
— Чаму ты, сястронка, у гасцях не бываеш?
Ці каня не маеш, дарожкі не знаеш,
Ці ў міленькага воленькі не маеш?
— Коніка я маю, дарожку я знаю,
Ды ад міленькага воленькі не маю.
Прайшоў годзік шосты — едзе брат да сёстры,
На падвор уязджае, сястронкі пытае:
— Сястронка ты мая, ці жыва-здарова,
Ці жыва-здарова, ці гараз удома?
— Гараз — не гараз: мушу гараваці,
З такою доляю парадзіла маці.
Ой, маці, ты маці, дзе мне шчасце ўзяці?
Дзе мне шчасце ўзяці — на папер спісаці?
На папер спісала, да сцяны прыбіла,
Дзе я павярнуся — слязьмі аблiюся.




529. Ў полі стаіць явар, пад яварам вішня —
Там мая радзіна на гулянне вышла.
Гуляе, гуляе, нічога не дбае —
Нават у крыніцы вада высыхае.
У крынічэньцы высахне — у рэчаньцы прыбудзе,
Пайду да матулі — мне гасціна будзе.
Пайду цераз рэчку — кладанька схібнецца,
Памрэ бацька, маці — гасціна мінецца.
Ой, там брат сястронку ў гасціноньку просіць,
Хараша вітае, сядзіць братавая — скрыва паглядае.
— Не паглядай, міла, на сястронку скрыва,

Бо маёй сястронцы негараз гасціна.
Вывеў брат сястронку пад гай зеляненькі:
— Тут табе, сястронка, гасцінец прасценькі.
Вывеў брат сястронку за высокі горы:
— Не прыходзь, сястронка, да мяне ніколі.*

Moderato 530

Па са- доч- ку ха- джу я, ха- джу,

ру- ту - мя- ту са- джу я, са- джу.

Ой, ру- та - мя- та да й не пры- ня- ла- ся —

ра- дзі- нань-ка ад- хі- лі- ла- ся,

ой, ру- та - мя- та да й не пры- ня- ла- ся —

ра- дзі- нань- ка ад- хі- лі- ла- ся.

530. Па садочку хаджу я, хаджу,
Руту-мяту саджу я, саджу.
Ой, рута-мята та й не прынялася —**
Радзінанька адхілілася.

---

* Апошні радок паўтараецца.

** У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

Ой, чую ж я цераз людзі,
Што баценька ў госцейкі прыбудзе.
Ой, ждала, ждала, шчэ й дажыдала —
Вароцечкаў не зачыняла.

Вароцечкаў не зачыняла —
Цёмная ночка наставала.
Ночанька цёмна, зорачка ясна —
Доля мая горка, няшчасна.

Па садочку хаджу я, хаджу,
Руту-мяту саджу я, саджу.
Ой, рута-мята та й не прынялася —
Радзінанька адхілілася.

Ой, чую ж я цераз людзі,
Што матуля ў госцейкі прыбудзе.
Ой, ждала, ждала, шчэ й дажыдала —
Вароцечкаў не зачыняла.

Вароцечкаў не зачыняла —
Цёмная ночка наставала.
Ночанька цёмна, зорачка ясна —
Доля мая горка, няшчасна.*

531. — Ой, вербо, вербо кудравая,
Хто ж табе, вербо, корань падмыў?**
Хто ж табе, вербо, кудры павіў?
— Падмыла быстра вада, павіла дробна раса.
Не пайду замуж ні год, ні два,
Ні за п'яніцу, ні за гультая.
На трэцім годзе замуж пайшла
За п'янічэньку, за гультая.
А мне ж людзі казалі, што ён не п'е, —
Што ў Бога дзянёк, з карчомкі ідзе.
Прапіў коніка варанога —
Ідзе да стаенкі па другога.
А я ж, малада, проці яго
Нясу рубліка залатога

* Таксама, як пра бацьку і маці, далей пяецца пра брацiка і сястрычку.

** Кожны другі радок паўтараецца.

Выкупляць каня варанога.
Хоць konічанька выкупіла,
Сама ў хатцы не начавала.
Сама ў хатаньцы не бывала —
У вішнёвым саду начавала.
У вішнёвым саду начавала,
З зязюленькамі размаўляла.
Ой, зязюленька: "Ку-ку, ку-ку",
А я, малада: "Хлі-пу, хлі-пу",
Салавейка: "Цях-цях, цях-цях",
А я, малада: "Ах-ах, ах-ах".




532. — Вербанька кудравая,
Хто табе, вярба, корань падмыў?*
— Падмыла вада быстра,
Не пайду замуж сёга года,
Но пайду замуж аж пятага
За п'янічэньку праклятага.
Гавораць людзі, што ён не п'е —
За адну ночку каня прап'е.
Прапіў коніка варанога —
Ідзе да стаенкі па другога,
А я, малада, паперад ёга
Нясу рубліка залатога.
Нясу рубліка залатога —
Выкуплю каня варанога.
— Ой, як выкупіш — люблю цябе,
Як не выкупіш — заб'ю цябе.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

533. Пайшоў мілы ў дарогу — я прапіла карову:
— Што я, мілы, зрабіла: каровачку прапіла!*
Мілы мілу пад вуха: "Не пей водкі, псяюха!
Як будзеш водку піці, то буду штодня біці".
Мілы мілу цалуе, каровачку даруе:
— Будзь, мілая, здарова — будзе другая карова!

534. Нікому так добра, як нашай нявесце:
Мужык арэ, сее, поле, яна — п'е на месце.*
На месце ўпілася, ў кажух адзяглася:
Намяшала баршчу з кашай — у поле патраслася.
— Не дзівуй, мой мілы, што [redacted] так зрабіла,
Я ж не знала, дзе арэш, — на полі блудзіла.
Ой, прыехаў мілы з поля позняю парою:
Сядзіць міла за сталом, дрыгае нагою.
— А мой жа ж ты мілы, учыні мне волю:
Паскачы гайдучка папярэда мною!
А той мужычышча, ўзяўшы канчучышча:
— Гоя, гоя, жонка моя, а то табе гайдучышча!

Moderato 535

Ой, пра-ла б я ку-дзе-лі- цу — га-ла-ва ба-ліць,
ой, пі-ла б я га-рэ-лі- цу — мі-лы не вя- ліць,
ой, пі-ла б я га-рэ-лі- цу — мі-лы не вя- ліць.

535. Ой, прала б я кудзеліцу — галава баліць,
Ой, піла б я гарэліцу — мілы не вяліць.*

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Пайшоў мілы, пайшоў мілы ў поле араці,
А я пайшла ў карчомку гарэліцу піці.
Ляжыць мая кудзеліца, аж адулася,
А я тае гарэліцы напілася.
Прыйшоў мілы й пытаецца: "Дзеткі, дзе маці?"
— Там у хаце, ў каморанцы ўжо лягла спаці.
— Ціха, дзеткі, мае дзеткі та й не гаманіце,
Маладое матуленькі та й не разбудзіце.
— Не сплю, мілы, не сплю, мілы, толькі журуся:
Як [redacted] з тою шынкарою та й разлічуся?
— Ты не думай, мая міла, та й не журыся,
Ёсць у мяне таляр злоты — я й расплачуся.
— Не паможа таляр злоты, не памогуць два —
Учора піла за карову, а дзіся за вала.
— Ці ты, міла, не галоўка, ці не галава,
Што прапіла ты карову і сівага вала?

536. Ой, карала мяне маці, карала —
За п'яніцу-нядбайніцу аддала.*
А п'яніца-нядбайніца ў карчме п'е,
А як прыйдзе дадоманьку, жонку б'е.
Ой, прыехаў мой браточак са Львова,
Пытаецца: "П'янічэнька ці дома?"
— Ой, паціху, мой браточку, гавары,
Бо п'яніца-нядбайніца ў каморы.
Як ты тую п'янічэньку разбудзіш,
То ты маю галаваньку натрудзіш.
— Ой, прывыкай, мая сёстра, прывыкай,
Да суседа праз акенца ўцякай.
— Ой, не раз я, мой браточку, уцякала,
Над чужою стрэшанькаю дрыжала.
— Ой, а што ж ты, мая сёстра, думала,
Як на тую гібку кладку ступала?
— Ой, думала, мой браточку, — перайду,
А за гэту п'янічэньку не пайду.
Ой, перайшла, мой браточку, перайшла,
Сваю горку долю тут знайшла.

* Кожны другі радок паўтараецца.

Allegretto 537

Ой, у по- лі кры-ні-чэнь-ка — від-на дно. від- на дно.

Ні-дзе ж май- го п'я-ні-чэнь- кі не-від- но, не- від- но.

537. Ой, у полі крынічэнька —
Відна дно, відна дно.
Нідзе ж майго п'янічэнькі
Невідно, невідно.
Ой, пайду я дарогаю,
Бегучы, бегучы.
Ці не ўгледжу п'янічэнькі,
Ідучы, ідучы.
А мой горкі п'янічэнька
З карчмы йдзе, з карчмы йдзе.
Набок сваю галаваньку
Ён нясе, ён нясе.
— А што ж ты, мая мілая,
Думала, думала,
Як на гэту гібку кладку
Ступала, ступала?
— Я думала, мой міленькі,
Утануць, утануць,
Каб з табою, мой міленькі,
Больш не жыць, больш не жыць.

538. Ой, там на лугавіне развілася каліна,
Намаўляла Кацярына гаспадарскага сына:*
— Кідай бацька, кідай матку, я пакіну дробны дзеці,
Паедзем да места мёд-гарэлку піці.
— Ой, баюсь я, Кацярына, каб нас не дагналі,
Каб нашы белы ручкі то й назад не павязалі.
— Ой, не бойся ты, Васільку, няма каму даганяці —
Я й паслала Сямёна рана ў поле араці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Арэ Сямён, арэ то й на сонца паглядае:
— Чужы жонкі абед нясуць, а мая й не думае.
Араў Сямён, араў да самога падвячорка,
Кінуў валы на дуброву, а сам ідзе дадому.
Прыйшоў на падворак, зайшоў ён дахаты,
Пытаецца малых дзетак: "А дзе ж ваша маці?"
— А наша маці пайшла ў лес па маліну,
Забажылась, заклялася, што вас, дзеткі, пакіну.
Пайшоў Сямён у камору, заглянуў да скрыні —
Няма грошай, няма ботаў, няма жонкі Кацярыны!
Ой, пайшоў Сямён дахаты з апушчанай галавою:
— Што я буду рабіці шчэ й з малою дзетварою?
Кацярына не дура — новы чобаты абула,
У доўгі кажух адзяглася та й у свет пацяглася.




539. Павей, ветру, з–пад сіняга мора,*
Дзесь паехаў мой міленькі ўчора.
— Здрастуй, міла, здрастуй, чарнабрыва,
Чыя ў цябе на руках дзяціна?
— Прашу, мілы, прашу ісці дахаты —
Буду табе праўданьку казаці.
Учора ў мяне цыганачка была,
Цыганскую дзяціну забыла.
— Брэшаш, міла, брэшаш, чарнабрыва,
Цыганская не такая дзяціна.
— Прашу, мілы, прашу, сядай на палаці,
Буду табе праўданьку шчырую казаці.
Быў у мяне хлопец маладзенькі,

* Кожны радок паўтараецца.

Заначаваў тры ночанькі цямненькі
І пакінуў дзяціну малую.
Сядлай, мілы, каня воранога
І даганяй хлопца маладога.
— Калі б ты, міла, была нехароша,
Аддаў бы я цябе без аднаго гроша.
А то міла, міла й чарнабрыва,
Чарнабрыва то яшчэ й чарнаглаза,
А я веру, што хлопец — зараза!

540. З таго боку сонца сходзіць, а з сяго заходзіць,
А жанаты да дзяўчыны штовечара ходзіць.*
Ой, прыйшоў ён пад акенца: "Выйдзі, маё сэрца!"
Яна ж яму адказала: "Забі жонку першу!"
Ой, прыйшоў ён дадаменьку — пачаў жонку біці:
— Ой, даволі, мая міла, мне з табою жыці.
— Ах, мой жа ты наймілейшы, дай да радні знаці,
Каб прыехаў айцец, маці смерці паглядзеці.
Прыехаў айцец, маці, сталі пад акенкам:
Ляжыць дзіця на ўсход сонца лічкам белюсенька.
— Ах, мая ж ты наймілейша, чым ты правінілась?
Сваю нову святлічаньку слёзкамі абліла.

541. Цяжка–цяжка на сардэньку, як вечар находзіць,
Што жанаты да дзяўчыны штовечара ходзіць.*
Ужо прыйшоў мілы дахаты, стаў нажа тачыці,
Яго жонка, як галубка, пачала прасіці:
— Не рэж, не рэж, мой міленькі, хоць адну гадзіну —
То я табе падгадую малую дзяціну.
— Будзеш тады, мая ты міла, дзеці гадаваці,
Як я пайду да Дунаю нажа паласкаці.
Вы, суседзі, добры людзі, накажыце цёшчы:
Няхай едзе забірае доччыныя рэчы.
Як ўвайшла маці дахаты, упала дочцы ў ногі:
— Ой ты, дочка, мая дочка, што ж ты нарабіла —
Свае дзеткі, як галубкі, ты й асіраціла.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Ой, не я іх сіраціла — асірацілі людзі,
Асіраціла тая шэльма, што жанатых любіць.

542

Allegretto

Го- ра ма- ё, го- ра, ня- шчас-на- я до- ля,

а што ж мой мі- лень- кі не на- чу- е до- ма,

а што ж мой мі- лень- кі не на- чу- е до- ма?

542. Гора маё, гора, няшчасная доля,
А што ж мой міленькі не начуе дома?*
Пойдзе на змяркaнні, прыйдзе на світанні,
Кладавіцца спаці ўпапярок палацей.
— Ой, пастой, міленькі, я цябе разбую,
Тваё бела лічка сем раз пацалую.
— Е ў мене друга — будзе разбуваці,
Маё бела лічка сем раз цалаваці.
— Ой, няхай іх будзе сто дваццаць чатыры,
Такі ж я найстарша паміж імі ўсімі.
— Ой, а дзе ж ты, міла, ды й старшынства брала,
Каб над імі ўсімі найстаршэйша была?
Прыляцела галка з зялёнага гаю,
Прыляцела друга з зялёнага луга.
Прыляцелі гусі ды з чужога краю:
— Пастойце, гусанькі, я вас папытаю,
Пастойце, гусанькі, я вас папытаю,
Ці не з таго краю, што мілага маю?
— Ой, мы не слыхалі, ой, мы не відалі,
Толькі па мілому слядочак пазналі.
Ужо па тым слядочку людзі пахадзілі,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ужо твайго мілога другі палюбілі.
— Няхай яго любяць, няхай жа кахаюць,
А мне, маладзенькай, жыццё адымаюць.

543. Божа ж мой, Божа, з такою радзінаю —
Пракляла ж мяне малою дзяцінаю.*
Можа, і не кляла — такая радзілася:
Няма ж таго дня, каб я не смуцілася.
Няма ж таго дня, ані тае ночанькі,
Каб не плакалі мае й кары вочанькі.

544. Ой, не кукуй, зязюленька, рана,
Гэй, гэй, зязюленька, рана!
Ды не кажы, што ночанька мала,
Гэй, гэй, што ночанька мала!
Я, малада, усю ночаньку не спала,
Гэй, гэй, усю ночаньку не спала!
Міленькага з дарожанькі чакала,
Гэй, гэй, з дарожанькі чакала.
Мой міленькі прыехаў так позна,
Гэй, гэй, прыехаў так позна!
Падушачкі параскідаў розна,
Гэй, гэй, параскідаў розна!



* Кожны другі радок паўтараецца.

545. Ой, як я хадзіла сем лет дзеўчыною —*
Стучала-звінела зямля пада мною.
Як я вышла замуж за ліхога мужа,
Ой, стала я, стала за годзік нядужа.
Як стаў мяне мілы дубіною біці,
Ой, сталі ж мне, сталі плечанькі балеці.
— Не бі мяне, мілы, не бі дубіною —
Нядоўга я буду жыці і з табою.
Выкапаеш, мілы, шыроку магілу,
Пахаваеш мяне, мілы, чарнабрыву.
А ў ножках пасадзіш зялёну ляшчыну,
А ў галоўцы, міленьку, — чырвону каліну.
А як будзеш, мілы, сыночка жаніці,
То прышлеш да мяне ляшчыну ламіці.
А як будзеш, мілы, дачку аддаваці,
То прышлеш да мяне каліны ламаці.

Moderato 546

Ой, ум- ру я, ум- ру дый бу- ду дзі- ві- цісь: ці
бу- дзе мой мі- лы па мне дый жу- ры- цісь, ці
бу- дзе мой мі- лы па мне дый жу- ры- цісь.

546. Ой, умру я, умру дый буду дзівіцісь:
Ці будзе мой мілы па мне дый журыцісь.*
Мілы зажурыўся — сеў, падгаліўся:
— Каб тую пахаваці — хутчэй бы жаніўся!
Ой, прыйшлі дзяўчаты мяне наражаці,
Мілы выбірае, каторую з іх узяці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Узяў бы я тую, што спраўна танцуе —
Гаворадь людзі — дома не начуе.
Узяў бы я тую з чорнымі брывамі —
Не магу яе ўзяці за варожанькамі.
Пачулі тое дзетанькі ды сталі плакаці:
— Ой, Божа, наш Божа, што нам рабіці?
Ой, Божа, наш Божа, што нам рабіці —
Возьмемся за ручкі ды пойдзем служыці.
— Ой, ціха, дзетачкі, не йдзеце служыці,
Бо я яшчэ не ўмерла — з вамі буду жыці.
— Ой, міла ж ты, міла, якая ты здрадліва —
Я думаў, што памерла, а ты яшчэ жыва!

547. Як я была сем год дзеўчыною,
То й не чула ножак пад сабою.*
Як я пайшла за ліхога мужа,
То я й стала за годзік нядужа.
Стаў ён мяне дубіною біці,
Сталі ж мне плечанькі балеці.
— Умру, мілы, я й не буду жыці,
Умру, мілы, я й не буду жыці.
Пашый, мілы, з паперы сарочку,
Пахавай, мілы, у вішнёвым садочку.
Пасадзі, мілы, у галоўцы каліну,
А ў канцы ножак — зялёну рабіну.
Будзеш, мілы, сыночка жаніці,
Прыйдзеш, мілы, каліны ламіці.
Будзеш, мілы, дочку аддаваці,
Прыйдзеш, мілы, рабіны шчыпаці.
Будзеш, мілы, мяне прабуджаці:
— Уставай, міла, малы сынок плача.
— Няхай плача, няхай праплакае —
Няхай знае, што маці не мае.
— Уставай, міла, мне жытка ўрадзіла,
Уставай, міла, мне жытка ўрадзіла.
— Няхай родзіць, хоць у трубы ўецца,
Маё сэрца да цябе не вярнецца.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

548. — Ой ты, мой міленькі, ой, умру я, умру,
І збудуй для мяне з цярноўніку труну.*
— Дзе я буду, міла, цёрну да й шукаці —
Будзеш, мая міла, ў сасновай ляжаці.
— І збяры да мене усю маю радзіну,
І налож на мене усю маю крамніну.
І налож на мене вышыту сарочку,
І пахавай мене ў вішнёвым садочку.
Пасадзі на ўзгалоўі чырвону каліну,
А ў белых нажэньках — зялёны барвенак.
Ой, як жа ж ты будзеш сыночка жаніці,
То прышлі да мене каліну ламіці.
Ой, як жа ж ты будзеш дочку аддаваці,
То прышлі до мене барвяночку рваці.
Ой там, па-над гаем, сонейка зыходзіць,
А ўжо мой міленькі другу мілу водзіць.
— Ой ты, мой міленькі, што то за навіна,
Што ў нашым садочку высока магіла?
— Ой, то не навіна, то свежа магіла,
То там пахавана мая перша міла.
— Запражы, міленькі, сівую кабылу
І вывезі мілую з садочка ў даліну.
— Ой, бадай ты таго не счакала,
Каб мая перша міла ў даліне ляжала.

Andante 549



---

* Кожны другі радок паўтараецца.

549. Пагнаў Раман сівы волы на зімную росу
Ды пакінуў Марысеньку пры ложачку босу.*
— Пасцецеся, сівы волы, не бойцеся воўка,
Я сам пайду да дзяўчыны, бо баліць галоўка.
Зайшоў Раман да дзяўчыны: "Добры вечар, сэрца!"
Тая яму адказала: "Зарэж жонку наперш!"
— Як жа мне яе зарэзаць, як жа ўчапіцца?
Мая жонка маладая — будзе прасіцца.
— Пайдзі, Раман, да карчомкі, гарэлкі напіся,
Як прыйдзеш дадому, да жонкі ўчапіся.
Пайшоў Раман да карчомкі, гарэлкі напіўся —
Як прыйшоў дадому, да жонкі ўчапіўся.
— Пачакай жа, Раманоньку, хоць адну гадзіну,
Ой, няхай я падгадую малую дзяціну.
— Тады будзеш, мая міла, дзіця гадаваці,
Як я пайду да Дунаю нажа паласкаці.
Пайшоў Раман да Дунаю нажа паласкаці,
А суседзі, добры людзі, далі маці знаці.
— Кідай, маці, жыта жаці, кідай дажынаці —
Ідзі дочку-адзіночку на смерць наражаці.
Ідзе маці дарогаю ды плача бясконца —
Ляжыць дочка-адзіночка вачыма да сонца.
Закувала зязюленька у зялёным лузе —
Вязуць, вязуць Раманочка ў жалезным ланцузе.
Закувала зязюленька ў папа на ганку —
Вязуць, вязуць Раманочка і яго каханку.
Закувала зязюленька ў папа на плоце —
Будзе табе, Раманочку, як таму сабацы.

550

Moderato

Цём- на ноч- ка, цём- на- я, шчэй цям- ней бу- дзе— га- ва- ры- лі лю- дзі: свяк- ра доб- ра бу- дзе. га-

* Кожны другі радок паўтараецца.




550. Цёмна ночка, цёмная, шчэй цямней будзе —
Гаварылі людзі: свякра добра будзе.*
А свякроўка ўстала, мяне не збудзіла,
Пайшла да суседзяў, мяне асудзіла.
А я, маладая, сама рана ўстала,
Заняла волікі — на расу пагнала.
Загнала волікі ў шыроку даліну,
Сама заплакала ў няшчасну гадзіну.
Паліліся слёзы, як з белай бярозы,
Хай мілы пачуе ў далёкай дарозе:
— Як сіва зязюля, то ляці да бору,
Як мая мілая — жэнь валы дадому.

551. Аддала ж мяне мама ў вяліку сям'ю.
У вяліку сям'ю, у чужую старану.*
А вялікая сям'я вячэраці села,
І мяне, маладую, паслалі па ваду.
Я й па воду ішла — не спяшалася,
А з вадою ішла — прыслухалася.
Хтось у хаце гаманіць, маці сыну гаворыць:
— Чом ты, сынку, не п'еш, свае жонкі не б'еш?
— А за што ж яе біці, яна ўмее ўсё рабіці:
І спячы, і зварыці, і да роду гаварыці.
Мама, мама мая, мама радная,
А ў чым табе правінілась дзяціна чужая?
Калі я яе браў, як той мак расцвітаў,
А цяпер яна стала, што я й сам не пазнаў.
Калі я яе браў, як той з рожы цвяток,
А цяпер яна стала, як бяленькі платок.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

552. За гарою да й за лугам,*
А там Ясё арэ плугам.
Панясу я яму есці —
Ці не скажа ён мне сесці?
Панясу я яму піці —
Ці не будзе гаварыці?
Ён наеўся, ён напіўся
І на раллю паваліўся.
— Уставай, Ясю, чом не арэш?
Чом да мяне не говорыш?
— А я ляжу да й думаю,
Што нялюбу жонку маю.

553. Ой, пайду я лугам, лугам, ну-та, ну-та, ну-та я,
Дзе мой мілы гарэ плугам, ну-та, ну-та, ну-та я.
Занясу я яму есці, ну-та, ну-та, ну-та я,
Ці не скажа ён мне сесці, ну-та, ну-та, ну-та я.
Ён наеўся, пасіліўся, ну-та, ну-та, ну-та я,
Да й на раллю пакаціўся, ну-та, ну-та, ну-та я.
— Чаго ляжыш та й думаеш, ну-та, ну-та, ну-та я,
Чаму ты раллі не канчаеш, ну-та, ну-та, ну-та я?
— А я ляжу да й думаю, ну-та, ну-та, ну-та я,
Што пагану жонку маю, ну-та, ну-та, ну-та я.

554. Ой, маці сынка та й ажаніла, та й ажаніла,
А нявестаньку та й неўзлюбіла.**
Паслала сынка поле араці, поле араці,
А нявестаньку — хустанькі праці.
Ой, прала, прала, перабірала, перабірала —
Яе матуля не спадабала.
Ой, прыйшоў сынок з поля арання,
А нявестанька з хустанек прання.
Пасадзіла сынка та й за столікам, та й за столікам,
А невястаньку та й каля печы.
Дала сынку мёд-віно піці, мёд-віно піці,

* Кожны радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

А невястоньцы — та й чамярыцы.
Ой, пілі, пілі, паўпіваліся —
Адно на другое пасхіляліся.
— Ой, Божа, Божа, што я зрабіла, што я зрабіла —
Я свае дзеці та й патруціла!

555. Маці сына навучае: "Чом ты водкі не п'еш? Гэ—эй!
Чом ты водкі не п'еш?"
Маці сына навучае: "Чом ты жонкі не б'еш? Гэ—эй!
Чом ты жонкі не б'еш?"
— Як я яе маю біць, калі сэрцайка баліць? Гэ—эй!
Калі сэрцайка баліць?
Ой, як я яе браў, то як мак расцвітаў! Гэ—эй!
То як мак расцвітаў!
А цяпер яна збялела, як у гародзе лілея! Гэ—эй!
Як у гародзе лілея!

Moderato 556

Са- ла- вей- ку ма-лень-кі, са- ла- вей- ку ма-лень-кі,
не ся- дай жа на ак- не, не ся- дай жа на ак- не.

556. Салавейку маленькі,*
Не сядай жа на акне —
Не задавай жалю мне,
Бо ў чужой старане.
Адбілася ад роду,
Як той камень у воду.
Камень у вадзе паляжыць —
Мне без роду цяжка жыць.
Ой, найму я падводу

* Кожны радок паўтараецца.

Та й паеду да роду.
Тры губерні перайшла —
Я й падводанькі не знайшла.
Знайшла ў полі азярцо,
На азерцы камянец,
На каменцы каласок —
Мае маманькі галасок.
— Устань, маманька, мая,
Устань жа ты да мяне.
— Ой, рада б я ўстаці —
Сырая зямля налягла,
Мне пажыці не дала.

Andante 557

Пры-ля- та- е чор-ны во- ран на-шу во- ду пі- ці.
Ой, як цяж- ка сі- ра- ці- не без ба-цень- ка жы- ці.
ой, як цяж- ка сі- ра- ці- не без ба-цень- ка жы- ці.

557. Прылятае чорны воран нашу воду піці.
Ой, як цяжка сіраціне без баценька жыці!*
Чужы бацька, чужы бацька шчэ й маці чужая,
А хто ж мяне пашкадуе — я ж шчэ й маладая?
Пасядаюць вячэраці — з дзеткамі гавораць,
А да мяне, маладое, слова не прамовяць.
Пасядаюць вячэраці — з дзеткамі смяюцца,
А ў мяне, сіраціны, дробны слёзы льюцца.
Ой, пайду я ды й у поле работу рабіці,

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Ой, як стану там плакаці — ўсім анёлам чуці.
Прылятае адзін анёл з высокага неба:
— Чаго плачаш, сіраціна? Чаго табе трэба?
Даў Бог табе рукі, ногі шчэ й святлыя вочы,
Рабі, рабі, сіраціна, да цёмнае ночы.
— А каб я й жа, а каб я й жа дзень і ноч рабіла,
То тут мая работанька нікому не міла.

Andante 558

Лі- хі сы- нок, лі- хі сы- нок, ня- вест- ка лі- ха- я —
не шка-ду- юць ма- ту-лень- кі, бо я- на ста- ра- я,
не шка-ду- юць ма- ту-лень- кі, бо я- на ста- ра- я.

558. Ліхі сынок, ліхі сынок, нявестка ліхая —
Не шкадуюць матуленькі, бо яна старая.*
Пасядаюць вячэраці — гавораць, смяюцца,
А ў мяне, старусенькай, дробны слёзы льюцца.
Пасядаюць вячэраці — з дзеткамі гавораць,
А да мяне, старусенькай, слова не прамовяць.
Ой, пайду я ў чыста поле работу рабіці,
Як пачну я горка плакаць — ўсім анёлам чуці.
Зляцеў анёл, зляцеў анёл з высокага неба,
Пытаецца старусенькай: "Чаго табе трэба?
Даў табе Бог рукі і ногі, прасветлыя вочы,
Рабі, рабі, старусенька, да самае ночы".
— Дзень і ноч я ўжо рабіла, дзень і ноч рабіла,
А ўжо ж мая работанька нікому не міла.

559. Ой, сама, сама, як ігрушанька ў полю,
Ой, няма, няма пажаловаці кому:
Баценька памёр, матуленька нядужа,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Сястронка маленька, а брат на ваенцы служыць.
— Ой, прыплынь, прыплынь, браточку, з вадою,
Ой, вазьмі, вазьмі мяне, сіротаньку, з сабою.
— Ой, як жа я маю тую сіротку брацi,
Ой, як ёй Бог даў, ой, так мусіць гаравацi.
Як мне, маладому, на вайне ваявацi,
Так сіротаньцы, ёй удому гаравацi.

Moderato 560

Ку- е зя- зюль- ка, ку- е сі- ва- я,
па са- дзе ля- та- ю- чы, — пла- ча дзяў- чы- на,
пла- ча сі- ра- та, без ба- цень- ка жы- ву- чы.

560. Куе зязюлька, куе сівая, па садзе лятаючы, —
Плача дзяўчына, плача сірата, без баценька жывучы.
— Бадай, зязюлька, бадай, сівая, на лета не кавала,
Як выкавала майго баценька — я й сіратою асталась.
— Як я кавала — каваці буду, па садзе лятаючы,
Як ты плакала — плакаці будзеш, без баценька жывучы.

561. Ой, сама я, сама, як былінанька ў полю,
Ой, няма й не будзе пашкадаваці кому:
Баценька не маю, матанька старая,
Брацік на ваенцы, а сястронка малая.
— Ой, прыплынь, мой брацiку, прыплынь з вадою,
Вазьмі мяне, вазьмі, сіротаньку, з сабою.
— Ой, нашто ж я маю з сабою цябе браці —
Абяшчаўся Пан Бог лепшу доленьку даці.
— Ой, пакуль жа тая лепша доленька будзе,
Напасылаюцца сіратонькаю людзі.




562. А я ў матулі ночку начаваў,
А я ў матулі страшны сон відаў.*
Матуля ўстала, сон разгадала:
— Ой, сынку, сынку, няшчасце тваё,
Запрагай каня, каня варанога,
І паязджай, сынку, да двара сваёга.
Ой, заязджаю ў двор — конік не бяжыць,
Конік не бяжыць, сады не цвітуць.
Уваходжу ў сені — сталяры стаяць,
Сталяры стаяць, святліцу рубяць.
Уваходжу ў хату — мілая ляжыць,
Край яе галоўкі свечанька гарыць.
А ўкрай яе ножак дзетанькі сядзяць,
Дзетанькі сядзяць, прыгаварваюць:
— Ой, тату, тату, вам мілая будзе,
А нам, маленькім, мамы не будзе.
Бо ваша міла ў ружовым чапочку,
А наша мама ў сырым пясочку.
Бо ваша міла ў розных кветачках,
А наша мама ў нямых дошчачках.

563. — Бадай зязюля, бадай сівая на лета не кавала,
Як выкавала майго баценька — я й сіратой застала.*
— Як я й кавала — каваці буду, па саду лятаючы,

* Кожны другі радок паўтараецца.

Як ты плакала — плакаці будзеш, па людзях гаруючы.
Як я й кавала — каваці буду, бо то мая работа,
Як ты плакала — плакаці будзеш, бо ты вечна сірота.

564. Ой, зышліся мужыкі,*
Гаварылі пра жанкі:

— Ой, я першу жонку меў,
Як на небе зорачку.

І з першаю дзеці меў,
А з другою гадаваў,

А з трэцяю рассылаў:
— Ідзеце, дзеці, служыці,

Чымся мачасе гадзіці.
— Будзем рыбку лавіці

І мачасе гадзіці.
А мачаха дзеці б'е,
Як птушкі сава дзярэ.

565. Расла, расла каліканька і ягад не мела,
А хто ў прымах не бывае, той гора не знае.**
А я — прымак, а я — прымак, усё гора знаю:
Кулачэнькі пад бачэнькі і спаці лягаю.
Устаю рана, устаю рана, іду ў поле араці,
Заказаў я сваёй жонцы абед гатаваці.
Наварыла мая жонка лебяды без солі,
Сеў прымачак, перабедаў і сказаў: "Даволі".
Не паспеў ды прымачэнька з–за стала вылезці,
Ажно кажа яго цёшча: "Нясі свінням есці!"
Бадай свінні паздыхалі, а хата згарэла,
Як мне жыццё прымацкое ўжо надаела.

---

* У кожнай страфе першы радок паўтараецца.

** Кожны другі радок паўтараецца.

І зышліся да й суседзі, сталі гаварыці:
— І твой прымак і мой прымак не хочуць рабіці.
Наслухаўся прымачэнька ў сенях за дзвярыма,
Зайшоў ў белую святліцу — заліўся слязіма:
— Будзе мяне, будзе мяне жонка спамінаці,
Як я буду сівы волы з дубровае гнаці.
Зарыкалі сівы волы, з дубровае йдучы,
Заплакала мая жонка, пасцельку сцялючы.
Пасцель бела, пасцель бела, пасцель пухавая —
Мая жонка пасцель сцеле, слязьмі палівае.

Adagio 566

Цві- ла, цві- ла ча- рэ-шань-ка, той я- гад не ма- е.
Хто ў пры-ма-ках не бы- ва- е, той го- ра не зна- е,
хто ў пры-ма-ках не бы- ва- е, той го- ра не зна- е.

566. Цвіла, цвіла чарэшанька, той ягад не мае.
Хто ў прымаках не бывае, той гора не знае.*
А я ў прымаках бывалы — усё гора знаю:
Кулачэнькі пад галову то й спаці лягаю.
— Ой, спіш прымак, спіш прымак, пара ўжо ўставаці:
Запрагай сівыя волы — ідзі ў поле араці.
Арэ прымак, арэ прымак, на шлях паглядае:
— Чужы жонкі абед нясуць, а мая сняданне.
Дае жонка абедаці — абед той без солі,
Зажурыўся прымачэнька без шчасця, без долі.
— Як не хочаш абедаці — еш хлеб з вадою,
Запрагай сівыя волы — прыязджай дадому.
Едзе прымак, едзе прымак і ў трубачку свішча.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

— Хавай, доньку, варэнікі — едзе прымачышча.
Ідзе прымак, ідзе прымак, на парог ступае —
Яму цёшча з сямі місак абед злівае.
Едзе прымак, едзе прымак, не ўспеў з воза злезці,
Яму цёшча наказуе: "Нясі свінням есці!"
— Бадай свінні паздыхалі, а хата згарэла,
Як мне тая прымацкая доля надаела!
Вышлі сусед з суседкаю, сталі гаварыці:
— І твой прымак, і мой прымак не ўмеюць рабіці.

567. Ой, сядзіць дзяўчына за столікам,
Як пышна баяранька,
А каля яе — хлопчык яе,
Як вечна сіротанька.
Ой, будзе-будзе той баяраньцы
Ад тае сіротанькі —
Вісяць канчукі ў чатыры пучкі
На тую баяраньку.
Ой, будзе-будзе біці,
Будзе-будзе навучаці,
На сваю руку навaрачаці —
Пыханькі выганяці!

568. Прапіла маці дачку
Ды за адну гадзіначку,
За адну гадзіначку,
За адну нядзелечку.
А ў нядзелю рано
Сіне мора грала,
Там дзеванька патанала.
Ручкі раскінула,
Да матулі гукнула:
— Ой, матуленька мая,
Выратуй мяне з мора.
Выратуй мяне з мора
Ды з вялікага гора.
— Чым цябе ратаваць:
Ці чаўном, ці вяслом?
Цябе нядоленька спаткнула —

У сіне мора ўпіхнула,
У сіне мора ды ў вялікае гора.
Мусіш, дзіцятка, гараваці,
Усім суседзям дакучаці —
Хлеба-солі пазычаці.

569. Любіў мяне бацька, як быліну ў полі —
Аддала ж мяне маці ў вяліку нядолю.

Ой, маці, маці, што ты нагадала,
Што за нялюбага жыці аддала?

Ці ты мяне, маці, у барвінку купала,
Ці ты, купаючы, маю долю праклінала?

Ці ты мяне, маці, на рынку купіла,
Што ты мяне, маці, навек загубіла?

Каб ты мяне, маці, лепей утапіла,
Як ты мяне, маці, навек затраціла.

Лепей, мая маці, гарачы камень грызці,
Як з нялюбым вячэраці сесці.

570. Ой, выйду я, выйду на крутую гору.
Ой, гляну я, гляну на быструю воду.
Ой, я думала, што то Дунай гудзе,
А то мой міленькі з карчомкі ідзе.
А я, маладзюсенькая, ды спужалася —
У новай каморы за скрыню схавалася.

571. Ой, даўно-даўно я ў роду была!
Ужо тая сцяжэнька дзярном зарасла.
Ой, не так дзярном, як шыпшынаю,

Дзе я хадзіла та й дзяўчынаю.
Ой, як я захачу, дзярно патапчу
І да свайго бацenькі арлом залячу.
Ой, не так арлом, як арліцаю,
Тою сіваю зязюліцаю.
Ой, сяду, сяду ў бацькавым саду,
На той вішаньцы, што з краю.
Стану каваці — усёй сад развесялю,
Стану плакаці — усёй ліст абалью.
Чуе бацenька, з карчомкі ідучы:
Зязюля куе, ў садзе седзячы.
Прыйшоў у хату, стаў гаварыці:
— Ой, маці, маці, што нам Бог дае —
У нашым садзе зязюля куе?
Ой, вазьмі, бацьку, хустку ядвабну,
Ой, пайдзі і пасей пшанічку ярую.
Як зязюля — пшанічку збярэ,
Як дзіцятка наша — хустаньку возьме.

572. Ой, Божа мой, Божа,
Божа мой адзіны.
Не даў ты мне долі,
Як маёй радзіне.
А ў мае радзіны
Жыта і пшаніца,
А ў мяне, маладое,
Куколь і мятліца.
Як на маім полі
Пшаніца радзіла,
То й тады да мяне
Радзіна хадзіла.
Як на маім полі
Куколь урадзіўся,
То й тады ад мяне
Ўвесь род адбіўся.

573. Ляцела зязюля цераз сад, куючы,
Заплакаў Іванька, з вячоркаў ідучы.
Прыходзіць дадому — не кажа нікому,

Кладавіцца спаці на белай кравацi.
Прыйшоў рана бацька, стаў Іваньку будзіці:
— Уставай, родны сыну, пойдземо гараці.
— Я не ўстану, не пайду гараці,
Бо не здужаю на валы гукаці.
Прыйшоў яго брацец і пачаў прасіці:
— Уставай, родны браце, пойдземо касіці.
— Я не ўстану, не пайду касіці,
Бо не здужаю косаньку насіці.
Прыйшла яго маці, стала наракаці:
— Было табе, сынку, дзяўчат не кахаці.

574. — Ой, два нас, два нас, матулю, два нас,
Ой, аддай, аддай сваю дочаньку за нас.
— Ой не для вас я дочку гадавала,
Каб за вас яе аддавала.
Гадавала яе для млынаровага сына,
Каб на яе камень і вада рабіла.

575. Ой, ляцеў варон і з чужых старон, ножанькі пагібаўшы.
Ой, бяда-бяда ў чужой старане, радзінанькі не знаўшы.
Радзіна едзе, двор мой мінае, то як мяне не знае.
Я тое бачу, жаласна плачу, маё сэрцайка вяне.
— Дай мне, брацiку, два музыканты, каб харашэнька гралі,
Каб для мяне, маладзенькае, дарожанькі пратаптaлі.
Выйду я за сад — Дунай воду калыша,
Дзесь мой браточак, дзесь мой міленькі да мяне лісты піша.
Ой, адзін піша, другі адсылае:
"Дзесь тут сястронка наша родная, а ў гасціне не бывае".

576. Далёка чуваці такую навіну:
Забілі Петруся, забілі ў Жыліне.
— А за што забілі, за якую віну?
— Што сваю мае, чужую кахае.
Чатыры служанкі пані па Петруся слала,
А за пятым разам сама паехала:
— Кінь, Пятрусь, у полі араці —

Няма пана дома, будзем панаваці.
Сквапныя служанкі пана азнаймілі —
Новы двор парабкі абступілі.
Выглянула пані з новага пакою —
Убачыла пана на вараным коню:
— Уцякай, Пятрусю, уцякай, сардэнька,
Бо ўжо пан прыехаў — будзе нам цяжэнька.
Білі Петруся цэлы тры гадзіны,
Аж убачылі, што Пятрусь няжывы.
Узялі Петруся пад белыя бокі
Ды ўкінулі яго ў Дунай глыбокі.
У Дунай глыбокі, у быструю воду —
За яго цудную ўроду.
Вяльможна пані ў сенях стаяла
І сваім рыбакам па таляру дала:
— Ідзеце, рыбачэнькі, Петруся лавіці,
Будзеце ад мяне дар вялікі меці.
Шукалі Петруся чатыры гадзіны,
Знайшлі Петруся ў вялікай глыбіне.
Няма каму даці да маці паслаці,
Каб прыбыла Петруся хаваці.
— Не плач, маці, не плач, — кажа пані, —
Бо я сама плачу, я за тваім сынам
Гонар, панства, жыццё трачу.

577. А ў каморы ды за дзвярыма*
Стаіць ложка з гарахавінай,

А на тым ложы Юрачка ляжыць,
У правай ручаньцы скрыпачку дзяржыць.

Скрыпачка грае аж прамаўляе —
Хто яго знае, што ён думае?

А ён думае Ірачку браці,
Купіў ёй серпіка — не ўмее жаці.

Шахнула-махнула вышэй сябе:
— Не жала ў баценька, не буду і ў цябе.

---

* У кожным двухрадкоўі першы радок паўтараецца.

А ў баценька ўсё жыта ды пшаніца,
А ў цябе, мой мілы, куколь ды мятліца.

Я ў баценька спала ў пярынах,
А ў цябе, басата, у гарахавінах!

578. Ляцела зязюля цераз сад, куючы,
Плакала дзяўчына, за старога йдучы.
— Умры, стары, умры — за маладога выйду,
То, можа, я сабе шчасце-долю знайду.
Памёр стары, памёр — за маладога выйшла —
І шчасце згубіла, і долі не знайшла.
— Устань, стары, з ямы, глянь на мае раны,
Што мне нарабіў малады каханы.
— Тады праклінала, цяпер прабуджаеш —
І ўсё мне, старому, спакою не даеш.

579. Пяюць, пяюць першы куры —
Я ў карчомцы п'ю.
Другі куры заспявалі —
Я й не думаю.
Трэці куры заспявалі —
Я з карчомкі йду.
Судосіла дзевярыка
Ў вішнёвым саду:
— Братавая маладая,
Жаль жа мне цябе —
Нагатовіў твой міленькі
Нагай на цябе.
— Дзевярыку-саколіку,
Барані мяне,
Ёсць у мяне пас ядвабны —
Будзе для цябе.
Чуе тое мой міленькі,
Пасцель сцелючы:
— З кім ты, міла, гаварыла,
З карчмы ідучы?
— Гаварыла, гутарыла
Ні з кім не з чужым,

Толькі ў садзе жартавала
З брацікам тваім.
— А я той пас ядвабны
То й сам знашу,
А твае белы плечы
Нагаём спішу.
— Ой, не будзеш, мой міленькі,
Ты жа ж мяне біці —
Як мы ляжам пад радзенца —
Станеш салодка любіці.

580. Ой, няма ўжо горш нікому,
Як той сіраціне:
Ніхто не прыгорне
Пры ліхай гадзіне.
Не прыгорне бацька,
Не прыгорне й маці —
Можа, той прыгорне,
Што думае браці?

581. Як памерла матуленька,
Ажаніўся татуленька,
Паслаў сіраціну
Ў сыр–бор па маліну.
Ужо сонца заходзіць —
Сірата не прыходзіць.
— Ідзі, бацька, пашукаці
Свайго ты дзіцяці.
Ой, стаяла каліна,
А пад ёю магіла.
Туды сіротка хадзіла,
Сваю мамку будзіла:
— Устань, мамка, маманька,
Цябе кліча твая дзяцінка.
Пашкадуй ты сіроцінку —
Памый мне галоўку, сярэдзінку.

582. Доля ж мая, доля
Па лесе блудзіла.
Нашто ж мяне маці
Без долі радзіла?
Нарадзіла маці
Ў правадну нядзелю,
Дала горку долю —
Дзе ж я яе падзену?
Павязу ў места
Долю прадаваці.
Знаюць людзі, што ліхая —
Не хочуць купляці.
Ой, вязу я долю
То й з места дадому.
Божа, мой ты Божа,
Што зраблю і з ёю?
Ні яе прадаці,
І не згандляваці —
Ані ліху долю
На людзі аддаці.

583. Жонка мужа набіла ды ў суд падала.
Прысудзілі мужу жонку шанаваці.
Сядзіць жонка на прыпечку, ножку падабраўшы —
Стаіць муж ля парога, шапачку ізняўшы:
— Выбач, міла, што набіла —
Куплю табе гарнец мёду і квартачку піва.
— А ад піва баліць спіна, а ад мёду галава —
Купі ты мне гарэлачкі, каб вясёлая была.

584. Як пісара не любіці, як ён стройна ходзіць?
Русы волас, красны пояс з розуму зводзяць,
Як пісара не любіці — за пісарам добра жыці.
А ў пісара хлеб–мука і шынелька шырака,
Пісар піша і малюе, ён абыме і пацалуе.
Пісар піша — пяром махне, каля ёга ўсё пахне.
Я люблю, я хачу, я за пісарам палячу!

585. Пры карчомцы ёлка — паднялася голька.
Там гуляе Леванёва жонка,
Гуляе–гуляе, пра нішто не дбае,
А хто ж ёй дому даглядае?
Дому даглядае яе родна маці.
Як у нашае Параскі харашэнька ў хаце!
Кошка лыжкі мые, кот пачынкі ўе,
А Лявон сваю Параску дубіною б'е.
— Ой, за што ж ты мяне б'еш, за якія ўчынкі?
Ці я табе не напрала валу тры пачынкі?
Не сама я прала — кума памагала,
Дала я куме міску круп і кавалак сала.

586. Ой, памёр та й мужык,
Ужо й на лаве ляжыць.
Маладая ўдава цешыцца —
Па гарэлку бяжыць.
І гарэлку нясе,
І музыку вядзе:
— Во, цяпер я пагуляю —
Не баюся цябе!

587. Ехаў Ясё з Украіны, згубіў жонку ў каляіне,
Ох, я, бедна я, бедна доленька мая!*
Агляпуўся за тры мілі — ляжыць жонка ў каляіне,
— Чом ты тэды не казала, як ты з воза выпадала,
— Каб ты мужык добры быў — добры возічак зрабіў,
Сяку–таку каламажку — вазіць жонку па кірмашку,
— Каб ты была добра жона, та й сядзела бы ты дома,
Ой, пайду я да каморы — няма хлеба, ані солі,
Пакуль есці наварыла — свіння дзверы паваліла.




---

* Прыпеў "Ох, я ..." паўтараецца пасля кожнага радка.




588. Гэтае ночы стукала, грымела,
Рана нам, рана,
Стукала, грымела.
А я думала, што мой брат з вайны едзе,
Рана нам, рана,
Што мой брат з вайны едзе.
А то татары ўсёй двор зваявалі,
Рана нам, рана,
Ўсёй двор зваявалі.
Заваявалі тры падаляначкі,
Рана нам, рана,
Тры падаляначкі.
Тры падалянкі, а ўсе тры паненкі,
Рана нам, рана,
А ўсе тры паненкі.
Першая плача па русай косаньцы,
Рана нам, рана,
Па русай косаньцы.
Другая плача свае долі ліхое,
Рана нам, рана,
Сваё долі ліхое.
Трэцяя плача па ойцу, па мацi,
Рана нам, рана,
Па ойцу, па маці.

589. Млода дзяўчына, млода, ўскочыла да агрода,
Чырвоны кветкі рвала — на службу наракала:*
— Ой, служба ж, мая служба, ты не родна маці,
Мне галоўка баліць, а пані кажа ўстаці.
Укроіў мне пан хлеба, як кляновы лістэк,
А пані пытаецца: "Ці з'ела дзеўка ўшыстэк?"
— Ой, з'ела, пані, з'ела ў каморы за дзвярыма —
У каморы за дзвярыма залілася слязіма.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

590. Як прыехаў пан Канёўскі та й цёмнае ночы
І спадабаў дзяўчыну, што мае чорны вочы.
Казаў, казаў пан Канёўскі музыкам іграці,
А сам узяў дзяўчыну та й пайшоў гуляці.
Маладая дзяўчынанька жартаў не прымала —
Як адвяла белу ручку, так па мордзе дала.
— Ой, ці будзеш, дзяўчынанька, ты са мною жыці?
Ой, ці хочаш, дзяўчынанька, у сырой зямлі гніці?
— Ой, не буду, пан Канёўскі, я з табою жыці,
Лепей буду, пан Канёўскі, у сырой зямлі гніці.
Сказаў, сказаў пан Канёўскі маляроў зазваці —
Чарнавокай дзяўчынаньцы труну маляваці.
У маладой дзяўчынанькі вышыта сарочка,
Кудой няслі дзяўчынаньку — топтана дарожка.

Moderato 591

Жы- ву ў Ня- меч- чы- не і дум- ку ду- ма- ю:
ад-бі-лась ад ро-ду, ад- бі- лась ад ро- ду — са-ма пра-па- да- ю,
ад- бі-лась ад ро-ду, ад- бі- лась ад ро- ду — са-ма пра-па- да- ю.

591. Жыву ў Нямеччыне і думку думаю:
Адбілась ад роду, адбілась ад роду — сама прападаю.*
Як выйду я на двор, гляну падзіўлюся
На тую ўскраіну, на тую ўскраіну, дзе сонца зыходзіць.
Дзе сонца зыходзіць — там тры дарожанькі:
Там тры дарожанькі, там тры дарожанькі, кудою ехала.
Кудою ехала — за мною маманька,
За мною маманька, за мною родная так горка плакала.
— Не плачце, маманька, не плачце, родная,
Як буду шчасліва, як буду шчасліва — дадому вярнуся.

---

* Кожны другі радок паўтараецца.

Дадому вярнуся, буду гаварыці,
Як нашай моладзі, як нашай моладзі
Ў Нямеччыне жыці.
У Нямеччыне жыці — што хоч есці-піці,
А ўсё няма часу, а ўсё няма часу пісьма напісаці.
Як сяду за стол пісьмо напісаці —
За дробнымі слязьмі, за дробнымі слязьмі пісьма не бачу.

592. Ой, ішоў я да дзяўчыны цераз тры гароды —
Вытаптаў я балабоны, нарабіў я шкоды.*
Зайшоў я дахаты, кажуць жа мне сесці —
Наварылі балабонаў, даюць жа мне есці.
Я на тыя балабоны скрыва паглядаю —
На паліцы — варэніцы, я на іх зважаю.
Стала прымяркаці, паляглі ўсе спаці,
Я за тыя варэнікі — ды й драла із хаты.
Бег цераз падворак, бег цераз гароды —
Заптаўся ў гарбузенні — нарабіў я шкоды.
Прыбягаю да карчомкі: "Добры вечар, людзі!
Выпутайце з гарбузення — гарнец мёду будзе!"

593. Калі я была малая,**
Калыхала мяне мама.
Як я стала падрастаць,
Сталі хлопцы калыхаць.
Калыхалі мяне хлопцы
То ў калысцы, то ў каробцы.
А я спаць не хацела —
Па каробцы драпацела.

594. А я рэдзьку сеяла і яе паліваю,
Як вырасце вяліка — на зіму схаваю.*
А я рэдзьку пакашу, мяту пазжынаю,
Яшчэ замуж не пайду — годзік пагуляю.
У гародзе мята, за гародам мята,

* Кожны другі радок паўтараецца.

** У кожным двухрадкоўі першы радок спяваецца тройчы.

